УДК 821.161.3-8
ББК84(4Беи) Б46

**Бензярук, Р. М.**

Аўтографы: эсэ, абразкі, вершы / Расціслаў Бензярук. — Брэст: Альтернатива, 2008. — 100 с., [2] л. фат.

ISBN 978-985-521-009-3.

Аўтографы — гэта не толькі радкі, пакінутыя на старонках кніг. Шматлікія незабыўныя сустрэчы з цікавымі, неардынарнымі людзьмі, наведванне мясцінаў, што захоўваюць памяць пра іх, — гэта таксама своеасобныя аўтографы, якія ўтрымліваюцца ў архівах аўтара.

УДК 821.161.3-8
ББК 84(4Беи)

ISBN 978-985-521-009-3

## УСТУП,
## АЛЬБО АЎТОГРАФЫ НА ПАМЯЦЬ

Жыццё багатае на незабыўныя сустрэчы з цікавымі, неардынарнымі людзьмі. З некаторымі выпала ліставацца. Першы, хто прыахвочваў мяне дый іншых філфакаўцаў збіраць аўтографы, быў наш выкладчык Уладзімір Калеснік. Бо ён лічыў, што сустрэчы і аўтографы будуць падмогаю, як станем працаваць у школе.

Апавяшчаючы пра вечарыну з удзелам пісьменніка, Уладзімір Андрэевіч наказваў студэнтам купіць кнігі і ўзяць аўтографы. Помніцца, як пасля выхаду першага зборніка „Асколкі і росы" ў Брэст прыязджаў Раман Тармола (зараз свае творы ён падпісвае Тармола-Мірскі).

Мы абышлі ледзь не ўсе кнігарні, але Тармолавага зборніка ў продажы не было. Даведаліся, што адна кніжка ёсць у інстытуцкай бібліятэцы. Прыйшлі прасіць, і бібліятэкары згадзіліся нам даць. Але каму, калі нас пяцёра? Кінулі на пальцах. Кніга дасталася Івану Калянковічу. Ён аказаўся адзіным, хто папрасіў аўтограф у Тармолы. Пісьменнік доўга трос руку шчаслівчыка і гаварыў цёплыя словы.

У Брэсцкім педінстытуце абмяркоўвалі аповесць Алеся Асіпенкі Абжыты кут". Пасля вечарыны ў кароткім даведніку біяграфій „Пісьменнікі Савецкай Беларусі" Алесь Харытонавіч напісаў: „Расціславу — настаўніку без года. Жадаю добрай школы, дысцыплінаваных вучняў і прыгожай жонкі".

Даўно ўжо я пераканаўся, што пакінуты аўтограф — не толькі памяць праз гады пра чалавека, але й часам удакладненне пэўнай жыццёвай даты. Напрыклад, запіс Уладзіміра Караткевіча ў кнізе дазваляе сказаць, што ён выступаў на свяце „Брэсцкая вясна" не проста напрыканцы мая 1964 года, як сцвярджаюць даследчыкі творчасці пісьменніка, а менавіта 22 мая. Бачылаў аўтограф пацвярджае, што ў час сустрэчы ў педінстытуце рэдакцый часопісаў „Полымя" і „Жовтень" („Кастрычнік") з беларускага боку выступалі не толькі Максім Танк і Барыс Сачанка, але і ён, Алесь Бачыла, — адказны сакратар „Полымя". У адным лісце Іван Аношкін расказаў пра сваю сустрэчу ў 90-ыя гады з Васілём Сахарчуком у Мінску, на з'ездзе пісьменнікаў.

На жаль, некаторыя рэчы і лісты беспаваротна страчаны. Не адшукаць ужо кнігу „У гарах дажджы" з Мележавым аўтографам. Згубіліся надпіс на кнізе Янкі Брыля „Працяг размовы" і першы ліст пісьменніка да мяне. Двух лістоў, дасланых летам 1966 года Фёдарам Янкоўскім, таксама не знайсці. Шкада і пісьма Алеся Пальчэўскага,

які прапанаваў перанесці свой прыезд у Бастонскую школу Лунінецкага раёна (была дамоўленасць на сустрэчу), бо галоўны рэдактар часопіса „Вясёлка” Васіль Вітка захварэў і лёг у бальніцу.

Але многае і захавалася. Сёння ў маім архіве захоўваюцца звыш 120 розных аўтографаў. Гэта вершы, напісаныя рукой аўтараў, лісты, паштоўкі, надпісы на кнігах. Уладзімір Ягоўдзік даслаў двухтомнік „Выбранага” і ліст. На адным з тамоў напісаў: „Сябру Расціславу Бензеруку з пажаданнем здароўя і творчага плёну”. Менавіта Ягоўдзік у пачатку 80-х гадоў першы запрасіў мяне выступіць на Брэсцкім тэлебачанні, дзе ён працаваў. Перадача называлася „Казачнік з Жабінкі”.

Каля сарака гадоў звязвае мяне сяброўства з Міколам Чарняўскім. Запомніліся многія сустрэчы, засталіся кнігі з аўтографамі, лісты, паштоўкі. З пачатку 90-х сустракаемся, часам ліствуемся з Нінай Мацяш. На кнізе „Паварот на лета” слынная паэтка і перакладчыца напісала добрыя словы ў адрас ажно трох Бензерукоў: мяне, сына і ўнука Кірылкі.

У Жабінцы мы жылі побач. Было традыцыяй дарыць адзін аднаму выдадзеныя кнігі. Так што кнігі з аўтографамі Алеся Каско і Васіля Сахарчука склалі цэлую паліцу ў маёй бібліятэцы. Захоўваюцца таксама аўтографы Івана Арабейкі, Леаніда Дранько-Майсюка, Уладзіміра Саламахі, Алеся Махнача, Уладзіміра Содаля, Леаніда Галубовіча ...

Ідзе час. ён адсоўвае нават самыя радасныя даты, а таксама бязлітасна забірае знаёмых людзей. Ды застаюцца іх кнігі, радкі, напісаныя імі. Застаецца памяць, занатаваная ў аўтографах.

# ПОСТАЦІ

## КРОШЫНСКІ КАВАЛЬ І ПАЭТ

Цягнік, не спяшаючыся, ішоў да Брэста. Ля Баранавічаў за вокнамі прамільгнуў прыпынак „Крошын” — месца, цесна звязанае з жыццём знакамітага земляка — Паўлюка Багрыма.

Мне выпала першы раз прыехаць у Крошын восенню 1988 года. Тут шчыраваў беларускі мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Сымон Свістуновіч. Свістуновічава творчасць аказалася шматграннай: і мастак, і пісьменнік, і журналіст.

Можа, таму ён так блізка прыняў лёс прашчура і шмат зрабіў, каб увекавечыць памяць аб ім? На магіле Паўлюка Багрыма з'явіўся цікавы помнік: дзве невысокія жалезныя пліты, а між імі цягнуцца да святла кветка і жаўрук, што нібыта зляцеў з Багрымавай жырандолі.

Побач — камень-валун, на якім на лацінскай і беларускай мовах выбіта: „Жыццё кароткае — радзіма вечная”. Расказваюць, што Паўлюк Багрым прыблізна такі ж вялікі камень паклаў паблізу кузні ў гонар сяброў, што прыязджалі да яго, ды з цягам часу нехта забраў камень пад пабудову.

Сымон Свістуновіч стварыў гісторыка-краязнаўчы музей, на адкрыццё якога мы і спяшаліся. На павароце да Крошына наш „рафік” дагнаў такі ж аўтобус, у якім ехала дэлегацыя з Мінска. У яе ўваходзілі знакамітыя пісьменнікі і мастакі. Берасцейскую „дружыну” ўзначальваў Уладзімір Калеснік.

У Крошыне, у былым касцёле, і размясціўся музей. Сярод экспанатаў былі Багрымавы партрэты, жырандоля і частка агароджы, выкаваныя паэтам-кавалём, а яшчэ — Свістуновічавы габелены, прысвечаныя Кастусю Каліноўскаму і яго паплечнікам, карціны беларускага мастака Яўгена Куліка, ручнікі-вышыванкі, прадметы ткацтва...

Музей быў арыгінальны, не падобны на іншыя. Ужо тады, на вечарыне паэзіі, загаварылі, што музей, можа быць, скора зачыняць, бо прыхаджане просяць вярнуць ім касцёл.

І сапраўды, калі праз некалькі год я з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры Жабінкаўшчыны пабываў у Крошыне, многія экспанаты „перабраліся” ўжо з касцёла ў мясцовую школу, дзе быў арганізаваны „Музей народных промыслаў і рамёстваў імя П. Багрыма”. Экскурсію праводзіла настаўніца Лілія Голас.

Многае можна было расказаць пра слаўнага земляка, бо яшчэ пры жыцці пачалі складвацца легенды пра Багрыма. Пра сялянскі

бунт, які бачыў і помніў Паўлюк і ў якім прымаў удзел яго бацька Восіп. Пра тое, што малады паэт часта чытаў вяскоўцам вольналюбівы верш Яна Баршчэўскага „Размова хлопаў”, свае творы; што пры вобыску забралі сшытак з вершамі, а самога Паўлюка адправілі ў рэкруты. Пра тое, што навагрудскі юрыст Яцкоўскі надрукаваў „Аповесць майго часу”, дзе змясціў і верш Багрыма „Зайграй, зайграй, хлопча малы...”. Астатнія Багрымавы творы адшукаць не ўдалося.

Пасля 25-гадовай салдатчыны паэт вярнуўся на радзіму, збудаваў кузню і аж да смерці працаваў кавалём.

Тут ёсць яшчэ адна легенда. Сапсаваўся ў пана Завадскага англійскі сцізорык. Паказаў пан ножык Багрыму. Той паабяцаў адрамантаваць і нават зрабіць падобны. Завадскі толькі пасмяяўся. Праз тыдзень Павел Восіпавіч прынёс два аднолькавыя сцізорыкі і прапанаваў: „На, пане, выбірай свой!” Доўга Завадскі разглядаў ножыкі і выбраў, як здавалася яму, лепшы. Якое было здзіўленне, калі, адчыніўшы, прачытаў: „П. Багрым. Крошын”!

...Над зямлёй пралятаюць стагоддзі. Менш пяці гадоў засталося да 200-х угодкаў Паўлюка Багрыма. Знакаміты Крошынскі паэт і каваль і сёння запрашае нас прыязджаць у тыя мясціны, дзе хочацца тварыць, дзе наведвала яго Муза.

## ПАЎЛЮКУ БАГРЫМУ

Як кволы парастак, усё ж такі прабіўся
Між двух пластоў — між польскім і расійскім —
Багрымаў верш. Застаўся на вякі.
Засведчыў: беларускае ёсць слова
І тое, што на гэтай дзіўнай мове
Народзяцца нясмертныя радкі.
Паэт пазнаў салдатчыну, няволю,
Ды лёсу не гнявіў, а жырандолю
Пакінуў нам і той адзіны верш —
Легенду-песню аб сваім народзе.
Між землякоў у радасці і згодзе
У Крошыне,
у памяці,
жыве.
Напісанае, верыў, застанецца:
Не згубіцца,
не згіне,
а прыб'ецца

Да светлых хат, дзе радасць — не прымус,
Каб да травы расінкай прытуліцца,
Каб яркаю вясёлкай заіскрыцца
У краі родным з імем Беларусь.

## ТАК НАПІСАЛАСЯ

Мой трыпціх „Беларускі дудар”, прысвечаны памяці Францішка Багушэвіча, з'явіўся ў „ЛІМе” на адной старонцы з артыкулам Уладзіміра Содаля. Пры сустрэчы Уладзімір Ільіч неяк прызнаўся:

— Я гэтак ужыўся ў тэму, што скажу слова „Багушэвіч” — і нешта ўстрапянецца, зашчыміць унутры!

Содаль, і праўда, меў шмат публікацый і некалькі кніг, прысвечаных паэту. А то прыслаў мне ліст з просьбай расказаць, як напісаўся трыпціх.

Я пачаў успамінаць. Першаю з'явілася другая частка трыпціха „Памаліся, бабулька...”. Я са школьнай пары ведаў Багушэвічавы радкі:

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў.

А ў 94-м раптам яны загучалі неяк інакш. Мусіць, такі быў настрой — і склаўся верш.

Наша паездка па літаратурных мясцінах а сярэдзіне 60-х прыгадалася пазней, пасля прачытання ў часопісе „Крыніца” артыкула прафесара Брэсцкага універсітэта Веры Ляшук пра падобныя вандроўкі з Уладзімірам Калеснікам. Мы гэтаксама былі і каля каменя філарэтаў, і на Навагрудчыне, і на Свіцязі, і ў Мінску, і ў Вільні... Быў і заезд у Жупраны — там, дзе пахаваны Францішак Багушэвіч.

Гэтая згадка падказала напісаць першую частку „Вечны абаронца”. Да трэцяй часткі „Слова роднае” ўзяты эпіграфам заклік песняра: „Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!”

Таму сёння магу сказаць, што трыпціх напісаўся не адразу, не спантана, а пры пэўнай настраёвасці.

## БЕЛАРУСКІ ДУДАР

### І. ВЕЧНЫ АБАРОНЦА

— Дудка грае — ён жывы.
*Віктар Шніп.*

Дарога, лёгкай стужкаю бяжы,
Каб нас завесці да заходу сонца

Туды, дзе жыў Паэт,
Дзе заслужыў
Сабе найменне — вечны абаронца.
Мацею Бурачок, ты ад сялянскіх ніў.
Абшар палескі, цёмны і забіты,
Ты дудкай беларускай абудзіў
І даказаў: край Богам не забыты.
Мінае час,
І колькі на Парнас
Узлезла то пыхлівых, то ціхуткіх.
Прайшло сто год, як ты пайшоў ад нас.
Пайшоў ад нас, але іграе дудка...

## II. ПАМАЛІСЯ, БАБУЛЬКА.

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў.

*Францішак Багушэвіч.*

Ты, бабулька, малілася многа,
І дайшлі твае словы да Бога,
Бо я панам ніколі не быў:
Цяжка крочыў жыццёвай дарогай,
Не зрабіў для народа благога,
Але й славы сабе не здабыў.
Сёння ў чэргі пасталі па славу
Шмат паноў і падпанкаў, хто правіў,
Хто бяздушна абкрадваў народ,
Хто адрокся ад роднае мовы,
Праўду хто падмяніў пустаслоўем, —
І вялікі, і дробненькі зброд.
З імі мне не было па дарозе.
Калі раптам прылягу ў знямозе,
Ці прыдушаць бяда і прымус,
Я не стану прасіць больш нічога:
— Памаліся, бабулька, да Бога
За мяне і маю Беларусь!

## III. СЛОВА РОДНАЕ

Не пакідайце ж мовы нашай
беларускай, каб не ўмёрлі!..

*Францішак Багушэвіч.*

Ці не памерла наша памяць?

Калі жыве, чаму ж тады
Слоў чужародных злая замець
Зноў аддаляе на гады
Нас ад таго, што ёсць Айчына,
Дзе мілы кут, адкуль твой род,
Дзе нам забыцца немагчыма
Пра беларусаў — той народ,
Што ў працы не прывык лайдачыць
І край умела бараніў...
Тут разумееш, што ты значыш,
Якія маеш карані...
Між двух народаў ці не зблудзіш -
Ні расіянін, ні паляк?
Вось слова роднае забудзеш,
Як будзеш жыць?
Скажы мне, як?..

## ЗАКЛІК „МУЖЫЦКАЙ ПРАЎДЫ”

Паўстанне было падаўлена. 22 сакавіка 1864 года яго кіраўнік Кастусь Каліноўскі ў Вільні ўзышоў на эшафот, сказаў сваё апошняе, палымянае слова народу. У гэты час расійскі ўрад стараўся адшукаць тых, хто быў звязаны з народным бунтам. Царскі палкоўнік дакладваў гродзенскаму губернатару, што ля Брэста ў вёсцы Сакі знойдзена газета „Мужыцкая праўда”, якая заклікала да непакорнасці.

У трэцім нумары газеты, перахопленай жандарамі, пісалася: „Няма чаго ждаці ад нікога, бо той толькі жне, хто пасее. Так сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўнай рукою — не шкадуйце працы, каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюскім свеце. Бог нам дапаможа!”

Кожнаму станавілася зразумелым, да якой сяўбы клікала „Мужыцкая праўда”. Сам Каліноўскі ўсведамляў, якую сілу мае друкаванае слова, і, рыхтуючы паўстанне, спадзяваўся, што заклік „Мужыцкай праўды” адазвецца ў сэрцах людзей. Бываў ён і на Жабінкаўшчыне: сведка таму і знойдзеная рэвалюцыйная газета ў Саках.

## КАЛІНОЎСКІ

### I

Збіраў свае войска
Кастусь Каліноўскі.
Ідзі на змаганне, каб скінуць прымус.

„Што любіш?” — спытаюць.
Адказ атрымаюць,
Упэўнены, горды: „Люблю Беларусь!”
„Што ж, вельмі прыемна.
Тады — узаемна!”
Пароль, быццам рэха, пабег па зямлі.
„Хто ў шапцы абветшай?
Адкуль ён?” — „З тутэйшых.
З маёнткаў і сёл касінеры ішлі.
Па волю і права „Мужыцкая праўда”
Паклікала іх на бязлітасны бой:
Шукаць перамогу
І к славе дарогу
На памяць нашчадкам -
нам, дружа, з табой.

II

Хадою цвёрдай, смелаю
ўзышоў на эшафот,
І словы ўзляцелі ў міг,
што кінуты ў народ.
Звярнуўся ён з-пад віселыні
папросту: „Дзецюкі!
Хоць сёння і не выспела,
ды плакаць не з рукі.
Калі „жніва” сур'ёзнага
надыдзе новы час,
Устаньце сілай грознаю -
і шчасце стрэне вас!..”
Пачуўшы, людзі марылі
дажыць да той пары.
...Над Вільняй весняй жаўранкі
заплакалі ўгары.

## АД КУПАЛЬСКАГА АГНЮ

Ад зыркіх языкоў полымя, ад цудадзейнай купальскай расы, з жаданнем усё жыццё шукаць з народам кветку шчасця прыйшоў да нас Іван Дамінікавіч Луцэвіч. Ён увабраў у сябе думкі, памкненні і спадзяванні беларусаў і стаў Янкам Купалай. Ён з намі з дзяцінства і

да старасці, хаця кожны адкрывае свайго Купалу, свайго паэта-прарока.

Мы, заканчваючы школы і інстытуты, лічылі, што вывучылі творчасць песняра калі не „на зубок”, дык усё роўна дасканала і сур'ёзна. А хіба можна было сцвярджаць, што ведаеш Купалу без шмат якіх вершаў, забароненых па ідэалагічных меркаваннях, без трагікамедыі „Тутэйшыя”, без публіцыстыкі?! Адкрываючы новыя старонкі жыцця і творчасці паэта, не раз здзіўляліся: а чаму нам раней пра гэта не сказалі?..

... Лістапад 1969 года. Паездка ў музей Янкі Купалы ў Мінску. Экскурсавод, расказваючы пра апошнія дні жыцця народнага паэта, многіх ашаламіла паведамленнем: Купала, аказваецца, загінуў. Ні ў школе, ні ў інстытуце нельга было даведацца пра гэта. Значна пазней у рамане-эсэ „Як агонь, як вада...” Алег Лойка трохі прыпадыме завесу над трагічнай гібеллю песняра. Але і ён, напэўна, не ведаў усяго.

Толькі ў час перабудовы прыйшлі да чытача і ў школьныя праграмы „Тутэйшыя”, некаторыя вершы. У ліку іх — і „Прарок”, дзе аўтар паставіў праблему паэта і народа, прарока і натоўпу. Гэта ён, прарок, клікаў людзей за сабой, але натоўп, праяўляючы меркантыльнасць, хацеў мець ад гэтага выгаду:

А людзі, глянуўшы на сонца,
Адказ трымалі грамадой:
— Па колькі ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?

Тады ж стала вядома, што паэма „Над ракой Арэсай”, якую ўзнеслі да найвышэйшага дасягнення ў творчасці Купалы і называлі „гімнам сацыялістычнага будаўніцтва”, была напісана паэтам як “замольванне грахоў” нашаніўскага перыяду Да рэвалюцыі Янка Купала быў супрацоўнікам, а пазней і рэдактарам беларускамоўнай газеты „Наша Ніва”, што выходзіла ў Вільні. Там друкаваліся і многія яго творы.

У 30-ыя гады мінулага стагоддзя знайшліся такія, што цкавалі народнага песняра, абвінавачваючы ў „нацдэмаўшчыне”. Купала не нагаварыў ні на сябе, ні на сяброў. Даведзены да адчаю, ён зрабіў замах на сваё жыццё. Перад тым ён напісаў ліст старшыні ЦВК БССР А.Р. Чарвякову: „Ніколі не быў контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся. Быў толькі паэтам, які думаў аб шчасці Беларусі”.

Нажавая рана, дзякаваць Богу, не была смяротнай. Купала вымушаны быў услаўляць сацыялістычную рэчаіснасць. Надрукаваў свой „Ляўкоўскі цыкл” вершаў, паэмы „Барысаў” і „Над ракой Арэсай”. Пазней прыйдзе пераасэнсаванне твораў. Паэму „Над ракой Арэсай” у

школьнай праграме заменяць „Тарасовай доляй”, а затым — і „Безназоўным”. Часопіс „Спадчына” пазнаёміць чытача з Купалавымі артыкуламі, што не перадрукоўваліся... з 1919 года.

Пачатак 90-х гадоў даў мне магчымасць глыбей пазнаць мясціны, звязаныя з народным песняром. Сталі пісаць пра фальварак Акопы, дзе калісьці працавала маці і куды не раз прыязджаў Іван Дамінікавіч. Тут ён быў малады, шчаслівы, закаханы. Тут добра яму працавалася. У Акопах Купала напісаў большасць сваіх паэм, усе п'есы, у тым ліку і несмяротную „Паўлінку”, шмат вершаў.

Калі пра Ляўкоўскі перыяд у жыцці песняра нам ахвотна расказвалі педагогі, пісалася ў падручніках, дык чаму замоўчваліся Акопы? Можа, стваральнікі падручнікаў знарок абыходзілі гэты перыяд у жыцці Купалы, інакш бы ім прыйшлося даказваць, што паэт найбольш плённа працаваў у Акопах у дарэвалюцыйны час? А як тады патлумачыш, што Купалу жывецца і пішацца не лепш у савецкі перыяд?..

Маёнтак Акопы быў знішчаны перад вайной. Зараз тут устаноўлены знак, які сцвярджае, што Акопы — калыска Купалавых твораў.

... Колькі часу ні пройдзе, сярод лепшых сыноў Беларусі будзе вечна ззяць яго імя, імя паэта-прарока, які „зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла”. Новыя пакаленні беларусаў будуць адкрываць для сябе свайго Янку Купалу і знаходзіць у яго творах нешта важнае, запаветнае.

## АКОПЫ. ГОД 1913-ы

Ні рэвалюцый, ні згрызот,
Жыццю яшчэ спакою хопіць.
Паэт на хутары Акопы.
Трынаццаты, шчаслівы год.
І з-пад Купалавай рукі
Радкі кладуцца роўна-роўна:
„Яна і я” ды „Бандароўна”,
„Магіла льва” ды „Прымакі”.
Трывога часам поўніць дом:
Няўжо ваенныя віхуры
Прымусяць нас спраўляць хаўтуры
Зноў над раскіданым гняздом?
Пасля... А сёння — „умалот”:
Паэт, прысеўшы, шпарка піша.
І нават дрэвы шум свой цішэць.

Трынаццаты — Купалаў — год.

## КВЕТКІ І ПАЎЛІНКА

Гэты выпадак мне расказаў галоўны рэдактар „Гродзенскай праўды” Іосіф Іванавіч Вагіна, калі мы сустрэліся з ім у Мінску.

— У маладыя гады, як быў яшчэ не жанаты, — успамінаў дзядзька Юзік, — я працаваў у зэльвенскай раённай газеце. Падружыліся з мясцовай паэткай Ларысай Геніюш. У агародчыку Ларысы Антонаўны заўжды было шмат кветак. Цвілі яны з ранняй вясны і да позняй восені.

Мне, маладому, падабалася дарыць кветкі дзяўчатам ды жанчынам. Бывала, прыйдзеш да Ларысы Антонаўны, а яна абавязкова спытаецца:

— Іосіф, а для каго кветкі? Калі для маладзенькай, дык гэтыя — яркія, чырвоныя. Для сярэдняга ўзросту — пяшчотныя, белыя, а для старэйшага — цямнейшыя, што ў тым куточку растуць...

А то прыехала да Геніюш Паўліна Мядзёлка. Тая самая, што сябравала з Купалам і была першай выканаўцай ролі Паўлінкі ў аднайменнай камедыі.

Гаспадыня запрасіла і мяне. Хораша было піць чай з жанчынамі і слухаць іх размову. Гаворка лілася, журчала, як веснавы ручаёк. Запомніліся ўспаміны Паўліны Вікенцьеўны пра Янку Купалу:

— Найчасцей выпадала нам сустракацца з Янкам, калі я жыла ў Вільні. Моладзь устройвала вечарыны з танцамі. Янка, бывала, прыбяжыць, паскача полечку, спытаецца: „Ну і як вам тут, у Вільні, жывецца? Ці многа ў вас такіх гожых дзяўчат, з якімі можна цікава бавіць час?” Засмяецца і пабяжыць, каб зноў з'явіцца праз хвіліну-другую... Ён мне здаваўся тады трохі легкадумным, і, калі ён прапанаваў выйсці за яго замуж, я адмовіла...

Калі Янкі не стала, я таксама была ў Маскве. Хацела зайсці, паглядзець, ды мяне не пусцілі людзі ў цывільным, але вельмі строгія. Я тады падумала, што ў смерці нашага Янкі нехта вінаваты...

## ВАВЁРАЧКІ

Быў лістапад 1969 года. Я першы раз прыехаў у Каралішчавічы на семінар маладых літаратараў. Усе ведалі, што гэты драўляны двухпавярховы дом належаў калісьці Якубу Коласу, а народны паэт аддаў у дар Саюзу пісьменнікаў БССР, і цяпер тут адпачывалі, пісалі свае творы паэты і празаікі, ладзіліся семінары і сустрэчы.

Трынаццаць гадоў ужо не было з намі дзядзькі Якуба, але вельмі жывая была яшчэ памяць пра яго. Расказвалі, што ў апошнія гады Коласу было няпроста пераадольваць адлегласць ад сталоўкі да дома, і дзядзька Якуб браў з сабою скібкі адрэзанага хлеба. Ён падыходзіў да лавачкі, што стаяла пад сасною, сядаў і пачынаў чакаць, калі знаёмыя вавёрачкі спусцяцца ўніз.

Звяркі настолькі давяралі чалавеку, што бралі хлеб з Коласавых рук. Нам таксама хацелася прыручыць вавёрачак, але яны ніводзін раз не спусціліся да нас. Між голля бачыць даводзілася. Зразумеўшы, што звяркі баяцца нас, пакідалі ім ласунак. Мусіць, яны ўсё ж з'ядалі, бо на наступны дзень хлеба на месцы не было.

## НА СТАНЦЫІ КОЛАСАВА

Цягнік — ад Брэста. Снегу ў нас няма,
Хаця зямля акрыцца хоча пухам,
А ў Коласаве — звонкая зіма
І наваколле беліць завіруха.
Як родныя, мясціны пазнаю,
Бо шмат разоў вы Коласам апеты.
Пра што сняжынкі вёрткія пяюць?
Мо гімн складаюць слаўнаму паэту?
Хадзіў калісь тут мудры гаспадар
У дождж і спёку, як снягі гулялі.
Прынёс народу НЁМАНАЎ ён ДАР,
І НОВУЮ ЗЯМЛЮ мы атрымалі.
Спыніцца б на хвіліну, пастаяць
І на зямлі паэта прычасціцца.
... НА РОСТАНЯХ мы. Колы зноў звіняць:
Цягнік спяшае ў шумную сталіцу.

## БОГАМ ДАДЗЕНЫ БЕЛАРУСІ

Гэтая падзея супала з днём нараджэння Максіма Багдановіча, ягонай 115-й гадавінай. У Брэсце, у абласной бібліятэцы імя М. Горкага, праходзіла прэзентацыя кнігі Ніны Мацяш „Хвіля" і адзначалася 25-годдзе ўтварэння абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Хаця пісьменніцкі юбілей маглі правесці крыху раней, але арганізатары аб'ядналі іх у адну вечарыну.

Сярод гасцей быў і мінскі паэт Эдуард Акулін — малады чалавек з добрым, светлым, адкрытым абліччам. Гэта ён, Эдуард Аляксан-

дравіч, калі надышла пара выступаць, выйшаў з гітарай да мікрафона. Гэта ён назваў Багдановіча паэтам, Богам дадзеным Беларусі. Гэта ён праспяваў пад гітару дзве песні, матывы якіх былі падказаны творчасцю Багдановіча. Гэта ён сказаў:

— Сёння дзень нараджэння прарока Максіма. Бачыце, якое яркае сонца? Я заўважыў, што ў гэты дзень не бывае ні снежна, ні хмарна — заўсёды светла і сонечна. Гэта Максім адтуль усміхаецца нам, радуецца за нас...

Усе міжволі глянулі ў акно, дзе хораша, зусім не па-зімоваму, свяціла сонца.

Эдуард як бы задаў кірунак нашай сустрэчы. Гаворка далей пайшла пра пісьменніцкую арганізацыю, пра новую кнігу Ніны Мацяш, пра светлы вобраз Максіма. Аўтары, у каго былі творы, прысвечаныя Багдановічу, зараз чыталі іх. Я таксама гаварыў, як, будучы ў Крыме, шукаў магілу паэта.

## ЗВАНОЧКІ БЕЛЫХ ЛАНДЫШАЎ

Ён прыходзіў да нас сваімі радкамі: „Здароў, марозны, звонкі вечар! Здароў, скрыпучы, мяккі снег!", „Зорка Венера ўзышла над зямлёю...", „Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня", аповесцю Б. Бур'яна „Ля сіняй бухты", эсэ М. Стральцова „Загадка Багдановіча". Прыходзіў і заставаўся з намі.

Памятаю, як хацелася мне пабываць у Ялце на яго магіле. У васьмідзесятыя гады, калі нават такія, як мы, не вельмі грашавітыя людзі, маглі набыць пуцёўку і паправіць здароўе, я тры разы ездзіў у Крым.

Пасля адной экскурсіі пацікавіўся пра магілу Багдановіча. Ні гід, ні гараджане, да якіх я звяртаўся з запытаннем, нічога не маглі сказаць. Выручыў нечаканы выпадак.

У музеі Пятра Паўленкі, які пасля вайны ўзначальваў Крымскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў СССР, прыцягнуў маю ўвагу лісток з запісной кніжкі, дзе было напісана, што магіла класіка беларускай літаратуры Максіма Адамавіча Багдановіча мае непрыглядны выгляд. Нехта прасіў Пятра Андрэевіча пасадзейнічаць у навядзенні парадку на ёй.

Супрацоўнікі музея, сазваніўшыся з інстытутам літаратуры ў Крыме, далі мне канкрэтны адрас: магіла Багдановіча — на старых гарадскіх могілках у адным квадраце з месцам захавання пісьменніка Мікалая Бірукова. А даехаць туды можна аўтобусам № 15...

На аўтобусным прыпынку ля могілак бабулька прадавала ландышы. Кошт іх самы танны, які можа быць у паўднёвым горадзе, — тры сцяблінкі за дваццаць пяць капеек. Верачы ва ўдачу, я купіў букецік.

На адной з дарожак, якія дзялілі вялізныя могілкі на квадраты, убачыў указальнік да магіл Чэхавых і Бірукова. Праз колькі хвілін я ўжо стаяў ля надмагільных пліт Яўгеніі Якаўлеўны, Марыі Паўлаўны і Міхаіла Паўлавіча Чэхавых. А дарожка павяла далей, да шыкоўнага помніка Мікалаю Бірукову — аўтару вядомага рамана „Чайка". Спусціўшыся ўніз, чытаю сказанае ім: „Слава табе, зямля мая — калыска ўзлёту чалавечага генія і адвагі".

Тут мае вочы слізнулі ўбок і вырвалі два словы: „Максім Багдановіч". Паволі абышоў магілу Бірукова — і вось я ля помніка беларускаму песняру — сціплага, шэравата-белага абеліска.

На ім радкі з „Санета":

Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

А крыху ніжэй — даты нараджэння і смерці.

... Вось і сустрэўся я з табою, Максім Багдановіч. Змог пастаяць побач, думаючы пра цябе. Змог пакласці на тваю магілу белыя кветкі-званочкі, пакланіцца за ўсё, што зрабіў ты для нашай літаратуры. Пакланіўся і за тое, што ты, часта жывучы далёка ад Беларусі, так любіў і аберагаў матчыну мову. І трохі ў гэту хвіліну пашкадаваў, што не было ў маёй руцэ палявога васілька, хораша апетага табою...

## У ЯЛТУ, ДА БАГДАНОВІЧА

Як далёка прытулак знайшоў,
Ды і тут Беларусь, мусіць, сніцца?
Я прыйшоў, каб табе пакланіцца,
Са спазненнем на споведзь прыйшоў.
Я прынёс прывітанне здалёк —
Ад зямлі, тваім вершам апетай,
Ад палёў, у якіх кожным летам
Зацвітае ў жытах васілёк.
Я стаю і маўчу. Цішыня.
Што ж прароцтва, Паэт, не збываецца:
„Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня"?

## ТОМІК ПУШКІНА

Была сярэдзіна чэрвеня 1942 года. Аднойчы пад вечар у дом майго дзядулі Юстына Максімавіча Пратасюка зайшла група партызан разам з камісарам атрада імя Чарнака Леанідам Пятровічам Зяленіным.

Сярод партызан была невысокая маладая жанчына. У кубанцы, падстрыжаная пад хлопчыка.

— А як завуць гэтага маладога чалавека? — пажартавала бабуля Дуня.

— Міша, — жартам на жарт адказала партызанка.

— А, можа, Маша? — усміхнулася бабуля.

Жанчына нічога не адказала.

Як аказалася, бабуля выпадкова адгадала: гэта была Марыя Іванаўна Прошына — жонка Зяленіна. У іх рос маленькі сынок Вадзім. Бацькі мусілі пакуль аддаць дзіця на выхаванне Данілу Нічыпаравічу Андраюку — нашаму вяскоўцу, у якога быў свой пчальнік.

Леаніда Пятровіча зацікавіла, што ў нас, у простай сялянскай хаце, на паліцы стаяла каля дзесятка кніг класікаў рускай і сусветнай літаратуры. Зяленін узяў том твораў А.С. Пушкіна. Кнігу выдалі напрыканцы XIX стагоддзя ў Санкт-Пецярбургу, калі святкаваліся сотыя ўгодкі паэта.

Камісар доўга гартаў томік. А пасля папрасіў, каб далі пачытаць.

— Не хвалюйцеся, — сказаў ён, пакідаючы хату. — Прачытаю кнігу — і вярну!..

Аднак неўзабаве група партызан, вяртаючыся з задання, трапіла ў засаду, і Зяленін загінуў. А ў сорак чацвёртым не стала і Марыі Прошынай. Вадзім выхоўваўся ў сям'і Андраюкоў. Вучыўся ў школе, у суворaўскім вучылішчы ў Казані, ізноў у школе. Ён выбраў самую мірную прафесію: скончыў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут, працаваў прарабам, інжынерам у горадзе над Бугам.

А я, падросшы, у Брэсце, у кнігарні „Букініст" знайшоў пушкінскі томік, выдадзены яшчэ ў 1899 годзе. Такі ж, як быў у дзядулі Юстына.

## НА ЧОРНАЙ РЭЧЦЫ

Жыццё зямное: нараджэнне — смерць,
І толькі геніям наканавана вечнасць…
Мы едзем на экскурсію: цяпер
Пабудзем першы раз на Чорнай Рэчцы.

Для роздуму хвіліна, для тугі,
Хаця прырода цешыцца вясною…
Нам бачацца бялюткія снягі,
Пакропленыя пушкінскай крывёю.
І думае, напэўна, кожны з нас:
„Чаму ў жыцці так многа несуладдзя?
Ліцэйскі сябар секундант Данзас
Чаму дуэлі гэтай не разладзіў?..”
Гады прабеглі, і вякі прайшлі,
Наканаваўшы несмяротнасць песням.
… Пакуль жывуць Паэты на Зямлі,
У іх бяздушна цэляцца дантэсы.

## ЛІСТЫ АД БРЫЛЯ

Пасля інстытута я выкладаў рускую мову і літаратуру ў Лунінецкім раёне. Мае родныя жылі на Жабінкаўшчыне, і я час ад часу прыязджаў да іх. Стала ўжо звычкай: едучы на радзіму, я браў з сабою кнігу ці купляў свежы нумар часопіса, як кажуць, „у дарогу”.

На гэты раз у „Нёмане” ў перакладзе на рускую мову былі змешчаны апавяданні Івана Чыгрынава, Міколы Ваданосава і Міхася Вышынскага. Прадмову да іх напісаў Янка Брыль.

Па маладой нявопытнасці, мне тады здалося, што Іван Антонавіч запомніў маё выступленне ў Брэсце на прэзентацыі яго рамана „Птушкі і гнёзды”, а напісаная ў студэнцкія гады аповесць „Судьба одинокой птицы” якраз падходзіць для часопіса. Дасылаючы яе ў „Нёман”, я прасіў работнікаў рэдакцыі, каб перш-наперш з аповесцю пазнаёміўся… Брыль.

Прайшоў месяц, яшчэ месяц — адказу не было. Пераканаўшыся нарэшце, што маю аповесць не надрукуюць, я зноў паслаў ліст у рэдакцыю з просьбаю вярнуць рукапіс, а заадно ўкінуў у канверт некалькі, як мне здавалася, лепшых вершаў і апавяданняў для дзяцей.

Неўзабаве атрымаў ліст ад Янкі Брыля. Папрасіўшы прабачэння за доўгае маўчанне (хоць павінен быў я прасіць выбачыць за тое, што адарваў ад справы сваёй пісанінай), ён дасканала разабраў усё, дасланае мною.

Знаходзячы творчыя задаткі, асабліва ў апісанні прыроды, Іван Антонавіч, аднак, палічыў, што аповесць друкаваць не варта, бо ў цэнтр пастаўлены не той герой — дэзерцір, пра якога аўтар стараецца расказаць са шкадаваннем і сімпатыяй.

Вершы Брыль прызнаў занадта сентыментальнымі, а вось пра дзіцячыя апавяданні адазваўся станоўча. Болей таго, прапанаваў дапрацаваць „Ленкин характер” і даслаць у „Зорьку”.

Я дапрацаваў твор, але пасылаць у газету не спяшаўся, як увосень нечакана атрымаў з Саюза пісьменнікаў БССР запрашэнне на семінар маладых літаратараў. Здагадаўся, што гэтаму паспрыяў Іван Антонавіч. І праўда, у Каралішчавічах ён адшукаў мяне, і мы гутарылі хвілін дваццаць. Ці спадабаўся яму не надта гаваркі і нават сарамлівы хлопец? Для мяне ж пасля Каралішчавічаў пачаўся новы перыяд: я стаў пісаць па-беларуску, пачаў друкавацца.

Было некалькі сустрэч з Брылём. Вось адна з іх. Я быў у рэдакцыі часопіса „Вясёлка”, як зайшоў Іван Антонавіч. Паздароўкаўся з усімі і пачаў расказваць, як адпачываў на поўдні, як хадзіў на пешую экскурсію ў горы.

— Нават маладыя засапліся, а я — не, — усміхнуўся Брыль. (Яму тады было ўжо за пяцьдзесят.)

Потым Іван Антонавіч сказаў, што ідзе ў суд, чым вельмі здзівіў Васіля Вітку. Аказалася, што Брыль запрошаны ў якасці сведкі, бо жанчына, якая была ў іх партызанскім атрадзе машыністкай, збіраецца на пенсію і хацела б, каб ваенныя гады ёй увайшлі ў стаж.

— Я зайду і скажу: „Да, я знаю эту женщину. Она действительно была в нашем партизанском отряде...” І ўсё!

Памятаецца, як на XII з'ездзе не адзін чалавек прапаноўваў Янку Брылю ўвайсці ў склад Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, але той, спаслаўшыся на ўзрост, зняў сваю кандыдатуру на карысць маладых. Калі ж на наступным з'ездзе яго зноў захацелі бачыць сярод сяброў Рады, Іван Антонавіч адказаў коратка і пераканаўча:

— Шчыры дзякуй за ўвагу да маёй асобы! Толькі тры гады назад я па ўзросце зняў сваю кандыдатуру. Хіба ж за гэты час я памаладзеў?..

1998 год не быў юбілейным для Брыля. Мне, аднак, захацелася павіншаваць Івана Антонавіча з яго днём нараджэння і даслаць нядаўна выдадзеную ў Брэсце кніжку вершаў „Тры свечкі”.

Неўзабаве прыйшоў адказ, у якім былі такія радкі: „Толькі што закончыў чытанне „Трох свечак”. Добрая кніга, шчырая, культурная, — з прыемнасцю паўтараю гэта пасля Алесевай (Алесь Каско — Р.Б.) добрай прадмовы.

Віншую Вас з гэтым выданнем, няхай сабе сціплым па тыражы, але, як гаварыў наш агульны з Калеснікам сябар — Фёдар Янкоўскі, і акуратным паліграфічна, і па-сапраўднаму паэтычным”. Атрымаць

такі ліст ад народнага пісьменніка, напэўна, у радасць кожнаму творцу.

На 85-годдзе з дня нараджэння Івана Антонавіча я паслаў у Мінск віншаванне і сваю кніжку казак „Чаму Сонца рана ўстала?”. Брылі ў гэты час жылі ў Крынічным на Гродзеншчыне, на дачы. Сын пераслаў мой дарунак бацьку, і неўзабаве з Крынічнага прыйшоў ліст з падзякай за віншаванне.

Я думаю, што ў гэтыя дні ў Івана Антонавіча было нямала віншаванняў з юбілеем, але ён, Інтэлігент з вялікай літары, не пакінуў ніводнае без увагі. І мне ў тыя дні ўспомнілася, як сам Брыль прызнаваўся, што ў маладыя гады адказаў не на ўсе лісты, дасланыя яму, а зараз гаварыў са шкадаваннем:

— Людзі ж чакалі майго ліста, а я прамаўчаў...

І, мусіць, у душы Івана Антонавіча выпрацавалася адказнасць перад кожным аўтарам пісьма. Яе ён прытрымліваўся да апошняга дня свайго жыцця.

## ЗАКАНАМЕРНАЕ СУПАДЗЕННЕ

У 2006 годзе Дзень беларускага пісьменства супаў з саракавінамі па народным пісьменніку Беларусі Янку Брылю. У гэтым супадзенні мне бачыцца пэўная жыццёвая заканамернасць: звыш 70 гадоў ён служыў беларускай літаратуры.

Першая кніжка „Апавяданні”, якая выйшла больш 60 гадоў назад, засведчыла, што ў літаратуру ішоў самабытны, не падобны на іншых пісьменнік. Прадмову да яе напісаў Кандрат Крапіва.

У 1946-ым, калі ў людскіх сэрцах была яшчэ „свежай” рана ад вайны, многія пісьменнікі звярнуліся да гэтай тэматыкі. Брыль пісаў пра заходнебеларускую вёску. У літаратуры ўжо склаліся свае „стандарты”: багацце і багацеі — гэта зло, а бедны люд нёс з сабою дабро, чалавечнасць. Брылёвыя багатыя вяскоўцы часта мелі нешта людскае, бо аўтар ішоў не ад штампаў, а ад жыцця.

Выдаўшы першую кніжку, Янка Брыль думаў, што развітаўся з заходнебеларускай тэматыкай, але, аказалася, яна засталася з ім да самага канца жыцця. Яна і ў самым значным творы — рамане „Птушкі і гнёзды”. Хаця ў рамана ёсць падзагаловак „Кніга адной маладосці”, а на самой справе — твор пра яго, Брылёва, юнацтва. Бо сам Іван Антонавіч, як і галоўны герой Алесь Руневіч, у трыццаць дзявятым быў прызваны ў польскае войска. Калі Германія напала на Польшчу, трапіў у палон, потым быў пабег, вяртанне на радзіму і

барацьба з ворагам. Усё гэта было ў жыцці, усё гэта складае аснову рамана.

Янка Брыль стварыў ад самай трагічнай кнігі „Я з вогненнай вёскі...”, напісанай разам з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам, і да самай вясёлай аповесці „Ніжнія Байдуны”. Пісьменнік не раз даказваў чытачу сваё непадабенства на іншых. У 60-ыя гады, калі многія сябры па пяру, каб падкрэсліць сваю творчую сталасць, узяліся за вялікія раманы, а то і цыклы іх, — Брыль друкуе кнігу лірычных мініяцюр „Жменя сонечных промняў”. Кнігі, што ішлі ўслед, пацвердзілі: пісьменнік працуе ў малым жанры, дабіваючыся, каб кожная мініяцюра мела закончаны характар і акрэсленую думку. Бо сам Іван Антонавіч лічыў, што „многа напісанага — гэта яшчэ не аповесць і не раман, гэта можа быць і часта, на жаль, бывае бясформеннай масай слоў...”

Брыль усё жыццё па-сялянску ашчадна адносіўся да слова, шукаючы тое адзінае, што будзе якраз да месца. Пісьменнік увесь час займаўся самаадукацыяй (лепшым настаўнікам для Івана Антонавіча была і заставалася кніга). У „Вітражы” адзін з раздзелаў называецца „Пошукі слова”, а ў ім — невялічкая нататка: „Калі я чытаю добрую кнігу, не папракайце мяне ў гультайстве. Не хочаце верыць, што я працую, дык думайце, што я малюся — Слову”.

Нездарма, відаць, Слова напісана тут з вялікай літары, як у Бібліі: „На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова... У Ім жыццё было, і жыццё было святлом для людзей”.

Паэт Леанід Дранько-Майсюк пасля смерці Івана Антонавіча напіша: „Радасна мне ў гэтым развітальным слове казаць пра Янку Брыля, шляхетнага класіка і прыгожага чалавека: ён напісаў цудоўныя творы і стварыў цудоўную сям'ю”.

А гадоў за сорак да смерці народнага пісьменніка Беларусі Міхась Стральцоў прароча ацаніў яго ролю ў літаратуры:”... Брыль сапраўдны мастак слова, дасягненні якога будуць вучыць і ўзнімаць тых, хто прыйдзе пасля яго”.

## ДАПАЎНЕННІ НАЎЗДАГОН

Кніга абразкоў „Жыў на свеце дзед Васіль” была не толькі напісана, але й выдадзена, як сталі вядомыя новыя факты з жыцця В. Віткі. Першы прачытаў у лісце Уладзіміра Ягоўдзіка да мяне: „Што я магу сказаць пра зборнік абразкоў? Атрымаў, дастаў з канверта і, пакуль не прачытаў, у бок не адклаў. Вельмі патрэбная кніжыца! Некаторыя старонкі, як кажуць, проста кранулі за сэрца. Адразу

згадаліся сустрэчы з Цімохам Васільевічам. Асабліва адна з іх — 1 верасня 1986 года. У гэты дзень мая старэйшая дачка Юля стала першакласніцай. Мы аддалі яе ў беларускамоўны клас — адзіны на ўвесь тагачасны Мінск. Расчулены Цімох Васільевіч, які прысутнічаў на школьнай лінейцы, падарыў Юлі свой двухтомнік з вельмі сардэчным надпісам. У мяне, дарэчы, няма ніводнай кнігі з яго аўтографам.

Пазней мне давялося прысутнічаць на пахаванні Цімоха Васільевіча, я нават нёс века ад яго дамавіны...”

Другі факт з Віткавай біяграфіі прачытаў у кнізе мініяцюр Леаніда Галубовіча „Зацемкі з левай кішэні”. Леанід Міхайлавіч згадвае, як аднойчы Цімох Васільевіч пазваніў у рэдакцыю часопіса „Крыніца” і пацікавіўся, у які нумар запланавана яго „постаць”. Галубовіч адказаў, што падрыхтавалі ў 23-ці. З інтэлігентнай празарлівай іроніяй Вітка заўважыў, а ці дажыве ён да 23-га нумара.

Так і здарылася. Яшчэ нумар не быў зроблены, як у рэдакцыю дайшла вестка: памёр Вітка. Раніцай хацеў адкрыць фортку, пацягнуўся ўсім целам — і нечакана асеў на падлогу.

Меркавалі надрукаваць яго „постаць” у рубрыцы „ТЫ” — гэта азначала, як жывога, дзейснага пісьменніка, а прыйшлося перанесці ў рубрыку „Я” — як адышоўшага з жыцця, а не з літаратуры творцы.

У мяне атрымалася амаль тое ж, што і ў Галубовіча. Ягоныя „Зацемкі...” выдадзены гадоў дзесяць назад, дый у маёй бібліятэцы з Лёневым аўтографам кніга даўно стаіць, а гэту мініяцюру прачытаў толькі нядаўна.

Такім чынам, прыйшлося пісаць дапаўненне да выдадзенай кнігі, так бы мовіць, наўздагон.

## ПА ДАРОЗЕ Ў ЕЎЛІЧЫ

Сам нагамі палічы,
Крокаў колькі ў Еўлічы.
Можа, тысяча? Мільён?
Раз ішоў са Слуцка Вітка —
На ім новенькая світка,
А з ім сын — Вісарыён.
Жаўрукі ўгары звінелі,
І палі, здаецца, пелі,
Лёгкая паклажа,
Ды няблізкая дарога
Прытаміла ўсё ж малога.
Сын да бацькі й кажа:
— Як без казкі, не прасі,

Не пайду — тады нясі!..
Расказаў адну, другую
І няведама якую…
Скончыліся казкі!
Можа, сваю скласці?..
Як да Еўлічаў дайшлі,
Казку новую знайшлі…
Ад сяла і да сяла
Пра Вавёрку і Бусла
Казка дзіўная пайшла,
І яе (таму я сведка)
Любяць і бацькі, і дзеткі.

## РАДАВЫ ПРАЎДЫ

Блізка (не па тэлебачанні) я бачыў Васіля Быкава толькі адзін раз. Адбылося гэта ў лістападзе 1969 года. У Доме літаратара праводзіўся чарговы пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі. На яго прывезлі з Каралішчавічаў і нас, пачаткоўцаў.

Пленум зацягнуўся. Пачаткоўцы сабраліся гуртам у фае. Падышоў Вячаслаў Адамчык і прапанаваў свае „паслугі”:

— Хлопцы, я магу паклікаць да вас любога, каб вы пагаварылі! Нават з прэзідыума.

У прэзідыуме сядзелі пісьменнікі-“аксакалы”: Броўка, Лынькоў, Крапіва... Першым паклікалі да сябе Панчанку. Пімен Емельянавіч з'явіўся з радаснай усмешкай:

— Дзякуй вам, хлопцы, што пазвалі. Надакучыла ўжо ў прэзідыуме сядзець. Ані з кім не пагаворыш, бо на цябе ўся зала глядзіць...

Затым Адамчык паклікаў Быкава. Васіль Уладзіміравіч прыйшоў да нас, здавалася, без радасці, з нейкай насцярогай. І, мусіць, нездарма, бо адзін з нас неўзабаве задаў балючае для пісьменніка пытанне:

— Скажыце, Васіль Уладзіміравіч, за што крытыкуюць вашу аповесць „Круглянскі мост”?

Усмешку, якая нарэшце гатовая была з'явіцца на вуснах, Быкаў ураз сагнаў і адказаў рэзка:

— Калі вы чыталі, што крытыкуюць, дык ведаеце — і за што!..

Быкаў павярнуўся і пайшоў. На хлопца, што задаў недарэчнае пытанне, зашыкалі, але было ўжо позна: Васіль Уладзіміравіч аддаляўся ад нас...

У 60-ыя гады Быкава крытыкавалі не за адзін „Круглянскі мост”. Пазней прыйшлі да яго сусветная слава і многія высокія ўзнагароды краіны, але ўсё гэта межавалася з чарговай няміласцю. Бо Васіль

Уладзіміравіч да апошняга дня жыцця быў Рыцарам Праўды, Радавым Праўды. А праўда, як вядома, часта бывае горкай...

Памёр Васіль Быкаў 22 чэрвеня 2003 года — у чарговую гадавіну пачатку Вялікай Айчыннай. Вайна і на гэты раз дагнала салдата. Самага Справядлівага Салдата.

## ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Плакала Белая Русь, прычытала,
Калі яго цела зямелька хавала:
„Якая ж я маці, якая Айчына,
Як не ўратавала найлепшага сына?!
Таго, што заўсёды жыў Беларуссю,
Хаця і далёка знаходзіцца мусіў,
Але не пакрыўдзіўся, дзякаваць Богу,
Дадому вярнуўся з далёкай дарогі,
Каб вецер Радзімы пакуты аблегчым
Навекі ў зямлю каб бацькоўскую легчы...
Якая ж я маці, якая Айчына,
Што не зберагла свайго лепшага сына?!"
Плакала Беларусь.

## АБЛАВА НА БЛІЖНЯГА

Звыш 60 гадоў назад, адразу пасля вызвалення Мінска, у сталічнай кватэры паміраў Кузьма Чорны. З кожным днём ён пачуваў сябе ўсё горш, а ваенныя падзеі патрабавалі свайго асэнсавання, і Чорны, як адпускала трохі хворасць, апантана працаваў над новымі аповесцямі і раманамі.

22 лістапада 1944 года, за некалькі гадзін да смерці, ён роспачна запісаў у сваім дзённіку:"... Я гіну і не магу выкарыстаць як бы трэба было свой талент... Божа, напішы за мяне мае раманы, хіба так маліцца, ці што?"

Шмат якія задумы засталіся не ажыццёўленымі. Але аповесці „Заўтрашні дзень" пашанцавала болей: пісьменнік паспеў завяршыць яе.

У той жа самы час на фронце ваяваў малады лейтэнант, будучы народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Як складзецца ягоны лёс, ніхто не ведаў. Дый сам Васіль Уладзіміравіч наўрад ці мог здагадвацца, што выжыве ў гэтай бязлітаснай бойні (бацькі атрымалі ўжо на яго пахавальную, а на помніку загінуўшым у Кіравааградзе будзе і яго імя), што зменіць пэндзаль на ручку (да вайны Быкаў займаўся ў

Віцебскім мастацкім вучылішчы) і стане сусветна вядомым пісьменнікам. Так, Бог уратаваў Васіля Уладзіміравіча, каб ён расказаў праўду пра вайну. І не толькі пра яе...

Я ж не мог прадбачыць, што пэўны час гэтыя два імя будуць займаць мае думкі адначасова. З творамі Кузьмы Чорнага мы пачыналі знаёміцца ў школе, больш глыбока — на філфаку пédінстытута, але аповесць „Заўтрашні дзень” прачытаў амаль праз 60 гадоў пасля яе напісання.

Будучы ў Мінску, я купіў чарговы том серыі „Беларускі кнігазбор” з „Выбранымі творамі” К. Чорнага. Адразу звярнуў увагу на гэту аповесць — твор, пра які я нічога не ведаў.

Да адпраўлення цягніка на Брэст заставаліся гадзіны дзве, і я, адшукаўшы свабоднае месца ў зале чакання, прыняўся чытаць. Неўпрыкмет „вязкая” чорнаўская проза, дзе адна падзея чаплялася за другую і не адпускала чытача, а таксама сакавітая мова захапілі мяне. Па дарозе ў вагоне я дачытаў аповесць.

Памятаю, першае, што падумалася, калі закрыў кнігу: „Цікава, ці навёў бы Аляксандр Сушчэвіч немцаў і паліцаяў на партызан, калі б ведаў, што там і ягоны сын Коля?” Адказу не было, бо ў аповесці бацька і сын, шукаючы адзін аднаго, так і не ўбачыліся. Сушчэвіч-старэйшы, помсцячы за свае няўдачы тым, хто выстаяў, не пакарыўся ворагу, урэшце павёў аблаву.

Помста за што? За свае няўдачы ў кар'еры, якая іншым, хто аказаўся поруч, прынесла шмат няшчасця, за свае боязь і нікчэмнасць? Хаця помсціць, наадварот, павінны былі Антон Крамарэвіч, па віне Сушчэвіча сагнаны з родных мясцінаў, і вусаты партызан, бязвінна раскулачаны. Але Чорны, глыбока ўнікаючы ў людскія характары, разумеў і нам даказаў, што злачынцамі і крыўдзіцелямі становяцца такія, як Аляксандр Сушчэвіч.

У наступную хвіліну падумалася, што падобны фінал і ў аповесці Васіля Быкава „Аблава”. Толькі тут на старога Роўбу, асуджанага і вывезенага ў Сібір, які асмеліўся збегчы і вярнуцца на роднае котлішча, арганізуе аблаву родны сын Міколка.

Пры розніцы часу (хаця і ў „Заўтрашнім дні” Кузьма Чорны не раз вяртаецца ў перадваенныя гады) у герояў і аповесцях нямала агульнага. Скажам, аўтары ўводзяць у тэкст цэлыя ўстаўныя эпізоды, што дазваляе чытачу ярчэй адчуваць падзеі, хваляванні герояў. У „Аблаве” — гэта забойства адзінокага верабейчыка супляменнікамі, а ў Чорнага — развагі пра кіраўніка-”палена”.

„Каб замест яго паклаў у яго крэсла палена, то тое самае было б”, — скажуць пра Аляксандра Сушчэвіча людзі. У гэтым нам бачыцца

сапраўдны мастакоўскі і грамадзянскі подзвіг Чорнага: ягоны прынцып зусім не ўжываўся са сталінскім тэзісам, што кадры вырашаюць усё. „Гэта, — як лічыць крытык М. Тычына, — бадай, адзіны выпадак мужнага выяўлення гуманістычнай пазіцыі пісьменніка на ўвесь былы Савецкі Саюз”.

Яшчэ адна думка блізіць гэтыя творы: нават у невыносна цяжкіх умовах людзі не павінны губляць чалавечнасці. Хведару Роўбе стары, што пас карову, сказаў пра ягонага сына: „Вунь гэны Роўба: усё мацюгом ды пагрозай, Сібірру палохае... Цяпер жа ён парцейны сакратар. Малады, а нібы той цівун! Ад бацькі адмовіўся. Казалі, і прозвішча меўся мяняць, каб анізвання...”

Такая „характарыстыка” дайшла да бацькоўскага сэрца. „Хведар знянацку адчуў, — піша Васіль Быкаў, — як закалыхалася пад ім зямля і коса паплыло кудысь поле...” І вось аблава, якой кіруе Міколка, загнала яго да балота. Але й у гэту цяжкую хвіліну стары Роўба стараецца шчыра па-бацькоўску апраўдаць сына. „Бедны Міколка! — Раптам падумаў Хведар. — І яму во лезці сюды! Мусіць, аднак, не ад салодкай жызні”. Каб не прынесці сыну яшчэ болей няшчасця і ведаючы, што багна ўмее хаваць тайну, стары Роўба добраахвотна ідзе з жыцця.

І той вусаты, і Антон Крамарэвіч з аповесці „Заўтрашні дзень” маглі расказаць Колю Сушчэвічу праўду пра бацьку. Але яны разумеюць, як цяжка будзе хлопцу, які толькі пачынае жыццё, насіць у памяці такую вестку, і гавораць „святую няпраўду”: не, Аляксандр Сушчэвіч не быў здраднікам. Апошнія Антонавы словы, звернутыя да Колі, гучаць вельмі аптымістычна:

«— Ачуньвай, станавіся хутка на ногі. Кожны новы дзень змяньвае стары. Так усё ідзе да лепшага. Спадзявайся на заўтрашні дзень. Ты яшчэ дзіця. І стаіш напроці свайго веку. Ідзі ў заўтрашні так, як і дагэтуль ішоў. І ён будзе табе повен шчасця”.

І апошняе. Калі „Аблава” заняла сваё пачэснае месца ў школьнай праграме, дык пра аповесць Чорнага старшакласнікі нічога не ведаюць. А шкада. Зараз, пасля смерці і другога пісьменніка-прарока — Васіля Быкава, расказанае аўтарамі ўспрымаецца асабліва трагічна. Яно можа і павінна служыць справе выхавання, як служаць сёння ўспаміны ветэранаў вайны.

## БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ: МІКОЛА ЗАСІМ

Сто гадоў таму на Пружаншчыне ў вёсцы Шані, якую часта яшчэ называюць Шэні, нарадзіўся паэт Мікола Засім.

Неабыякавы да чужога гора, ён рана ў Заходняй Беларусі ўключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. Не раз арыштоўваўся за гэта, сядзеў у турме.

У той час Мікола Арцёмавіч зразумеў, якую сілу мае паэтычнае слова. У 1928 годзе ў часопісе „Маланка" ён надрукаваў свой першы верш „Ні кароўкі, ні мандата". Вострае, часта сатырычнае Засімава пяро дапамагала і ў гады Вялікай Айчыннай вайны змагацца з ворагам. „Партызанскім летапісцам" назваў яго Уладзімір Калеснік. У 1945 годзе Мікола Засім быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў.

У 1942-1944 гадах.ён, інструктар Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта, часта бываў і ў Жабінкаўскім раёне. Пад нізкай вершаў стаіць подпіс „Старасельскі лес". Так, у атрадзе імя Чарнака з'явіўся не адзін ягоны твор. Верш „Памяці партызана" прысвечаны Аляксею Дзмітруку са Сцяброва. Дарэчы, Засім прысвеціць яшчэ адзін верш памяці гэтага адважнага партызана. І пазней, калі працаваў у абласной газеце „Заря", паэт бываў на Жабінкаўшчыне.

Пра гэты перыяд Засімавага жыцця ўспамінае ў сваім лісце Іван Аношкін: „У 50-ыя гады мяне запрасілі ў абласную газету „Заря", дзе бракавала журналістаў. Там я сустрэў першага ў сваім жыцці пісьменніка — Міколу Засіма. Помню яго прыветлівыя шэрыя вочы, добрую ўсмешку на рабаціністым ад воспы твары. Калі падняўся з крэсла, стол перад ім здаўся малюсенькім, а пакойчык — цесным. Працягнуў шырокую моцную руку:

— Будзем знаёмы: Мікола Засім!

Неўзабаве мы пасябравалі, здаралася, разам ездзілі ў камандзіроўкі. Неяк у Пружанах заблукалі ў змрочную, апусцелую будыніну. „Пры панскай Польшчы быў тут астрог, — патлумачыў Мікола Арцёмавіч. — Вось у гэтай каморцы рэбра мне лічылі..."

Калі я вучыўся ўжо ў Мінску, у партыйнай школе, выйшаў з друку зборнік „Вершы" Міколы Засіма. І тут з'явілася ў газеце „Літаратура і мастацтва" не зусім добразычлівая рэцэнзія. Дык няўжо Мікола Арцёмавіч стаў пісаць горш?! Сеў за рэцэнзію, якую надрукавалі ў „Сталинской молодёжи" (цяперашняе „Знамя юности").

Праз нейкі час Мікола Арцёмавіч быў у Мінску, завітаў да мяне ў інтэрнат. Я праводзіў яго на цягнік. Гэта была наша апошняя сустрэча. Я ўжо працаваў у Чэрыкаве рэдактарам раённай „Сацыялістычнай перамогі", калі трапіла на вочы газета з некралогам..."

Памёр Мікола Засім 19 ліпеня 1957 года. У Брэсце на будынку былой рэдакцыі газеты „Заря", дзе працаваў Мікола Арцёмавіч, устаноўлена мемарыяльная дошка.

# ІВАН АНОШКІН І БЕРАСЦЕЙШЧЫНА

Рыхтаваліся да паўвекавога юбілею газеты „Сельская праўда”. Разаслалі лісты былым супрацоўнікам „раёнкі” з просьбай адгукнуцца. Рэдактар Андрэй Падшывалаў даслаў падшыўку „Ленинского пути” (так калісьці называлася наша газета) за 1949 год.

Па-добраму тут выдзяляліся публікацыі Івана Аношкіна: ужо тады адчувалася рука будучага пісьменніка. Іван Архіпавіч нарадзіўся ў 1928 годзе на Магілёўшчыне. З дзіцячых гадоў было шмат перажыта: часы акупацыі, Азарыцкі канцлагер, вызваленне, вучоба ў Суражскім педвучылішчы Бранскай вобласці.

Дваццацігадовым юнаком прыехаў ён у Жабінкаўскі раён, каб працаваць настаўнікам пачатковых класаў. Праз год даў згоду заняць пасаду адказнага сакратара ў рэдакцыі „Ленинского пути”. Матэрыялаў для газеты-двухпалоскі не хапала, і малады журналіст, асядлаўшы веласіпед, ездзіў па раёне. Пісаць часта даводзілася па начах, каб заўтра паставіць у нумар.

Як члену бюро райкама камсамола Аношкіну часта прыходзілася сустракацца з моладдзю, праводзіць сходы, выконваць іншыя даручэнні. Праца ў Жабінцы легла ў аснову аповесці „Чырвоная каліна стаяла...”

За штодзённымі клопатамі Іван Архіпавіч і не ўгледзеў, як запрасілі яго працаваць у „Зарю”, дзе таксама бракавала журналістаў. Тут сустрэў першага ў жыцці пісьменніка — Міколу Засіма. Пасябравалі, разам выязджалі збіраць матэрыялы. Многаму навучыў Аношкіна старэйшы таварыш, вопытны паэт і журналіст.

Іван Архіпавіч шмат пісаў, асабліва ўдаваліся яму крытычныя матэрыялы, за якія меў не адну непрыемнасць. Паслаў аднойчы загадчык аддзела партыйнага жыцця газеты „Заря” Макараў у Жабінкаўскі раён, каб той абагульніў вопыт калгаса „Бальшавік”. Аношкін прыехаў у вёску Крыўляны, пагаварыў з кіраўнікамі гаспадаркі, з калгаснікамі і ў выніку напісаў грунтоўны... крытычны артыкул.

Другі раз атрымаў наганяй ад сакратара абкама партыі па ідэалогіі Луцкіна. У Камянецкім раёне не ладзілася са жнівом і збожжанарыхтоўкамі. Аношкін напісаў крытычную карэспандэнцыю. Усё б нішто, але ўпаўнаважаным на жніве ў гэтым раёне быў усё той жа Луцкін. Ён прыйшоў на партыйны сход у рэдакцыю „Зари” і даў такі прычуханец Аношкіну, што нехта запытаў: „Дык што, Івана Архіпавіча не пашлеце ў партшколу?” — „Наадварот, абавязкова пашлём”, — быў адказ.

Калі Аношкін вучыўся ў партыйнай школе, да яго завітаў Мікалай Кавальчук з Жабінкі, папрасіў падтрымкі. Іван Архіпавіч добра ведаў яго, дапамагаў як селькору. Зараз Кавальчук выконваў абавязкі рэдактара „Ленинского пути”. Не даваў спуску хапугам, марнатраўцам, і яны на яго апалчыліся.

19 красавіка 1955 года Аношкін надрукаваў у „Звяздзе” артыкул у абарону Кавальчука. Газеце адказаў Луцкін: першаму сакратару Жабінкаўскага райкама партыі Алейніку было пастаўлена на від, а другому сакратару Шаўчэнку аб'яўлена вымова. Кавальчука зацвердзілі рэдактарам.

Пасля партшколы Іван Аношкін атрымаў некалькі прапаноў на працу у тым ліку і з брэсцкай „Зари”, але вярнуўся на радзіму, на Магілёўшчыну. Працаваў і вучыўся. У 1964-м завочна скончыў гістарычны факультэт Магілёўскга педінстытута, а ў наступным годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР. Пазней выходзілі кнігі як для дарослых, так і для дзяцей. Іван Архіпавіч успамінае, што першыя творы дасылаў у Мінск, як працаваў яшчэ на Берасцейшчыне.

З 1981 па 1994 гады Аношкін узначальваў Магілёўскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў, займаўся выхаваннем маладых. Адрэдагаваў два калектыўныя зборнікі: „Галасы Прыдняпроўя” і „Дняпроўскія хвалі”. Пра жыццё апошнім часам Іван Архіпавіч расказаў наступнае:

— Жыву, як многія літаратары: нешта напісаў, нешта надрукаваў, але прабіцца ў выдавецтва — страшна падумаць. Дый тыражы, у параўнанні з ранейшымі, смехатворныя. Скажам, мой зборнік „Гори, мой костёр”, выдадзены ў Маскве, меў наклад у сто тысяч экземпляраў. У наш час пра такі наклад нават класікі не мараць. Хаця, як мне здаецца, перамены да лепшага пачаліся ўжо. Хочацца верыць, што самыя цяжкія часы для газет, часопісаў ды выдавецтваў засталіся ва ўчарашнім дні...

## КРЭПАСЦЬ ЖЫВЕ Ў СЭРЦЫ

Пасля яго засталіся кнігі, напоўненыя цяплом і дабрынёй, захаваліся памяць пра цудоўнага чалавека ды радкі Петруся Броўкі:

Скажу я заўсёды таварышу-другу —  
Ніколі, ніколі табе не памерці,  
Калі ты душою, як крэпасць над Бугам,  
Калі гэта крэпасць жыве ў тваім сэрцы.

Абаронца Брэсцкай крэпасці, вядомы пісьменнік і проста высокаінтэлігентны, таварыскі чалавек, Алесь Махнач пакінуў пра сябе добрую памяць.

...1 кастрычніка 1989 года ў Жабінцы праводзілася раённае свята кнігі і беларускага фальклору. Актыўнымі ўдзельнікамі яго сталі самадзейныя артысты, бібліятэкары, члены літаратурнага аб'яднання „Плынь”, што пры мясцовай газеце „Сельская праўда”. І госць з Мінска — Алесь Махнач. Наконт прыезду Алеся Іванавіча былі крыху сумненні: чалавек прайшоў праз горан вайны, зведаў пекла канцлагера, застаўся на ўсё жыццё інвалідам, дый узрост ужо за семдзесят.

Але ў строга вызначаны час ён з'явіўся ў гарадскім Доме культуры. Рухавы, з пасівелаю галавой, з нязменнаю спадарожніцай — кульбаю, Алесь Іванавіч адразу стаў прыкметным на свяце. Нешта ў Махначовым характары было такое, што гуртавала вакол яго людзей розных узростаў.

Калі далі слова, Алесь Іванавіч пачаў гаварыць пра цяжкасці, якія перажывае беларуская мова, а потым, як бы спахапіўшыся, распавёў пра пачатак вайны, юных абаронцаў Брэсцкай крэпасці і нядаўна выдадзеную дакументальную аповесць „Дзеці крэпасці”. Асэнсаванне героікі Вялікай Айчыннай вайны было і ў п'есах „Шпачок” і „Гаўрошы Брэсцкай крэпасці”. Адчувалася, што жыве ў ягоным сэрцы памяць пра крэпасць над Бугам, дзе столькі маладых байцоў трымалі экзамен на жыццёвую сталасць. Услед за рэпартажам са свята мы надрукавалі ўрывак з аповесці і ўсё — нумары „Сельскай праўды” і фатаграфіі — паслалі Махначу.

Можа, гэтым і закончылася б наша знаёмства, але амаль праз дзевяць гадоў нам выпала сустрэцца зноў. У перапынку на XII пісьменніцкім з'ездзе я падышоў, каб павітацца з Алесем Іванавічам. Быў ён усё такі ж рухавы, усё з той жа кульбачкай, толькі валасы сталі малочна-белымі. Першыя словы, сказаныя Махначом, здзівілі мяне:

— А я вас памятаю!

І быццам у пацвярджэнне, пачаў расказваць, што ў „ЛІМе” была невялічкая нататка пра кнігу майго сына Анатоля „Наш край — Жабінкаўшчына”. Што ён, Махнач, схадзіў у бібліятэку, знайшоў і прачытаў кнігу...

Я паабяцаў папрасіць сына падараваць кнігу Алесю Іванавічу. Пасля Толінай пасылкі мы атрымалі аповесць „Камандзір Усходняга форта” пра П. М. Гаўрылава, набор партрэтаў абаронцаў Брэсцкай крэпасці, у тым ліку і Махнача, і тую вядомую нататку з „Ліма”.

Пасля гэтага мы яшчэ сустракаліся, ліставаліся. Ініцыятыва, як мне здаецца, зыходзіла ад яго, Алеся Іванавіча. Так, напрыканцы ліпеня 1999 года Махнач, у прыватнасці, напісаў: „Па запрашэнні Брэсцкага гарсавета быў 24-25 ліпеня гг. на ўрачыстасцях з нагоды 980-годдзя горада над Бугам і 55-годдзя з дня яго вызвалення. З

абаронцаў крэпасці былі таксама запрошаны Герой Савецкага Саюза Мяснікоў, Кюнг, Сакалоў і Валянціна Зенкіна".

На XIII пісьменніцкім з'ездзе беларускіх пісьменнікаў Махнач, заўважыўшы мяне, сказаў:

— Калі шукаеце месца, дык сядайце тут. Пагаворым!

Як мне здалося, усе, хто сядзеў побач, былі тымі людзьмі, з кім хацелася пагаварыць Алесю Іванавічу. Махнач расказаў, што нядаўна з групай пісьменнікаў пабываў на яго роднай Уздзеншчыне. Па дарозе дадому трапілі ў аўтадарожную аварыю. Алесь Іванавіч хваляваўся за лёс сяброў.

Махнач распытваў пра сына, а таксама расказаў, што закончыў кнігу-нарыс пра родную вёску Забалацце. Вось-вось яна павінна з'явіцца ў друку. Ён лічыў, што добра было б, каб Анатоль стварыў кнігу пра адно з паселішчаў Жабінкаўскага раёна.

Адразу за намі сядзеў Алесь Марціновіч. Махнач перадаў яму свой допіс для „ЛіМа". Алесь Іванавіч думаў пра заўтра, пра жыццё, таму для мяне была вялікай нечаканасцю вестка з Мінска пра яго смерць.

## ЛЕЙТЭНАНТ

У Брэст служыць прыбыў здалёк
Бязвусы лейтэнант.
Не ведаў: з-за ракі ў бінокль
Глядзела ўжо вайна.
Калі свінец расплавіў дзень
І змоўкнуў аўтамат,
У рукапашны бой людзей
Павёў той лейтэнант.
Айчына нахілілася: „Хачу
Я раны пазагойваць Махначу..."
І выжыў ён, хаця прайшоў
Скрозь пекла і агні,
Каб расказаць пра тых сяброў,
Хто крэпасць бараніў,
Чыя згарэла маладосць,
Каб знік фашысцкі зброд...
У лейтэнанта кнігі ёсць
Пра сорак першы год.
... Аповесці патрэбны чытачам,
Што засталіся ад Алеся Махнача.

# СУСТРЭЧЫ, СУСТРЭЧЫ…

## ПРА НАСТАЎНІКА ФІЛФАКА

Ёсць людзі, якія ў дзяцінстве ці ў юначыя гады возьмуць цябе за руку і вядуць па жыцці. Часам гэта нават не бацька, а старэйшы таварыш, твой Настаўнік, цяпло і дабрыню якога адчуваеш і тады, калі яго няма ўжо з намі.

Для студэнтаў філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.С. Пушкіна такім Настаўнікам стаў выкладчык Уладзімір Калеснік. У сорак гадоў пра яго ў інстытуце хадзілі легенды, якія мы, першакурснікі, чулі ад старэйшых.

Яшчэ не сустрэўшы Уладзіміра Андрэевіча, мы ведалі, што ён чытае такія цікавыя лекцыі, як ніхто іншы. Пры гэтым расказвае, не заглядваючы ў канспект. Старэйшыя нават трохі страшылі маладых: выкладчык не дапускае студэнцкай расхлябанасці і пошласці. Словам, чалавек настрою: у адзін момант можа і накрычаць, і разбіць твае аргументы, не пакінуўшы камень на камені, і пахваліць.

І праўда. Па выразным чытанні нам трэба было выбраць два вершы — на рускай і беларускай мовах. Адзін я ўзяў з альманаха „Молодой Ленинград”. Верш „Сын” пачынаўся такімі радкамі:

Растает, и в детские голоса
Свой щебет вплетут воробьи…
У мальчика будут твои глаза —
Губы будут мои.

Верш Калесніка развесяліў:

— Бачыце, якая практычная пайшла моладзь! Яшчэ няма дзіцяці, а яны ўжо ведаюць, які будзе сын, на каго будзе падобны.

Быў у мяне і другі верш — „Прызнанне” Сяргея Грахоўскага. Перапісаны з часопіса „Полымя”, ён знаходзіўся ва ўнутранай кішэні пінжака. Варта было палезці ў кішэню, каб дастаць верш, як гэта было расцэнена Уладзімірам Андрэевічам, як расхлябанасць. Я атрымаў сваю „порцыю” крытычных заўваг. Верш Грахоўскага быў раскрытыкаваны. Прыйшлося выбіраць новы…

Калеснік чытаў лекцыі і па беларускім фальклоры. Памятаецца, як на занятках узнікла пытанне пра дабрыню ў творах вуснай народнай творчасці. Дзяўчаты з запалам стараліся пераканаць, як важна быць у жыцці добрым і нават добранькім. Уладзімір Андрэевіч усміхнуўся:

— На добранькіх ваду возяць! Дабро павінна не сюсюкаць, а ўмець пастаяць за сябе...

Мая жонка завочна заканчвала беларускае аддзяленне педінстытута. Яна расказвала, як Калеснік падвёў іх да разумення прыгажосці ў народзе, прапануючы пытанне:

— Скажыце, каго ў беларускіх вёсках у першую чаргу бралі ў жонкі — худзенькую, прыгожую, бы трасцінка, ці поўную, чырванашчокую?

Пачуліся галасы:

— Канечне, худзенькую ды прыгожую.

— Танклявую...

— Э, не, галубіцы іарданскія, стараліся браць у жонкі не худых, а якраз дужых, чырванашчокіх. Гэта быў ідэал прыгажосці! Бо працаваць у вёсцы трэба было...

Уладзімір Андрэевіч меў сапраўды энцыклапедычныя веды, умеў данесці іх да слухачоў і нават па-свойму, па-бацькоўску адносіўся да моладзі: не нёс у дэканат ведамасць, калі ў ёй быў хоць адзін студэнт, які не здаў заліку. Усе любілі свайго выкладчыка.

## ТРЫ ІВАНЫ

Яшчэ без аднаго не ўяўляецца мне вучоба ў педінстытуце — гэта без сустрэч з вядомымі беларускімі пісьменнікамі. Такія вечарыны ладзіў зноў-такі Калеснік. У яго было шмат сяброў у Мінску, і па запрашэнні яны ахвотна прыязджалі ў Брэст. Асабліва, калі выходзіў новы раман ці аповесць.

У першую маю студэнцкую восень завітаў у педінстытут Іван Мележ: толькі-толькі „Полымя” надрукавала яго раман „Людзі на балоце”. Не ведаю, што падказала Калесніку выбраць мяне з усіх першакурснікаў, каб выступіў на прэзентацыі твора.

— А пра што гаварыць? — запытаўся я.

— Прачытаеш раман — выберэш для сябе, што сказаць...

Як часта бывала ў такіх выпадках, часопіс з раманам дастаўся мне ў самы апошні момант. Пісьменнік прыехаў ужо, а я так і не дачытаў рамана, і Калеснік дазволіў:

— Можаш не выступаць!

Але мне ўсё-такі прыйшлося. Надта ўжо многа студэнтаў „насела” на аўтара за дыялектызмы ў мове рамана. Я тады сказаў у падтрымку Івана Паўлавіча, спаслаўшыся на раманы Міхаіла Шолахава, што праз дыялектныя словы ярчэй уяўляеш месца і падзеі

твора. Мележ якраз хораша „ўплёў” у тканіну рамана дыялектныя словы.

За час вучобы ў інстытуце філфакаўцы абмяркоўвалі раманы Івана Шамякіна „Сэрца на далоні”, Янкі Брыля „Птушкі і гнёзды”, Івана Навуменкі „Сасна пры дарозе”, аповесці Алеся Асіпенкі „Абжыты кут”, Аляксея Карпюка „Пушчанская адысея”...

Хочацца паглядзець на трох Іванаў збоку, калі іх крытыкавалі студэнты. Навуменка вёў сябе так, быццам размова ішла не пра яго. Твар Мележа чырванеў, а Шамякін імкнуўся аспрэчваць сказанае.

Варта было аднаму са студэнтаў адзначыць, што ў рамане „Сэрца на далоні” Іван Пятровіч непераканаўча паказаў брыгаду камуністычнай працы, як Шамякін падхапіўся з месца і заявіў:

— Калі вы лічыце, што брыгада напісана непераканаўча, дык вывучце самі і напішыце лепш!..

Перад студэнтамі выступалі таксама Аляксандр Лазнявой, Максім Танк, Барыс Сачанка, Раман Тармола, Іван Калеснік, Рыгор Барадулін, Максім Лужанін, Юрась Свірка... Вечарыны нязменна вёў Уладзімір Калеснік.

Пазней, у студзені 1998 года, мне выпала гаварыць з Адамчыкам. Вячаслаў Уладзіміравіч паскардзіўся, што слаба ведае Берасцейшчыну, бо амаль ніколі не бываў.

— Няўжо вас Уладзімір Андрэевіч не запрашаў выступаць у пэдінстытуце? — пацікавіўся я.

— Не, чаму, было, — згадаў Адамчык, — як напісаў раман „Чужая бацькаўшчына”. Прэзентацыя адбылася ў Брэсцкім педінстытуце.

Мяне тады так крытыкавалі студэнты, што, мусіць, самому Уладзіміру Андрэевічу стала няёмка. Пасля ён сказаў: „Не хвалюйся, Чэсік, перад табой на філфаку выступаў Іван Пятровіч Шамякін, дык яму яшчэ болей дасталося!” Хацеў, канечне, суцешыць мяне. А я што, не разумею: малады максімалізм!..

## „ПАХОД” У НАВУКУ

Педагагічную практыку ў 1966 годзе мне выпала праходзіць у Камянецкай сярэдняй школе. Куратарам быў прызначаны Уладзімір Андрэевіч. Мы былі студэнтамі апошняга курса, і Калеснік, мусіць, ведаў, хто чаго варты, дый давяраў нам, а можа, былі і свае неадкладныя справы. Але ён прыехаў у Камянец толькі адзін раз, 9 сакавіка. На жаль, у той дзень я хварэў, і таму ўрокі за мяне вялі настаўнікі, якія пахвалілі мяне за працавітасць і за тое, што падараваў школе паштоўкі з беларускімі пісьменнікамі. Потым гэта ўвойдзе ў

справаздачу Уладзіміра Андрэевіча аб нашай практыцы. Яна будзе ацэнена адзнакай „выдатна".

Мусіць, нейкім сваім адчуваннем Калеснік зразумеў, што я ўсё-такі пішу для сябе, і аднойчы (было гэта таксама на апошнім курсе) папрасіў даць пачытаць. Я напісаў тады па-руску аповесць „Судьба одинокой птицы". Не скажу, што Уладзімір Андрэевіч быў у вялікім захапленні ад маёй аповесці, але, прачытаўшы, можа, каб не пакрыўдзіць, прапанаваў:

— Паспрабуй надрукаваць у „Нёмане"!

Не, дагэтуль яна нідзе не друкавалася.

Не раз Калеснік рупіўся і пра маю будучыню. Напрыканцы вучобы ён прапаноўваў рыхтавацца і паступіць у аспірантуру. Даведаўшыся, што я хацеў бы быць мовазнаўцам, пазваніў Фёдару Янкоўскаму, з якім сябраваў, а мне даў адрас Фёдара Міхайлавіча і прапанаваў паслаць яму ліст.

У адказ Янкоўскі расказаў аб правілах прыёму ў аспірантуру і запрасіў сабрацца, прыехаць у Мінск, каб пазнаёміцца бліжэй. Я сарваўся і паехаў.

Фёдар Міхайлавіч гаварыў вельмі тактоўна, разумна. Каб я не шукаў начлегу, накіраваў да аспірантаў у інтэрнат. Гаварылі, рыхтавалі разам вячэру. У той час у аспірантуры вучыўся Валянцін Рабкевіч — не толькі будучы навуковец, але й пісьменнік.

Пасля гэтай сустрэчы я зразумеў, што паступіць у аспірантуру мне не „свеціць", бо ў Мінску хапае сваіх разумных хлопцаў і дзяўчат, і яны, скончыўшы курс, застаюцца на кафедры, а тым, хто збоку, прабіцца не проста...

У пачатку 1975 года Вольга прывезла ад Калесніка прывітанне, а таксама прапанову паўдзельнічаць у конкурсе на замяшчэнне вакансіі на кафедры беларускай літаратуры. Я толькі некалькі месяцаў працаваў у рэдакцыі „Сельскай праўды" і разумеў, што чытаць лекцыі не з маім здароўем. Я падзякаваў Калесніку за прапанову, але адмовіўся. Гэтае месца заняў Іван Калянковіч, які ўжо вучыўся завочна ў аспірантуры.

## ТРОХІ ПРА КАХАННЕ

Хіба маглі студэнты здагадвацца, што іх любімы выкладчык закаханы? Што ходзіць на спатканні, піша вершы:

Ты на сустрэчу мне не выйшла,
А я чакаў, а я шукаў...
І столькі раз за гэты вечар

Цябе ў натоўпе сустракаў.

Бо ў кожнай прывабнай постаці ён шукаў і знаходзіў рысы дарагой жанчыны, а потым бачыў яе „ў соннай яве і ў паўсне". Пра гэта мы даведаемся з успамінаў Зосі Міхайлаўны, з кнігі пра У. Калесніка „Пасланец Праметэя".

„Мы пазнаёміліся, — згадвае Зося Міхайлаўна, — на Каляды ў 1957 годзе. У той час, як я пазней даведалася, Валодзя працаваў над заканчэннем кандыдацкай дысертацыі і залечваў туберкулёз, нажыты яшчэ ў партызанах.

У лютым 1958 года ён паспяхова абараніўся, і ў верасні мы пажаніліся. Жыццё з ім было цікавым і насычаным, да таго ён быў вельмі апякунчы, засцерагаў мяне ад усялякіх клопатаў. За яго плячыма я адчувала сябе бяспечнай і шчаслівай".

У Калесніка было многа сяброў, з якімі ён пазнаёміў маладую жонку. Сям'я шмат падарожнічала. Асабліва блізка сышліся з Брылямі. Пасля паездкі на Поўнач Уладзімір Андрэевіч расказваў нам, студэнтам, пра ўбачаную прыгажосць, пра тое, што Іван Антонавіч ахарактарызаваў царкву ў Кіжах, збудаваную майстрамі без адзінага цвіка, адным словам: шышачка! Калеснік быў у захапленні:

— Вось што значыць сапраўднае вока пісьменніка! Ён бачыць тое, што мы, грэшныя, не бачым...

Уражвае апошняя Калеснікава запіска, дасланая Зосі Міхайлаўне на суцяшэнне з бальнічнага ложка: „Мілая Зося! Дажывай спакойна. Я люблю Цябе. І буду любіць, трапіўшы ў пекла, буду радавацца, што Ты недзе ў раю, па заслугах, і няма Табе роўных".

## 17 ВЕРАСНЯ 1964 ГОДА

Адзначалася 25-я гадавіна ўз'яднання заходніх зямель у складзе Беларускай і Украінскай ССР. З нагоды юбілею ў актавай зале Брэсцкага педінстытута сабраліся работнікі рэдакцый двух вядучых часопісаў „Полымя" і „Жовтень" („Кастрычнік").

Вечарыну вёў Уладзімір Калеснік. У сваім некароткім уступным слове ён распавёў, якая барацьба вялася на заходніх землях за далучэнне іх да Савецкага Саюза. Затым даў слова галоўнаму рэдактару „Жовтеня" Расціславу Братуню.

Той пазнаёміў з членамі ўкраінскай дэлегацыі, якая прыехала ў Брэст, расказаў пра свой часопіс і як вакол „Жовтеня" гуртуюцца паэты і празаікі. Пра часопіс „Полымя" гаварыў першы намеснік галоўнага рэдактара Барыс Сачанка. Затым сталі чытаць вершы.

Зноў папрасіў слова Братунь. Ён сказаў:

— За маёю спіною сядзіць вельмі таленавіты паэт і сціплы чалавек — Максім Танк. Яўген Іванавіч не толькі піша харошыя вершы, але й сам прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе ў Заходняй Беларусі. Дамо яму слова.

З другога раду прэзідыума ўзняўся, трохі саромеючыся, Максім Танк. Ён падзякаваў за ўвагу да ягонай асобы, не стаў расказваць пра сваю рэвалюцыйную маладосць, а прачытаў, як усе, некалькі вершаў, у тым ліку і даверасснёўскі „Паслухайце, вясна ідзе...”, які любіў і часта цытаваў Калеснік.

Вечарына прайшла хараша. У кнізе „Пяцьдзесят чатыры дарогі” застаўся размашыста напісаны паэтавай рукой аўтограф: „Расціславу Бензеруку — М. Танк. 17 / IX. 64”.

Пазней, на занятках, Калеснік папракнуў нас за тое, што на вечарыне мы не павіншавалі Яўгена Іванавіча з днём нараджэння, якому споўнілася 52 гады. Забыліся мы тады павіншаваць і самога Уладзіміра Андрэевіча, на дзесяць гадоў маладзейшага.

Згадалася мне гэта незадоўга да 17 верасня 2007 года, калі Уладзіміру Калесніку спаўнялася 85 гадоў, а Максіму Танку — 95. Не аднойчы Уладзімір Андрэевіч выступаў перад настаўнікамі, вучнямі, аматарамі літаратуры Жабінкаўскага раёна. Двойчы прыязджаў да нас і Максім Танк, які выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Пра адну сустрэчу чытачоў і выбаршчыкаў са знакамітым паэтам расказала 24 верасня 1950 года жабінкаўская раённая газета „Ленинский путь”, пра другую — газета ўжо з новаю назваю „Сельская праўда”.

## З МАЛЬБЕРТАМ... ПА ГРЫБЫ

Пра Калесніка загадчык кафедры методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта Уладзімір Сенькавец аднойчы расказаў:

— Неяк у пятніцу ў дэканат філфака зайшоў Калеснік. Быў ён ажыўлены, вясёлы. У пакоі, апроч мяне і Праневіча, нікога не было. Уладзімір Андрэевіч адразу прапанаваў:

— Хлопцы, заўтра едзем у грыбы!

Якія грыбы, калі ўжо зрываліся „белыя мухі”! Але, добра ведаючы, які гаваркі і непаўторны бывае Калеснік у час такіх падарожжаў, мы амаль у адзін голас адказалі:

— Добра, Уладзімір Андрэевіч!

Заўтра, сабраўшыся, паехалі. Калеснік быў вясёлы, усю дарогу жартаваў. Ехалі доўга. Нарэшце, пакінуўшы за сабой невялічкую вёсачку, Уладзімір Андрэевіч сказаў:

— Тут спынімся...

Узяўшы кошыкі, мы вылезлі з машыны. Выйшлі і здзівіліся: ні лесу, ні грыбоў!

Калеснік доўга даставаў з багажніка мальберт з нацягнутым чыстым палатном. Устанавіўшы ў тым месцы, якое было аблюбавана загадзя, ён пачаў маляваць.

Не, у той дзень мы грыбоў не назбіралі, затое ўбачылі, як засяроджана працуе Уладзімір Андрэевіч, як на белым палатне „нараджаецца” ўзгорак, зацярушаны першым снегам.

## З ГРОДЗЕНСКАГА КУТА

А сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў маім партфелі ляжалі дзве аповесці для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту. Хацелася пачуць заўвагі Калесніка аб іх.

Прайшлі тыдні са два, як завёз аповесці ў Брэст. Нарэшце пазваніў Уладзіміру Андрэевічу.

— Прачытаў я твае аповесці, — адказаў ён. — Прыязджай — пагаворым...

І ніякай ацэнкі. Канечне, я падумаў пра горшае: не спадабаліся! З такім настроем я пераступіў Калеснікаў парог. У яго якраз быў Аляксей Карпюк.

На правах гаспадара Уладзіміра Андрэевіч стаў нас знаёміць. Мяне назваў аўтарам харошых аповесцей і казак, а пра госця:

— Аляксей Карпюк — аўтар вядомай аповесці „Данута”...

Мы з Аляксеем Нічыпаравічам літаральна ўчора сустракаліся ў Жабінцы, калі ён са Святланай Яўсеевай выступаў у першай гарадской школе. Наўрад ці Карпюк запомніў мяне, а мне тады прыгадалася, як ён прыязджаў у Брэсцкі педынстітут на прэзентацыю аповесці „Пушчанская адысея”, і я дадаў:

— ... і „Пушчанскай адысеі”,

— І „Пушчанскай адысеі”, — ледзь усміхнуўся Карпюк. — Бачыш, Валодзя, мяне яшчэ чытаюць.

— І доўга будуць чытаць цябе, Лёша, — у такт яму адказаў Калеснік.

Ён правёў нас у кухню, дзе на стале стаяла адкаркаваная пляшка шампанскага, а на талерцы ляжала разламаная плітка шакаладу.

Два бакалы былі напоўнены. Уладзімір Андрэевіч дастаў трэці і сказаў тост:

— Каб мы, хлопцы, ніколі не цураліся адзін аднаго!..

І хаця па ўспамінах Васіля Быкава ды Валянціна Блакіта Аляксей Нічыпаравіч яшчэ задоўга да гарбачоўскай антыалкагольнай кампаніі актыўна змагаўся з п'янствам, але на гэты раз ён ўсё-такі выпіў шампанскага. Было прыемна бачыць, як яны, выхадцы з гродзенскага кута, паважліва адносяцца адзін да аднаго, пакепліваюць адзін з аднаго, даражаць дружбаю...

Аляксей Карпюк выйшаў у суседні пакой, пакінуўшы нас пагаварыць сам-насам. Аказалася, што Уладзімір Андрэевіч не толькі сур'ёзна прачытаў аповесці, але і напісаў рэкамендацыю ад Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР у выдавецтва. Зараз ён гаварыў пра арыгінальнасць пабудовы твораў... Дадам, што „Цвёрды арэшак” з аповесцю „Першы подых вясны” пазней з'явіліся ў кнізе „Добры звычай”.

## У ЖАБІНЦЫ

Нельга назваць ніводнай мясціны у Брэсцкай вобласці, дзе б ні бываў Калеснік, дзе б ні выступаў. Некалькі разоў ён наведваў і Жабінкаўскі раён. і тады, як берасцейскія і валынскія літаратары пабывалі на месцах спаленых фашыстамі вёсак, і на прэзентацыі кнігі Васіля Сахарчука „Ранішні госць”, і тады, як па запрашэнні педагогаў выступаў у Жабінцы перад школьнікамі і моладдзю.

Пра гэтую, апошнюю сустрэчу раскажу трохі больш. Набліжалася 40-годдзе Вялікай Перамогі. Уладзімір Андрэевіч, выступаючы перад маладымі, расказваў, як тэма вайны знаходзіць асвятленне ў беларускай літаратуры. Калеснік трапна характарызаваў ваенныя аповесці Васіля Быкава, раман Івана Чыгрынава „Плач перапёлкі”, іншыя творы.

Была асобная гаворка пра тое, як збіраўся матэрыял і стваралася кніга „Я з вогненнай вёскі...”. Вядома, што аўтарам на чырвоным Калеснікавым „Масквічы” давялося аб'ехаць ледзь не ўсю Беларусь. Сам Уладзімір Андрэевіч хораша фатаграфаваў: ягоныя здымкі ўвайшлі ў кнігу.

Зараз, у прыватнасці, ён сказаў наступнае:

— Матэрыял быў настолькі незвычайны, настолькі цяжкі для ўспрыняцця, бо людзі расказвалі жудасныя падрабязнасці тых вогненных гадоў, што мы маглі працаваць тыдзень, а потым два-тры дні вымушаны былі адпачываць, настройвацца на новыя сустрэчы. Хаця

ўсе мы: і Алесь Адамовіч, і Янка Брыль, і я — самі прайшлі вайну, ваявалі...

Пасля, у каго былі кнігі, падышлі ўзяць аўтограф. У Анатоля (ён тады заканчваў дзесяты клас) была кніга „Я з вогненнай вёскі...”. Уладзімір Андрэевіч напісаў: „Анатолю Бензеруку — з пажаданнем поспехаў у вучобе і шчасця ў жыцці. Уладзімір Калеснік. 27.03.1985 г. г. Жабінка”.

## УСЁ Ж РАССТАННЕ НАДЫШЛО...

У апошнія гады Калеснік цяжка хварэў. Яму час ад часу, каб падтрымаць, рабілі пераліванне крыві. Як бы падводзячы вынікі пражытага, Уладзімір Андрэевіч апантана, наколькі дазваляла здароўе, працаваў над дакументальнай аповесцю „Доўг памяці”. Пра сваю партызанскую маладосць.

Як ні імкнуліся ягоныя сябры адцягнуць хвілю расставання, але яна прыйшла. Для многіх, як і для мяне, яна ўсё роўна стала нечаканай і нясцерпна балючай. Смерць Настаўніка ўраз сабрала ўсё „Берасцейскае вогнішча”. І не толькі. З Мінска прыехалі Янка Брыль, Васіль Жуковіч, Яўген Лецка, Міхась Тычына і іншыя.

У доме Калеснікаў сыходзілася ўся інфармацыя. Прыйшла неспакойная вестка: на месцы, якое выбрала Зося Міхайлаўна, ляжыць вялізная глыба, што без крана не падняць. Таму абралі новае, Васіль Жуковіч сказаў:

— Уладзімір Андрэевіч быў вялікі жыццялюб. Не хочацца яму ісці ад людзей, вось і адцягвае ён хвіліну ростані...

Прыехала каманда вайскоўцаў і знесла труну ўніз. Калі працэсія была на другім паверсе, у кватэры раптам голасна заплакала дзіця. Жыццё працягвалася...

Труна была ўстаноўлена ў педінстытуце. Ва ўрачыстым каравуле стаялі беларускія пісьменнікі: і госці з Мінска, і сябры „Берасцейскага вогнішча”. Выступалі. Янка Брыль перадаў словы падтрымкі ад Максіма Танка, які сам цяжка хварэў, але спачуваў блізкім Калесніка з нагоды такой незаменнай страты.

Іван Антонавіч, бадай, першы гэтак хораша сказаў пра ролю Зосі Міхайлаўны ў жыцці Калесніка. Ёй было наканавана і далей клапаціцца пра яго спадчыну. Адразу скажам, што з яе дапамогай было шмат зроблена па ўвекавечванні памяці Уладзіміра Андрэевіча.

## ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ БЕЗ КАЛЕСНІКА

17 верасня 1997 года. Першы Калеснікаў юбілей без самога Уладзіміра Андрэевіча. На аўтобусным прыпынку я далучыўся да Зосі Міхайлаўны і яе знаёмай, што ехалі на магілу Калесніка. Пакуль чакалі аўтобус, я паспеў падпісаць жанчыне кніжку паэзіі „Тры свечкі”, дзе быў і верш „Ля Берасцейскага вогнішча”.

Першы раз бачыў помнік на магіле Настаўніка. Месца, прызнаюся, было выбрана цудоўнае: Уладзімір Андрэевіч быццам сустракаў і праводзіў кожнага, хто прыходзіў на могілкі. На валуне былі выбіты Калеснікавы словы: „Жыць, каб помнілася твая прысутнасць у свеце”. Гэта было яго жыццёвае крэда, з ім ён збіраў літаратурныя сілы Берасцейшчыны.

Яшчэ была вельмі свежая рана ад страты, і вечарына „Свой след на зямлі”, праведзеная ў Брэсцкай абласной бібліятэцы, не абышлася без сумных нотак. Хаця не адзін раз падкрэслівалася, што сёння адзначаецца дзень нараджэння Уладзіміра Андрэевіча, яго юбілей.

Прысутнасць Калесніка ў зале ўсе адчувалі пастаянна: і тады, як глядзелі фільм пра Уладзіміра Андрэевіча, і як хораша распавядалі пра яго Зінаіда Дудзюк, Генадзь Праневіч, іншыя, і як студэнты чыталі вершы берасцейскіх паэтаў, прысвечаныя юбіляру, і тады, як спявалі пад гітару Сяргей Храмаў ды Алесь Паплаўскі.

... Чалавек жыве, пакуль пра яго не забываюць. Уладзімір Андрэевіч пакінуў пра сябе добрую памяць, якую доўжаць калегі, вучні. Яна ў рабоце навукова-асветніцкага цэнтра, у прэміі, у кнізе „Пасланец Праметэя”, што выйшла да 85-х угодкаў Уладзіміра Андрэевіча. Яна ў імені Ярэміцкай сярэдняй школы, дзе вучыўся Калеснік. На нядаўняй прэзентацыі паэмы Я. Коласа „Новая зямля”, якая нарэшце загучала па-ўкраінску, кіраўнік Валынскага абласнога аддзялення пісьменніцкай арганізацыі Украіны Васіль Гэй сказаў, што сяброўскія сувязі паміж літаратарамі Валыні і Берасцейшчыны пачаліся з незабыўнага Уладзіміра Калесніка.

Значыць, памяць пра Настаўніка захоўваюць паслядоўнікі, якія актыўна працуюць на ніве беларушчыны. У гэтым яго бяссмерце!..

## ЛЯ БЕРАСЦЕЙСКАГА ВОГНІШЧА

Хто дарогу шукаў як бы вобмацкам,
Хто ішоў праз кусты напралом
К Берасцейскаму зыркаму вогнішчу,
Каб сказаць, што на сэрцы лягло.

Разгараліся спрэчкі, што полымя,
Як смалістых падкідваюць дроў...
Ваш бацькоўскі наказ, каб ніколі мы
Не зракаліся праўды, сяброў.
Мы чыталі так вершы, бы ставілі
Усё чыста на кон, што маглі...
Побач з Вамі, любімым Настаўнікам,
Нам жылося лягчэй на зямлі.
... Сёння слёзна, сцюдзёна і воблачна,
Расставанне прыспешвае час...
Век гарэць Берасцейскаму вогнішчу —
Гэта нашая памяць пра Вас.

## „НА ШЧАСЦЕ, ДРУЖА"

Помню, як у студэнцкія гады Уладзімір Андрэевіч Калеснік, іншыя выкладчыкі педінстытута падахвочвалі нас чытаць навінкі літаратуры. Толькі-толькі часопіс „Полымя" надрукаваў раман Уладзіміра Караткевіча „Нельга забыць", а ў інстытуце пачалі рыхтавацца да чытацкай канферэнцыі. На ёй меў прысутнічаць і сам аўтар, але вялікая занятасць, мусіць, „не пусціла". Мая першая сустрэча з Уладзімірам Сямёнавічам адбылася толькі ў маі 1964 года, на гарадскім свяце „Брэсцкая вясна".

Рыгор Барадулін і Уладзімір Караткевіч выступалі на цэнтральнай пляцоўцы ў парку культуры і адпачынку. Першым чытаў свае вершы Барадулін. Аўдыторыя добра прымала яго, дружна пляскала ў далоні, прасіла: „Яшчэ!" Нарэшце Рыгор Іванавіч сказаў:

— Побач нецярпліва чакае сваёй чаргі Уладзімір Караткевіч. Я прачытаю яшчэ адзін верш і дам яму слова, каб так не касавурыў на мяне вочы...

Але чытаў і, як кажуць, збіўся.

— Забыўся, — выйшаў з такога становішча Барадулін, — дык я ўзамен прачытаю яшчэ два.

Прачытаў хораша, зноў заслужыўшы апладысменты, і перадаў слова Караткевічу. Уладзімір Сямёнавіч быў у світэры, малады, прыгожы. Якія вершы ён чытаў на тым свяце, не засталося ў памяці, але рабіў ён гэта з душою, узнёсла, так, што адна жанчына ў сэрцах усклікнула:

— Хораша. Вось гэта паэт!..

Закончыў. Людзі падышлі да пісьменнікаў па аўтографы. Я меў кнігу кароткіх біяграфій „Пісьменнікі Савецкай Беларусі", выдадзе-

ную ў 1959 годзе. Караткевіч на фатаграфіі быў вельмі маладзенькі і худы. Фота, мусіць, не падабалася Уладзіміру Сямёнавічу, і ён побач напісаў: „Дарагому Расціславу Бензеруку на памяць гэты дрэнны партрэт. На шчасце, дружа. Ул. Караткевіч. 22 мая 64. Брэст”.

## КАРАТКЕВІЧ У БРЭСЦЕ

Яшчэ няма ягоных КАЛАСОЎ,
ХРЫСТОС не ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў ГАРОДНІ,
У ДЗІКІМ ПАЛЯВАННІ, у пагоні
Пакуль не чую пошчак капытоў.
А завітала „Брэсцкая вясна”
(Якое ж свята без паэтаў і артыстаў!)
І Караткевіч проста і ўрачыста
Чытае свае вершы. І адна
Жанчына кажа ўзнёсла: „Во паэт!”
Закончыў ён. Аўтографы на памяць.
Ягоныя радкі і сёння раняць:
„На шчасце, дружа, дрэнны мой партрэт!”
Не дрэнны ён — тут Творца малады,
І колькі кніг яшчэ падорыць людзям.
Гляджу і веру:
БЫЎ ён,
ЁСЦЬ
і БУДЗЕ —
Не забяруць яго бяспамяцця гады.

## ЯК СТВАРАЮЦЦА РАМАНЫ

20 снежня 1980 года ў Брэсцкім педінстытуце праводзілася чарговая чытацкая канферэнцыя па творчасці Уладзіміра Караткевіча. Вечарына пачалася пасля 19 гадзін.

Калі я зайшоў у інстытут, у калідоры былі ўжо Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Іван Арабейка, Мікола Цялічка і некаторыя іншыя берасцейскія літаратары, а таксама жонка Караткевіча — Валянціна Браніславаўна. Усе чакалі Калесніка і Караткевіча, якія павінны былі з'явіцца з хвіліны на хвіліну.

Падышоў рэктар інстытута Георгій Андраюк. Ён запрасіў пісьменнікаў да сябе ў кабінет. Не паспелі мы перакінуцца некалькімі словамі, як зайшлі Калеснік і Караткевіч. Твар Уладзіміра Сямёнавіча

быў хваравіты, шэры. Аказалася, прыехаў ён у Брэст з тэмпературай, дый дактары не ведалі, як збіць яе.

Ва ўступным слове Уладзімір Калеснік хораша паказаў ролю і месца Караткевіча ў беларускай літаратуры, а таксама павіншаваў яго з юбілеем: нядаўна пісьменніку споўнілася 50 гадоў і яго ўзнагародзілі ордэнам Дружбы народаў.

Затым выступалі студэнты. Яны ахарактарызавалі паэзію Караткевіча, ягоныя раманы і аповесці „Нельга забыць”, „Чазенія”, „Хрыстос прызямліўся ў Гародні”, „Каласы пад сярпом тваім”, „Дзікае паляванне караля Стаха” і „Чорны замак Альшанскі”.

Мяне здзівіў той факт, што студэнтам удалося прачытаць раман „Нельга забыць”, які друкаваўся ў „Полымі”... яшчэ ў 1962 годзе. Як вядома, набор рамана быў раскіданы і асобнай кнігай „Нельга забыць” выйшаў толькі ў восемдзесят трэцім. Значыць, Уладзімір Калеснік „падштурхнуў” юнакоў і дзяўчат да чытання гэтага рамана, як колісь нас.

Час, адведзены на пытанні, быў яўна перабраны. Бо моладзь не хацела адпускаць пісьменніка. Адзін са студэнтаў зачытаў радкі з рамана „Чорны замак Альшанскі”, дзе Караткевіч пісаў пра сябе, што ён ні тое ні сее, чэша правай рукой левае вуха цераз галаву.

— Хіба можна так пісаць пра сябе? — паставіў пытанне рубам студэнт.

— Пра іншых нельга, а пра сябе — можна, — адказаў пісьменнік і пад вясёлую ўсмешку залы паказаў, як ён чэша вуха.

Мусіць, заахвочаны такім адказам, студэнт задаў яшчэ больш недарэчнае пытанне:

— Адзін з хлопцаў мне сказаў, што Караткевіч пісаў „Чорны замак Альшанскі” левай нагой і седзячы на канапе. Ці так?

Многім стала няёмка, а Караткевіч толькі пасміхнуўся, як бы пакідаючы адказ на больш позні час.

Задаваліся іншыя пытанні:

— Ці не Валянціне Браніславаўне прысвечаны „Чорны замак”? Там жа напісана: „В.К.”

— Ёй. Сілком заставіла дапісаць раман праз дзесяць гадоў.

— Што вас звязвае з Брэстам?

— Многае, вельмі многае — тут знайшоў сябра на ўсё жыццё, — і паказаў вачамі на жонку.

— Ці цяжка пісалася аповесць „Дзікае паляванне караля Стаха”?

— Ой, як цяжка! — звёў усё на жарт Караткевіч. — Тут гаварылі, што я „Чорны замак Альшанскі” пісаў левай нагой і седзячы на ка-

напе. Дык аповесць я зусім пісаў на гарышчы, седзячы на розным бадыллі. Хіба ж не цяжка?

— Ці задаволены экранізацыяй аповесці „Дзікае паляванне караля Стаха”?

— Вельмі не задаволены. Напісаў я сцэнарый, а потым камісія запатрабавала перарабіць некаторыя месцы. Перарабіў, дык тыя ж вучоныя мужы новыя прыдзіркі прыдумалі — і зноў перарабляй. У рэшце рэшт я аддаў сцэнарый рэжысёру: як хочаш, так і дамаўляйся з камісіяй, а я не хачу. Дамовіліся, а затым я ніяк не мог злавіць здымачную групу. Як знарок, хаваліся. А калі паказалі фільм, за вушы хапіўся: Божа, што яны нарабілі! Мяне пачалі супакойваць: па іншых творах яшчэ горшыя стужкі здымалі. Ёсць задумка зрабіць чатырохсерыйны тэлевізійны фільм „Чорны замак Альшанскі”. Я не дам, каб і яго гэтак пакрэмзалі.

— Калі будзе закончаны раман „Каласы пад сярпом тваім”?

— Раман пішу. Частка „Зброя” будзе надрукавана ў „Маладосці” ў 1981 годзе. Сюжэт вострадраматычны. Галоўны герой Алесь Загорскі едзе ў Вільню купляць зброю для паўстанцаў Кастуся Каліноўскага.

Рэктар уручыў Караткевічу Памятны адрас інстытута. Падпісваючы кнігі чытачам, Уладзімір Сямёнавіч пачынаў словамі „мілы” ці „мілая”, захоўваючы да канца вечара атмасферу блізкасці.

## ЗАБЫТЫ АЎТОГРАФ

У чалавека, канечне, ёсць кнігі, што здымае ён з паліцы ледзь не кожны дзень. Чытае, перачытвае. Але ёсць і такія, якія моўчкі стаяць і не могуць дачакацца, калі іх возьмуць у рукі.

Адна з іх — хрэстаматыя „Русская советская поэзия 50-70-х годов” у маёй бібліятэцы. Купленая гадоў дваццаць назад, яна аказалася забытаю на доўгі час.

А то штосьці закарцела ўзяць. Прачытаў некалькі вершаў наўгад, палістаў і раптам наткнуўся на... аўтограф Рымы Казаковай. Паэтка напісала па-руску: „Римма Казакова. 19.1.90”.

Я пасіліўся прыгадаць хоць што-небудзь з той далёкай сустрэчы, але ўсё начыста выветрылася з памяці. Стаў гартаць кнігу, шукаючы якую-небудзь зачэпку. І яна знайшлася. У хрэстаматыі, як закладка, ляжалі два квіткі Усесаюзнага таварыства аматараў кнігі на вечар паэзіі ў ГДК.

Студзень 1990 года. Гэта быў вельмі ўдалы для літаратуры час. Калі кнігі з „даважкай” ахвотна куплялі аматары паэзіі і прозы. Калі

на маскоўскіх і мінскіх паэтаў хадзілі, як зараз на дыскатэку, і літаратары збіралі поўныя аўдыторыі.

У той вечар Рыма Фёдараўна адказвала на пытанні слухачоў, чытала вершы. Гучалі песні на словы Казаковай, бо з паэткай прыехала і кампазітар А. Ільіна. З ёю Рыма Фёдараўна супрацоўнічала шмат гадоў.

І ўсё-такі мне не давала спакою думка, а чаму Казакова, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, прыязджала ў невялічкі беларускі горад і звыш гадзіны выступала перад жабінкаўцамі. Знаёмства з біяграфіяй адказала і на гэтае пытанне. Бацька Рымы Фёдараўны быў родам з Віцебшчыны, а дзяцінства паэткі прайшло на Полаччыне. Як адзначала сама паэтка, з дзяцінства яе акружалі беларускае слова і беларуская песня, у яе роднаснае пачуццё да Беларусі. Яна ахвотна перакладала нашых паэтаў на рускую мову.

У маі 2008 года Рымы Фёдараўны не стала. У некролагу ў „ЛІМе" напісана: „Жыццё І творчасць Рымы Казаковай заслугоўваюць нашай братняй павагі. Будзем памятаць сваю сястру па духу".

## ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТЫ

Аднойчы трохі з іроніяй Уладзімір Калеснік сказаў пра паэта-франтавіка Міколу Цялічку:

— Ён — сапраўдны інтэрнацыяналіст: нарадзіўся і вырас ва Украіне, жыве ў Беларусі, а піша па-руску.

Не ведаўтады я, што сам Цялічка гэтакжа адазвецца пра вядомага на Брэстчыне паэта Міколу Засіма. Бо той дасканала ведаў беларускую, рускую, украінскую і польскую мовы. Было гэта 19 лістапада 1983 года, калі група берасцейскіх пісьменнікаў выступала ў Брэсцкім педінстытуце з нагоды 75-годдзя нараджэння Міколы Засіма.

Мікалай Рыгоравіч расказаў тады такі выпадак:

— Я жыў у Кобрыне, працаваў загадчыкам райана. Неяк прыехаў да мяне Мікола Засім. Сядзелі ў маім доме за чаркай, гаварылі. Засім так хораша выказаўся па-ўкраінску, што я міжволі ўсклікнуў: „Мікола, дык ты ж сапраўдны хахол!" Тады Мікола Арцёмавіч пераходзіць на беларускую мову і сыпле словамі-залацінкамі.

На тым юбілейным вечары Мікола Рыгоравіч прачытаў некалькі Засімавых вершаў, у тым ліку і знакаміты „Хваліць пан сваю культуру", у сваім перакладзе на рускую мову. Не надта шанцавала Засіму на перакладчыкаў, і Мікола Рыгоравіч, можа, быў першым пасля Аляксандра Твардоўскага і Міхаіла Луконіна, хто ўзяўся перакладаць яго вершы.

## „АД ДУШЫ. І НА ЎСЁ ДОБРАЕ...”

Памятаю першую сустрэчу з Міхасём Рудкоўскім. У Брэсце праводзіўся абласны злёт пераможцаў конкурсу вучнёўскіх сачыненняў на тэму: „Ленін з намі”. У ліку іх была і васьмікласніца Азяцкай сярэдняй школы Надзея Федарук — мая вучаніца.

Перад настаўнікамі і вучнямі выступалі члены літаб'яднання „Зараніца”: Уладзімір Калеснік і Міхась Рудкоўскі, Іван Арабейка і Мікола Купрэеў, Анатоль Гарай і Мікола Цялічка, Святлана Курылёва і Мікола Пракаповіч.

Мы сфатаграфаваліся. Пакуль гаварылі пісьменнікі, паспелі зрабіць фота. Я са сваім падышоў да Міхася Міхайлавіча і папрасіў аўтограф. Ён прыгожым, каліграфічным почаркам напісаў: „25.04. 74. Ад душы. І на ўсё добрае. М. Рудкоўскі”.

Пасля таго мы сустракаліся не аднойчы, разам выступалі перад студэнтамі Брэсцкага педінстытута, Міхась Рудкоўскі з Іванам Арабейкам прыязджалі ў Жабінку, чыталі свае вершы ў гарадскім Доме культуры. Аўдыторыя аказалася вельмі добразычлівая: было ціха-ціха, як выступалі паэты, а потым дружна пляскалі ў далоні, што аж расчулілі Міхася.

Але самая памятная, бадай што, была сустрэча напрыканцы красавіка 1977 года. На абласным тэлебачанні здымалі літаратурнае аб'яднанне „Плынь”, што працавала пры жабінкаўскай раённай газеце „Сельская праўда”. Увесь час сачыў за намі, „хварэў” за нас Міхась Рудкоўскі. Выступленне прайшло без сучка і задзірынкі.

За некалькі дзён да гэтага ў Міхася Міхайлавіча быў дзень нараджэння, але ён тады знаходзіўся ў камандзіроўцы, і толькі сёння жанчыны з тэлебачання ўручылі яму падарунак. Як гэта парадавала Міхася Міхайлавіча! Ён кожнаму паказваў новую кашулю, гаварыў, як яму тут добра працуецца, што ўсе яго тут паважаюць.

Потым мы вырашылі адзначыць першае выступленне на тэлебачанні. Сярод нас была маладая паэтка Людміла Зубачова. Яна і стала аб'ектам абагаўлення Міхася Міхайлавіча. Рудкоўскі прачытаў ёй свой верш „Паядынак аленяў”, дзе алень-пераможца

... перад стройнай, як песня, аленіхай —
перад ёй на калені ўпадзе.

Міхась стаў на калені і пацалаваў руку Людмілы.

— Вось так я пісаў у маладыя гады, — уздыхнуўшы, сказаў ён.

Хаця пайшоў яму толькі сорак другі год...

Калі Рудкоўскага не стала, цела яго завезлі на Ганцаўшчыну і пахавалі на кладах у роднай вёсцы Востраў. Школа, у якой вучыўся паэт, стала насіць яго імя.

Я напісаў верш „Паэтаў Востраў”. Аднойчы Алесь Каско папрасіў мяне перапісаць верш начыста. Ён ехаў на Ганцаўшчыну, дзе адкрывалі музей Міхася Рудкоўскага, і абяцаў, што мой аўтограф знойдзе месца сярод іншых экспанатаў.

## ПАЭТАЎ ВОСТРАЎ

Ёсць Востраў у мяне...
*Міхась Рудкоўскі.*

Пачнем расказваць, быццам казку, проста:
Жыў-быў Паэт і ў спадчыну меў Востраў.
А Востраў той, і блізкі, і адзіны,
Быў для яго часцінкаю Радзімы.
Ён адчуваў заўсёды повязь востра
З зямлёю, дзе ёсць вёска з назвай Востраў:
Была яна і праўдаю, і верай
І клалася радкамі на паперу...
Калі ж улетку песняра не стала,
Бацькоўская зямля засумавала,
Як ён па ёй. Здалася цяжкай ростань,
І ён паплыў...
паплыў дамоў,
на Востраў.

## ЧАГА АД КУПРЭЕВА

Гэта быў час, калі Мікола Сымонавіч Купрэеў мог, „узброіўшыся” кульбаю, прыехаць у Жабінку, пажыць тут дзень-другі, а пасля вярнуцца на Пружаншчыну.

На гэты раз Мікола ў рэдакцыі не застаў Васіля Сахарчука і засядзеўся ў маім кабінеце. Гаварылі пра рознае... Нейк мімаходзь я заўважыў, што пачынаў настаўнічаць у вёсцы Бастынь Лунінецкага раёна.

— О, я знаю гэту вёску! — ажывіўся Мікола Сымонавіч. — У гасцях у Паўла Зылевіча, што зараз працуе загадчыкам райана, быў.

— Паўла я таксама ведаю, — у сваю чаргу прызнаўся я. — Вучыў яго ў дзесятым класе.

Аказалася, што Мікола Сымонавіч працаваў у Вульцы-2 і жыў у школьным інтэрнаце разам з Зылевічам. Пазней, калі Купрэеў застаўся без працы, а ганцавіцкі загадчык райана паабяцаў яму месца, але ўсё цягнуў з напісаннем загаду, Мікола пры сустрэчы расказаў пра гэта Паўлу Іосіфавічу. Той звёў яго з загадчыкам райана, і Купрэеў атрымаў працу...

Зараз Мікола Сымонавіч пакорпаўся ў сваёй паходнай торбачцы і дастаў адтуль чагу — нарасць на дрэве. Пачаў расхвальваць яе лячэбныя якасці. Толькі я не змог іх праверыць, бо чага перакідвалася з месца на месца, аж пакуль не згубілася.

## ТРЫПУТНІК, ЯКІ ЦВІЦЕ І ЎЗІМКУ

25 мая — дзень нараджэння Міколы Купрэева. Напярэдадні ягонага 70-годдзя памяць паклікала мінскіх і берасцейскіх пісьменнікаў у Івацэвічы, дзе Мікола Сымонавіч знайшоў свой апошні прытулак. Ад Жабінкі ў вечарыне бралі ўдзел Алесь Каско і я.

Выступоўцы гаварылі пра дзіўны характар Міколы Купрэева і ягоную цягу да перамены месцаў. Калі трэба сёння пералічыць мясціны Брэсцкай вобласці, знітаваныя з яго імем, дык высветліцца: у кожным раёне ён бываў, меў добрых сяброў, настаўнічаў на Ганцаўшчыне, Пружаншчыне, Жабінкаўшчыне, пад Івацэвічамі ды Лунінцам. У іншых раёнах быў супрацоўнікам газет ці прыязджаў на вечарыны і сустрэчы.

Мне згадваецца выпадак з недалёкага мінулага. Збіраючыся на пісьменніцкі з'езд, мусіць, ніхто не чакаў сустрэць там Купрэева (ён ужо з цяжкасцю хадзіў). Таму было вельмі радасна, што менавіта Мікола Сымонавіч сустракаў нас ля ўваходу ў Дом літаратара. Аказваецца, ведаючы, што дабрацца яму будзе нялёгка, ён прыехаў загадзя, пераначаваў у Міколы Трафімчука і першы з'явіўся на з'езд. Дадому пісьменніцкая „дружына" Берасцейшчыны ехала ў поўным складзе са старэйшынаю Купрэевым.

За сваё жыццё Мікола Сымонавіч паспеў выдаць дзве кнігі паэзіі: „Непазбежнасць" і „Правінцыйныя фантазіі" (апошняя была адзначана Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова). Яшчэ надрукаваў некалькі аповесцяў у часопісе „Крыніца".

Пасля смерці Купрэева аповесці былі сабраны пад адной вокладкай і адзначаны прэміяй Уладзіміра Калесніка, а ўсяго гэтага аказалася дастаткова, каб яго імя заняло пачэснае месца ў беларускай літаратуры.

У гэты ж дзень госці пабывалі на магіле Купрэева, усклалі кветкі. На вялікім валуне адбітак аблічча пісьменніка, гады яго жыцця, а таксама трыпутнік-кветка, што цвіце. Трыпутнік па-руску азначае „подорожник”. Ён, як сімвал, расказвае пра паэта-вандроўніка, які вяртаўся з падарожжаў з новымі ўражаннямі, з новымі задумкамі і вершамі, а то ў дарозе губляліся тыя, што былі напісаны раней.

Трыпутніку цвісці і гарачым летам, і сцюдзёнай зімою. Бо гэта таксама сімвал, што створанае Купрэевым патрэбна наступным пакаленням, што цяга да яго творчасці не змяншаецца. Дарэчы, пра вандроўніка Купрэева напісалі ў вершах В. Сахарчук і А. Каско. Гэтакі ж герой і ў вершы „Сон”, прысвечаным Міколу Купрэеву.

### СОН

Прыснілася, нібы з дарогі
Я прыблукаў у родны край,
Слабы, знявечаны, нямоглы,
Не радаваў зялёны май.
Аперся на крывую кульбу,
Як акружылі землякі,
Спыталіся ў мяне: „Адкуль ты
Прыйшоў да нас і хто такі?”
Яны, дальбог, не пазнавалі,
Хоць я прайшоўся па двары —
Там, дзе маленства выспявала
Сярод шумлівай дзетвары.
Хацеў сказаць: вунь дом і груша,
А глянуў — кожны маладзей
Быў за мяне. Я моўчкі рушыў
Упрочкі ад сваіх людзей.
Яны прайшліся недалёка.
„Бывай!” — сказалі наўздагон.
Я зноў, як вецер, адзінокі.
... А можа гэта быў не сон?

### СВЯТЛІСТАСЦЬ ДОЛІ І РАДКА

Некалі Ніна Мацяш напісала:

Лёс мой,
лёс мой — цяжкі колас,
часам — цяжкі камень...

Мне люляць цябе да скону
кволымі рукамі.

Перад мужнасцю і шматгранным талентам паэткі сёння схіляюць голаў усе. Яшчэ ў студэнцкія гады (Н. Мацяш скончыла інстытут замежных моў у Мінску) здарылася няшчасце: з-за цяжкай хваробы яна на ўсё жыццё засталася прыкаванай да інваліднай каляскі.

У інтэрв'ю жабінкаўскай раённай газеце „Сельская праўда” Ніна Іосіфаўна сказала: „Мне заўсёды дапамагала і дапамагае выстаяць паэзія. Калі б не здарылася бяда, што абмежавала мае фізічныя магчымасці, мо я і не ўзялася б за літаратуру, мо пісала б не так і не так багата перакладала б з іншых моў. Яшчэ адно надзейнае апірышча — сябры”. Сапраўды, дзе б ні была Мацяш, заўсёды побач былі яе надзейныя таварышы: Янка Брыль, Уладзімір Калеснік, Васіль Жуковіч, маладзейшыя літаратары. Ім была адрасавана кніга прысвячэнняў „Я вас люблю”. Да іх, а можа, да сябе і чытача звернуты і заклік:

Бойся спазніцца са словам харошым:
Тонка пляцецца жыццёвая ніць.

За сорак гадоў творчай працы паэтка выдала некалькі дзесяткаў арыгінальных кніг, твораў для маленькіх, перакладаў. Дзякуючы Мацяш вершы французскіх, нямецкіх, польскіх, рускіх і ўкраінскіх аўтараў „загаварылі” па-беларуску. Для яе паэзіі характэрны погляд жанчыны на свет і людзей — жанчыны мужнай і слабой, гордай і вельмі далікатнай, знітаванай з Бацькаўшчынай і далучанай да сусветнай літаратуры. Тэма роднай зямлі — скразная ў творчасці Мацяш.

Знакамітая паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, яна ахвотна сустракаецца з чытачамі, стараецца дапамагчы кожнаму, хто мае патрэбу ў яе падтрымцы.

Яшчэ ў 1991 годзе Н. Мацяш, прачытаўшы зборнік „Птушка шчасця”, хораша адазвалася пра мае казкі, а заадно пацікавілася, ці не збіраюся я ўступаць у Саюз пісьменнікаў, калі так — дык яна гатовая даць мне рэкамендацыю. Не стаў я ні тады, ні пазней турбаваць Ніну Іосіфаўну, але яе цёплае слова і зараз грэе маю душу.

У 2007 годзе пасля апублікавання ў газеце „Літаратура і мастацтва” маіх вершаў прыйшоў ліст ад Ніны Мацяш: „Няхай вам здаровіцца і ўдала пішацца! З прыемнасцю прачытала ў „ЛіМе” нізку Вашых вершаў. З мастацкага боку яны наймацнейшыя ў той старонцы, віншую!” Раней да дня нараджэння Ніны Іосіфаўны я паслаў у Белаазёрск нядаўна выдадзеную кніжку казак „Зайцаў кажушок”. Неўзабаве атрымаў паштоўку: „Дзякуй за „Кажушок” — парадавалася я за сябе, бо мне цёпленька ад Вашага падарунка; парадавалася за

Вас, што Вы напраўдзе ўталентаваны казачнік; парадавалася за дзетак, якія мецьмуць гэтую светлую, добрую кніжку”.

У 2003 годзе Жабінка двойчы сустракала слынную паэтку. 26 студзеня не стала Васіля Сахарчука. Ведаючы, як нялёгка будзе Ніне Іосіфаўне прыехаць на пахаванне, не сталі турбаваць яе, а ў ліпені Сахарчуку спаўнялася... 50. Свой прыезд Мацяш патлумачыла так:

— Калі б Васіль быў жывы, дык, напэўна, без запрашэння не паехала б, а сёння — я павінна сказаць добрае слова пра яго...

19 кастрычніка Н. Мацяш зноў выступала ў Жабінцы, перад вучнямі і настаўнікамі сярэдняй школы № 3. Гаворка пачалася з кнігі перакладаў „Поры году”. На думку паэткі, яна — „як сімфонія, якая складаецца з чатырох частак: вясна, лета, восень, зіма”. Гэтая паэзія вельмі інтымная, прымаецца чытачом, як невялічкія абразкі ці яркія акварэлі, і чытаць іх трэба сам-насам. Хаця тыя вершы, што прачытала Ніна Іосіфаўна, хораша прымала аўдыторыя. Гэтак жа, як і ўласныя вершы.

Арыгінальнымі мастацкімі кампазіцыямі аздоблена яе кніга „Я вас люблю”. Гэта яшчэ адно захапленне паэткі.

— Што да маіх мастацкіх кампазіцый, або, як Алена Васілевіч назвала, „пёркаграфіі”, — патлумачыла Ніна Іосіфаўна, — дык усё проста. Берацe звычайныя пярынкі — курыныя, качыныя ці яшчэ якія — і кампануеце іх у пэўныя малюнкі, у залежнасці ад іх каляровай гамы, ад свайго настрою і фантазіі. Г эта можа кожны, хто мае жаданне і крышачку густу.

Як прызнавалася Ніна Мацяш, вершы прыходзяць спантанна: пастукаюцца адначасова ў душу мелодыя і думка. Таму многія яе вершы можна спяваць. І сапраўды, музыку для большасці песень, якія выканала салістка студыі эстраднай песні „Бэз” Ніёле Чарвінская, напісала сама Ніна Мацяш.

Калі зайшла гаворка пра беларускую мову, паэтка сказала:

— Французская мова, з якой я найчасцей перакладаю, вельмі багатая, а беларуская, мне здаецца, багацей. Перакладваючы, я імкнуся даказаць, якая наша мова ба-га-цюш-ча-я — не проста багатая, а іменна багацюшчая! Не так даўно, атрымаўшы маю новую кнігу перакладаў, Ніл Гілевіч сказаў што ён налічыў у кнізе дзве сотні слоў, якіх няма ў цяперашніх нашых слоўніках...

Пра тую сустрэчу ў школе я напісаў у „Сельскую праўду”. Пазней нумар газеты з фатаграфіямі даслаў у Белаазёрск. Набліжалася маё 60-годдзе, і я запрасіў Ніну Іосіфаўну на юбілей. У паштоўцы да мяне Мацяш напісала: „Што ж да прыезду майго ў Жабінку, дык паставім шматкроп'е... Мяне ўжо так натамілі мае асеннія марафоны, што

хочацца пабыць мышшу пад венікам...” Я разумеў, як цяжка ёй даюцца падобныя „марафоны” і турбаваць болей не стаў, а Ніна не забылася пра юбілей і на дзень нараджэння паслала тэлеграму.

Калі вам выпадала сустракацца з Нінай Іосіфаўнай, дык, напэўна, чулі, і не раз, ад яе „жыць светласна”, 'святлістасць”, „святло”, „светач”... Яе вершы, паэмы, пераклады як бы выпраменьваюць святло — такое ж яркае, як і жыццё. Кожны, хто мае шчасце ведаць Ніну Мацяш, адчувае цяпло яе дабрыні.

## СУРОВАЯ РАЛЛЯ

Час быў роспачны, і голас
Набрыняў радкамі:
— ЛЁС МОЙ,
ЛЁС МОЙ — ЦЯЖКІ КОЛАС,
ЧАСАМ — ЦЯЖКІ КАМЕНЬ...
Ды словы ласкі і любві
Прыйшлі з-за небакраю:
— ШЧАСЛІВАЙ ДОЛЮ НАЗАВІ...
— А я і называю.
Хаця СУРОВАЯ РАЛЛЯ,
Кажу, адкінуўшы турботы:
„НЕ АДПУСКАЙ МЯНЕ, РАБОТА, —
ТВАЙГО ПАЛОНУ ПРАГНУ Я...”
ЖНІВА ПАЭМА і надзей
Ды ПРОСТРАНІ КАХАННЯ.
Мне добра жыць сярод людзей
Увечары і ўранні.
Спяваю шчыра ў родным краі
Пра шчасце і бяду.
ПАКУТЫ ЗНАЮ.
БОЯЗНІ НЕ ЗНАЮ.
ІДУ...

## РУКА ДАПАМОГІ

20 студзеня 1998 года ў Доме літаратара засядала камісія па прыёме новых сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нас — Ю: першым у спісе я. Згодна з алфавітам.

Мне прыйшлося моцна пахвалявацца. Бо павінен быў дакладваць пра мяне Уладзімір Машкоў, узяў кнігі, каб падрыхтавацца, а ў

апошнюю хвіліну лёг у бальніцу. Дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР Генадзь Дзмітрыеў сустрэў мяне запытаннем, ці прывёз я свае кнігі. Былі з сабою дзве: „Чаму Сонца рана ўстала?” і „Тры свечкі”.

Апроч таго, аніхто з даўшых рэкамендацыю для ўступлення — ні Уладзімір Ліпскі, ні Мікола Чарняўскі (Васіля Сахарчука на пасяджэнне не выклікалі) — своечасова не прыйшоў. Мікола з'явіўся, калі ўсе сядзелі ў зале. Ён, дакладваючы, хораша сказаў і пра мяне, і пра Толю. Але надзеі, што буду прыняты, было зусім мала.

Потым патрэбна было адказваць на пытанні камісіі. Мой настрой зразумелы. У тую хвіліну, як я, хвалюючыся, узняўся з месца, раптам за сталом павярнуўся да мяне тварам Генадзь Бураўкін і сказаў, каб пачулі ўсе:

— Нам на „Б” заўсёды прыходзіцца пачынаць!

Мусіць, і яму некалі прыйшлося выступаць першым.

Камісія ўсміхнулася, а для мяне Генадзь Мікалаевіч быццам руку дапамогі працягнуў. Я адчуў сябе вальней. Было зададзена толькі адно пытанне. Іван Шамякін запытаўся:

— На якой мове выходзіць газета, у якой вы працуеце?

— „Сельская праўда” выдаецца па-беларуску, — лаканічна адказаў я.

Хоць галасаванне было закрытым, усе члены прыёмнай камісіі прагаласавалі „за”. Пасля асноўнай часткі трохі пагаварылі з Бураўкіым. Я падпісаў яму кніжку „Тры свечкі”. Пазней напісаўся і гэты верш, прысвечаны Генадзю Мікалаевічу.

## ЛЯЦЯЦЬ БУСЛЫ

Зноў нада мной ляцяць буслы:
Вядзе важак у вырай.
Ляцяць буслы.
Яны — паслы
Ад Беларусі шчырай.
Раскажуць што ў той стране
Пра нас
І пра мясціны,
Што прынясуць нам па вясне
З далёкае краіны?
Шум крылаў ловіць чуйны слых.
Натужна і без форсу
Ляцяць буслы,

Нібы паслы,
У светлы край, заморскі.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ І БЫВАЙ...

Нас разам прымалі ў Саюз пісьменнікаў. Шурпа быў апошні, дзесяты ў спісе. Сакратар праўлення Саюза, знакаміты паэт Уладзімір Паўлаў згадаў, як у 60-ыя гады Шурпа добра пачынаў, друкуючы вершы ў перыядычных выданнях. Пасля быў вялікі перапынак, а зараз Уладзімір Канстанцінавіч піша нават лепш: па-маладому абвострана і па-філасофску стала. Паўлаў выказаў надзею, што кніга вершаў „Перазвон адліг” не будзе адзінай у „арсенале” паэта.

Пасля цырымоніі прыняцця выдалася вольная хвіліна, і мы размаўлялі з Уладзімірам. „Паспавядаўшыся” адзін аднаму, хто як жыве, як піша, я нечакана пачуў ад Шурпы запытанне, ці падабаецца мне, як перакладаюць творы на рускую мову. Быццам абавязкова мяне павінны былі перакладаць! Прызнаўся, што ў мяне пакуль перакладзена на рускую мову адна гумарэска „Гульня” і што я не вельмі задаволены перакладам.

— Вось-вось, — адразу падхапіў суразмоўца і пачаў расказваць, як яго вершы трапілі ў часопіс „Смена”. Прыехала ў Гродна расійская паэтка. Гаварылі пра край беларускі. Была юшка. Чыталі вершы. Узяла яна нізку Валодзевых вершаў. Прайшоў час. Усё забылася, калі дачка прынесла новы нумар „Смены” з перакладзенымі вершамі Шурпы.

— Не пагаджуся я са сцвярджэннем, што беларуская мова ледзь не дыялект рускай. Як ні старалася перакладчыца, але ўсе асаблівасці нашай мовы ёй перадаць не ўдалося...

Развітваючыся, мы гаварылі пра новыя сустрэчы. Наступная адбылася ў красавіку 1998 года ў Мінску, на з'ездзе пісьменнікаў. У паўтысячным натоўпе мы адшукалі адзін аднаго.

Валодзеў шэры, хваравіты твар адразу насцярожыў мяне. Рукі дрыжэлі. Шурпа расказаў, што апошнім часам сэрца баліць і ён зараз ляжыць у Гродне ў бальніцы. Але так захацелася трапіць на свой першы пісьменніцкі з'езд, што адпрасіўся ў дактароў. Тыя „нашпігавалі” лекамі, а сябры, што ехалі на машыне ў Мінск, прывезлі.

Распытваць, ці пішацца, было б недарэчнасцю, але сам Уладзімір паскардзіўся:

— Многа колюць, аж галава трышчыць ад лекаў! Вось толькі трошкі папраўлюся і засяду за вершы. Задумкі ёсць і радкі часам удалыя прыходзяць...

Неўзабаве да мяне дайшла цяжкая вестка: 10 мая 1998 года Уладзіміра Канстанцінавіча Шурпы не стала. Але засталіся ў памяці тыя дзве сустрэчы, як „добры дзень” і „бывай”!

## ЭКСПРОМТ

Той, каму выпала працаваць побач з журналістам Віталем Канавалюком, хоць раз чуў пра тое, што яго універсітэцкія гады супалі з вучобай Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Міхася Стральцова, Васіля Зуёнка і што Рыгор Іванавіч склаў нават пра яго верш.

Нагода была такая: Канавалюк у адзін дзень здаў два, а можа і тры залікі. Ішоў у інтэрнат, усміхаючыся кожнаму, калі сустрэў Рыгора Барадуліна.

— Віця, чаго ты сёння такі радасны? — спытаў той.

Віцем у студэнцкія гады ўсе звалі Канавалюка.

— Рыгор, я сёння здаў некалькі залікаў! — пахваліўся Віталь.

Барадулін зрабіў крок убок, паглядзеў звысоку, як бы ацэньваючы хлопца, і сказаў:

— А ў гэтым, ведаеш, нешта ёсць! — і пачаў чытаць радочкі, якія складаліся на хаду:

Дзяды мае бывалі ў сіле,
Ды розніца між намі невялікая:
Калісь дзяды каней валілі —
Цяпер валю залікі я...

І працягнуў руку:

— Віншую!

Ці захавалася гэтае чатырохрадкоўе ў паперах Рыгора Іванавіча? А можа, яно ніколі не было запісана? І засталося ў памяці толькі таго, каму адрасавалася?..

## У ПАДАРУНАК ДЗЕЦЯМ

Круглыя даты нібыта высвечваюць, як імкліва бяжыць час. Здаецца, зусім нядаўна Мікола Чарняўскі адзначаў свой залаты юбілей і нарадзіліся гэтыя радкі: „Пяцьдзесят. Не паверу ніколі, хоць для дзетак даўно аксакал...”, а ўжо шэсць з паловай дзясяткаў пастукаліся ў дзверы. (Паэт нарадзіўся 16 студзеня 1943 года на Гомельшчыне ў вёсцы Буда-Люшаўская).

Нашаму знаёмству і сяброўству — звыш трыццаці гадоў. Згадваецца мой першы прыход у рэдакцыю часопіса „Бярозка”. У саквояжы ляжалі некалькі апавяданняў. Адно з даволі доўгай назвай „Адзіны

яблык з дрэва Дружбы" спадабалася Міколу. Ён быў ужо не навічок у літаратуры і журналістыцы і адразу „выразаў" у загалоўку тры апошнія словы.

У кастрычніку 1971 года „дэсант" з „Бярозкі" „высадзіўся" ў Жабінкаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Алена Мімрык, Арнольд Пятровіч і Мікола Чарняўскі выступалі перад настаўнікамі і вучнямі першай гарадской, Рагазнянскай і Азяцкай школ.

Мікола чытаў свае вершы як з нядаўна выдадзенай кнігі „Сонца ў хованкі гуляе", так і новыя. Шчырасць размовы з падлеткамі, пэўная доля пазнавальнасці і павучання ў ёй, пададзеныя з гумарам, добра прымаліся хлопчыкамі і дзяўчынкамі.

Такія размовы-сустрэчы любімыя для Чарняўскага. Нездарма ж ён многія гады быў вядучым на рэспубліканскім радыё перадачы „Першая сцяжынка", у якой гучалі вершы, апавяданні і замалёўкі школьнікаў, а ў часопісе „Вясёлка", дзе зараз працуе Мікола, дзве старонкі аддаюцца творам юных аўтараў.

Па натуры М. Чарняўскі — добразычлівы, таварыскі чалавек. У яго шмат сяброў. Гэта людзі розных узростаў, розных характараў. У доме на Лагойскім тракце бывалі Іван Гурбан, Васіль Гурскі і іншыя, з кім Мікола доўгія гады падтрымлівае добрыя адносіны. Такія ж у яго жонка Гэлена Іосіфаўна і дзеці, а таму кожнага тут прымаюць гасцінна. Дзякуй ім за гэта!

За сорак з лішкам гадоў (самая першая „Дзе лета канчаецца" выдадзена ў 1963-м) выйшлі каля трыццаці кніг: дзве — для дарослых, некалькі — сатыры і гумару, астатнія — для дзяцей. Амаль кожная з іх прымалася цёпла і крытыкай, і чытачом. „Я збіраюся на Вам", „Зорачкі-зоркі" і „Аб чым пяе крынічка" былі адзначаны прэміямі рэспубліканскіх конкурсаў на лепшы літаратурны твор для дзяцей і юнацтва. У 1995 годзе за кнігу „Каго баіцца зубр?" Міколу Чарняўскаму была прысуджана Літаратурная прэмія імя Янкі Маўра.

Пры сустрэчы я павіншаваў сябра з узнагародаю. Нечакана Мікола загаварыў пра старэйшага дзіцячага пісьменніка, імем якога названа прэмія. Высока ацэньваючы ролю Максіма Багдановіча і Якуба Коласа як пачынальнікаў беларускай літаратуры для дзетак-малалетак, ён асабліва цёпла азваўся менавіта пра Янку Маўра, бо той нязменна служыў дзіцячай літаратуры. Гэтае ж можна сказаць і пра самога Міколу Чарняўскага, кожная новая кніга якога дае шмат пажытку юнай душы ды сэрцу.

Апошнія амаль два дзесяткі гадоў пісьменнік працуе ў „Вясёлцы". Яго творчыя здабыткі і высокае майстэрства адзначаны таксама Літаратурнай прэміяй імя Васіля Віткі. Летась, калі вясёлкаўцы свят-

кавалі паўвекавы юбілей любага часопіса, М. Чарняўскаму быў уручаны медаль Францыска Скарыны.

## ДАБРЫНЯ

Кім ні быў ты, чалавеча,
І якая твая вышыня,
Ведай: толькі ўратуе і злечыць
Нас адзінае — Дабрыня.
Ад няпраўды, нягодаў, зазнайства,
Калі побач шыпіць гадаўё...
Колькі юных Мікола Чарняўскі
У паэзію смела ўвёў.
Памагаў маладзейшым паверыць
У шчаслівы, бы раніца, міг.
Адчыняў выдавецкія дзверы,
Каб з'яўляліся кнігі ў другіх.

## ІМЯ ВЫБРАЛА ЯНІШЧЫЦ

Фізіку ў Жабінкаўскай школе-інтэрнаце многа гадоў выкладае Людміла Мікалаеўна Клімук. Пра сваё радство з вядомай беларускай паэткай яна аднойчы расказала:

— Я таксама нарадзілася ў вёсцы Рудка Пінскага раёна. Па бацькавай лініі мы былі ў сваяцтве з Янішчыцамі, і мая цётка Марыя, як з'явілася я на свет, захацела, каб трынаццацігадовая Жэня стала маёй хроснай маці. Яўгенія выбрала для мяне імя. Яно ёй вельмі падабалася, і хросная часта звала мяне: Люда мілая.

Пакуль Яўгенія вучылася ў школе, мы часта сустракаліся. Вельмі часта. Усе ведалі, што Жэня піша вершы, і ганарыліся гэтым.

Пасля яна паехала вучыцца ў Мінск, але на першых парах штомесяц прыязджала дадому. Мы бачыліся. У старэйшых класах я таксама спрабавала пісаць вершы. Аднойчы ўлетку, калі мы гулялі на лузе, я паказала Янішчыц сшытак з вершамі. Яўгенія Іосіфаўна ўважліва прачытала іх, але характарызаваць не стала. Яна дала мне зразумець, што паэзія — ад Бога, і прачытала чатырохрадкоўе, якое „нарадзілася” тут, на лузе. Жэня ўвесь час, кожную хвіліну жыла паэзіяй...

Можа, тады я зразумела, што паэткай мне не быць, і, закончыўшы школу, падала дакументы на фізмат Брэсцкага педінстытута.

Я доўга захоўвала прыгожую хустку, падораную Яўгеніяй Янішчыц пасля паездкі ў Амерыку на сесію Генеральнай Асамблеі ААН. У

Мінску на яе кватэры я была толькі адзін раз. Па справах паехала ў сталіцу і зайшла да хроснай. Яна прыняла мяне добра, пачаставала.

Мяне ўразілі перамены ў характары Яўгеніі Іосіфаўны. Заўсёды я бачыла яе вясёлай, жыццярадаснай, а то нешта непакоіла яе, засмучала. Сваёй трывогай яна не падзялілася са мною, а ў сорак яе не стала...

## З РОДУ ЛІПСКІХ

8 ліпеня 2001 года ў рамках фестывалю „Майстры мастацтваў - працаўнікам вёскі" ў Жабінку завіталі дзяржаўны акадэмічны хор імя І. Жыновіча, вядомыя ў краіне ансамблі, салісты Нэлі Душчынская і Якаў Навуменка, мастак Уладзімір Капшай, пісьменнікі Навум Гальпяровіч, Анатоль Зэкаў і Уладзімір Ліпскі.

Кожны з іх выступаў як на гарадской сцэне, так і ў рабочых калектывах. Беларускія пісьменнікі, напрыклад, прыйшлі на сустрэчу з чытачамі ў раённую бібліятэку.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ліпскі, адказваючы на пытанні, распавёў пра сваё жыццё. Нарадзіўся ён перад вайной на Гомельшчыне, у вёсцы Шоўкавічы. Ворагу чамусьці не спадабалася іх вёсачка: карнікі спалілі яе дашчэнту. Людзям прыйшлося нейкі час туліцца ў лесе. Дзяцінства ў яго, як лічыць пісьменнік, не было, і ўсё астатняе жыццё ён імкнецца зведаць тое, што было страчана змалку.

Уладзімір Сцяпанавіч лічыць за шчасце рабіць дабро, дапамагаць дзецям. Ён і кіраўнік Беларускага дзіцячага фонду, і галоўны рэдактар часопіса „Вясёлка", і аўтар шматлікіх аповесцей, апавяданняў, казак. Зараз, на сустрэчы, Ліпскі выбраў самую юную чытачку, якой аказалася Насця Зіноўева, і падараваў ёй кнігу „Мама. Малітва сына".

Яшчэ адна балючая для пісьменніка тэма — гэта Чарнобыль і дзеці. Пасля кніг „Раны", „Адпяванне жывых" ды „Бацькі і дзеці" Уладзімір Сцяпанавіч адчуў, што душа патрабуе аддушыны. Так узніклі аўцюкоўскія фестывалі, а з імі — і кніга пра вясёлыя Аўцюкі.

Кожная кніга Ліпскага, што выходзіла ў апошнія гады, не паўтарае папярэднюю. І ўсё-такі ўсе зразумелі, якую вялікую работу прарабіў пісьменнік, збіраючы род Ліпскіх і расказваючы пра гэта ў кнізе „Я: Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод".

Спачатку аўтар завёў сшытак, дзе запісваў усю радню. Бацька і маці былі з вялікіх сем'яў — атрымалася своеасаблівая сямейная энцыклапедыя. Справа аказалася карыснай, бо неўзабаве родзічы

сталі прыходзіць да Уладзіміра Сцяпанавіча, каб удакладніць звесткі пра сваіх блізкіх.

Гэта і падказала, што трэба шукаць людзей з прозвішчам Ліпскі. Дапамагалі работнікі архіваў. І не толькі нашых, але і польскіх ды амерыканскіх. У ходзе даследаванняў удалося вызначыць прататыпы герояў і месца, дзе адбываюцца падзеі ў камедыі Дуніна-Марцінкевіча „Пінская шляхта". Усё адбывалася ў мястэчку Ольпень, што на Століншчыне. Знайшліся Ліпскія і ў Жабінцы. Дарэчы, сустрэчу вяла бібліятэкарка Валянціна Анатольеўна з роду Ліпскіх.

Мы папрасілі Уладзіміра Сцяпанавіча выказаць свае пажаданні жыхарам Жабінкі:

— Людзі, давайце будзем часцей усміхацца і рабіць усё так, каб дзеці былі задаволены намі, каб яны не праклялі нас...

## СЯМЕЙНАЕ ІМЯ

Мы сядзелі за сталом у Гадулькавай хаце. Лепей сказаць, у былым паэтавым доме, бо пасля смерці Васіля Уладзіміравіча родзічы прадалі яго, і цяпер тут знаходзіцца прыдарожнае кафэ, дзе можна і падсілкавацца, і выпіць.

Мы толькі што пабывалі на паэтавай магіле, усклалі кветкі, і зараз, успамінаючы пра двух Васілёў — Гадульку і Сахарчука, гаварылі і гаварылі. Як зайшла гаворка пра псеўданім Алеся Трушко, зараз згадаць цяжка, але сам Алесь не пагадзіўся з нашым меркаваннем:

— Навaрыч — гэта зусім не псеўданім, а сямейнае імя, — і расказаў легенду, якая перадавалася, мусіць, з пакалення ў пакаленне.

... Было гэта вельмі даўно, яшчэ за прыгонным часам. Алесеў продак нейкім чынам трапіў поварам да генерала. З кемлівага палешука выйшаў выдатны кухар: генерал не мог нахваліцца прыгатаванымі ім стравамі.

Аднойчы кухар гэтак дагадзіў генералу, што той не ўцярпеў і сказаў:

— Смачна. Вельмі смачна! Прасі — і адно тваё жаданне я выканаю!

Паляшук хітра скасавурыў вока:

— Любое?

— Любое!

— Ну, то дайце, ваша правасхадзіцельства, мне вольную...

— Вольную?! — падкруціў сівы вус генерал. — Хітро!

Але слова сваё стрымаў.

Сталі пісаць вольную грамату, ды тут аказалася, што ў палешука і прозвішча няма. Што рабіць? Генерал вырашыў так:

— Ты добра варыш — значыць, будзеш Наварычам.

Так пайшоў па свеце род Наварычаў. Адзін з нашчадкаў, богведама ў якім калене, стаў пісьменнікам Трушко, але свайму сямейнаму імю не здрадзіў: апавяданні і раманы падпісвае „Алесь Наварыч".

## КАЛІ ЦВІЛІ САДЫ

Па Мухаўцы плыў карабель — прыгожы цеплаход „Днепра-Буг". Шлях быў няблізкі — з Брэста да Мазыра. Рупар трохі хрыпеў, але перадаваў прыгожае сапрана Ганны Герман:

Дурманом сладким веяло,
Когда цвели сады,
Когда однажды вечером
В любви признался ты...

Учора прайшоў дождж, але ноч была цёплая, парная. Над вадою клубіўся туман. Першыя сонечныя промні прарэзалі яго, як масла. На палубе стаяў малады матарыст і любаваўся наваколлем.

Цеплаход абмінуў Жабінку. З палубы можна было бачыць яе акраіну, якую і сёння тутэйшыя людзі завуць Галінова. Карабель набліжаўся да Здзітава, дзе ледзь не да самай вады „падбегла" невялічкая цэркаўка, збудаваная пяць стагоддзяў назад.

Вецер з берага прынёс водар вішнёвага цвету. Вёсачка патанала ў садах, і хлопцу здалося, што на беразе сабралася мноства нявест у бялюткіх вэлюмах. Зачараваны хараством, ён не заўважыў, як падышоў лоцман Данільіч, і сказаў перш для сябе:

— Ці азірнуўшыся — не скамянею?

— Што ты гаворыш, Сашка? — перапытаў лоцман.

Хлопцу стала няёмка, што яго падслухалі, але паўтарыў:

— Я кажу, калі чалавек азірнецца на такую прыгажосць, ці не скамянее?

— Не скамянее, — заўважыў лоцман. — Ад страху — можа, а не ад прыгажосці.

Данільіч быў амаль удвая старэйшы за хлопца. Многа плаваў, многа бачыў. Сам калісьці быў такі ж летуценнік, як Сашка, але з гадамі ўсё прайшло. Усміхнуўшыся рамантычным думкам матарыста, ён пакінуў палубу.

А хлопцу ўяўлялася, што за плячамі ў яго стаяла Беларусь з яе вялікай гісторыяй, з яе знакамітымі постацямі: Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, іншыя волаты.

Не ведаў тады яшчэ юнак, што і гэтыя мясціны гістарычныя. Многа бачыла маленькая Здзітаўская царква, многа ведалі дубы-волаты. Калі сысці на бераг і рушыць напрасткі ўлева, дык кіламетраў праз дзесяць-пятнаццаць трапіш у радавое „гняздо” Касцюшкаў-Сяхновіцкіх, а ўправа — дойдзеш да Крупчыцкага поля, на якім у 1794 годзе адважныя касцюшкаўцы біліся з царскімі войскамі. Не ведаў ён таксама, што неўзабаве напіша паэму „Кастусь Каліноўскі”, і эпіграфам да аднаго з раздзелаў возьме словы Тадэвуша Касцюшкі: „Жадаючы даць асвету народу, неабходна спачатку яго вызваліць”. Мусіць, пан Тадэвуш думаў пра гэта, складаючы свой тэстамент?..

Карабель, тым часам, падплыў да наступнай вёскі — Залуззе. Была яна ўсё ў той жа квецені, а вецер даносіў церпкі пах вішань. Хлопец раптам успомніў ранішні туман над вадою, і самі сабою прыйшлі радкі:

Замачыла сонца ля ракі
Звечара туманы-ручнікі.

Потым да гэтых радкоў дададуцца новыя, складуцца ў верш, які ўвойдзе ў першы яго зборнік „Азірнуўшыся — не скамянею”. Пазней ён скажа: „Хадзіў рэйсам ад Брэста да Мазыра. Сады ў квецені над вадою ў раёне Жабінкі і Кобрына абудзілі да сапраўднай творчасці паэтычную натуру. Першы верш напісаў на 21-м годзе жыцця”.

У тую веснавую раніцу ўсё толькі пачыналася: з'яўляліся першыя вершаваныя радкі, нараджаўся паэт Алесь Жамойцін.

## КАБ ПАЭЗІЯ БУРЛІЛА, ЯК РАКА

Лета 1967 года. Адрадзіўся Жабінкаўскі раён. Абнаўлялася жыццё райцэнтра, навакольных вёсак. Пачала выходзіць газета „Сельская праўда”. У рэдакцыі працавалі маладыя, творчыя людзі.

Часта заходзіў да журналістаў настаўнік жабінкаўскай сярэдняй школы № 1 Аляксандр Паўлавіч Гогалеў. Ён не толькі выкладаў гісторыю, але й пісаў апавяданні, вершы. Добра атрымліваліся вершы і ў Міколы Горбы, а апавяданні — у Сцяпана Крываля. Яны і сталі касцяком літаб'яднання.

Задумаліся, якую даць назву, і нехта працытаваў:

— Каб паэзія бурліла, як рака...

— Цячэнне? — у роздуме прамовіў Горба. — Плынь. Памятаеце, у Шамякіна ёсць раман „Глыбокая плынь”?

— То і наша аб'яднанне хай завецца „Глыбокая плынь”!

— Не, нам да глыбіні яшчэ далёка, — разважыў Гогалеў. — Няхай будзе проста „Плынь”, а як даб'ёмся глыбіні ў творах, можам тады перайменаваць...

На тым і парашылі. Кіраўніком выбралі старэйшага сярод жабінкаўскіх літаратараў Аляксандра Гогалева. Ён да апошняга падтрымліваў цесныя сувязі з „Сельскай праўдай”: друкаваў замалёўкі пра ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, апавяданні, казкі, вершы. Вяршыняй яго творчасці стаў раман „Ахтубінскі стэп”, які з'явіўся ў часопісе „Волга” (урыўкі друкаваліся і ў „Сельскай праўдзе”).

Але найбольшая работа выпала на долю Міколы Горбы. Як і чакалася, да літаб'яднання пацягнулася моладзь, і ў першую чаргу школьнікі. Мікалай Мікалаевіч адказваў на пісьмы паэтаў-пачаткоўцаў, рабіў для газеты агляды пошты, адбіраў вершы для друку.

Прынёс свае творы малады рабочы, наш зямляк з Хмелева Іван Арабейка. Гэта быў „мэтр” у параўнанні з астатнімі членамі літаб'яднання: яго вершы друкавалі ўжо газета „Чырвоная змена” і часопіс „Маладосць”. Мікола Горба пазнаёміў чытачоў з паэтам, з яго творчасцю і змясціў ў „Плыні” вялікую нізку Арабейкавых вершаў. Іван Сяргеевіч дагэтуль друкуе свае творы ў „Сельскай праўдзе”.

Прыйшоў у газету журналіст Анатоль Гатоўчыц, які сам спрабаваў пісаць вершы. Адразу ж у яго абавязкі ўвайшло выпускаць паласу „Плынь”. Пазней, калі я пачаў працаваць у „раёнцы”, разам з аддзелам пісьмаў мне перадалі і выпуск літаратурнай старонкі. Праз два гады я „прадаў” яе маладому паэту Алесю Каско.

Калі ж Алесь перайшоў на абласное тэлебачанне, літаб'яднанне пры „Сельскай праўдзе” ўзначаліў паэт, перакладчык і журналіст Васіль Сахарчук, а пасля яго смерці — ізноў я.

З сярэдзіны 70-х гадоў вакол літаб'яднання „Плынь” згуртаваліся мясцовыя паэты і празаікі. Літстаронка стала выходзіць рэгулярна. Нас заўважылі, запрасілі выступіць спачатку на абласным тэлебачанні, а пасля — і на рэспубліканскім. Пра літаб'яднанне хораша напісала „Чырвоная змена”. У Жабінку прыязджала камісія па рабоце з маладымі аўтарамі Саюза пісьменнікаў БССР на чале са старшынёй, паэтам і празаікам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Янкам Стагавым, каб абмеркаваць творы мясцовых аўтараў.

Прыносіў вершы і фатаграфіі ў рэдакцыю, а пасля і працаваў у газеце Аляксей Ганчук. Свае вершы друкавалі Ніна Андраюк, Андрэй Божуль, Людміла Зубачова, Тамара Плечка, Ірына Поўх... Вярнуліся на радзіму з Казахстана Іван Кускевіч, а з Расіі — Іван Дацкевіч і адразу сталі актыўнымі членамі літаб'яднання. Але найбольшым „адкрыццём”

газеты былі вершы паэта з Федзькавічаў Васіля Гадулькі. Пасля яго смерці выйшла ў Мінску кніга паэзіі „Голас”.

Не абміналі наш горад і многія вядомыя беларускія пісьменнікі: Уладзімір Калеснік, Пятрусь Макаль, Аляксей Карпюк, Мікола Пракаповіч, Васіль Жуковіч, Аляксей Гардзіцкі, Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Ліпскі, Уладзімір Ягоўдзік і інш. З жабінкаўскай „Плыні” выйшлі ў літаратуру, занялі сваё пачэснае месца Іван Арабейка, Алесь Каско, Сцяпан Крываль, Васіль Сахарчук...

„Плыні” — 40! Даведаўшыся пра юбілей, наш пастаянны аўтар Леанід Глушко прысвяціў свой верш літаб'яднанню. Сёння вакол „Сельскай праўды” гуртуюцца каля дваццаці маладых паэтаў і празаікаў. 20 ліпеня 2007 года была праведзена ўрачыстая вечарына, прысвечаная юбілею літаб'яднання „Плынь”. Думаю, што і надалей „раёнцы” ўдасца адкрываць новыя таленты, даваць ім пуцёўку ў вялікую літаратуру.

## ... І СТАЛА ПЕСНЯЙ НАЗАЎЖДЫ

У творчым „багажы” Івана Арабейкі — два паэтычныя зборнікі, выдадзеныя яшчэ ў 70-ыя гады мінулага стагоддзя ў выдавецтве „Мастацкая літаратура”. Мала гэта ці многа? Як вядома, Максіму Багдановічу хапіла аднаго зборніка „Вянок”, каб назаўсёды застацца ў гісторыі літаратуры, а Паўлюку Багрыму — аднаго верша...

Гэтым мы зусім не апраўдваем доўгае Арабейкава маўчанне, але і дзвюма кніжкамі ён сцвердзіў сябе, даказаў, што паэт адбыўся.

Іван Арабейка нарадзіўся ў ваенным 42-м годзе. Рана адчуў у сабе паэтычны дар, які межаваўся з дакладнымі навукамі. Іван Сяргеевіч закончыў Беларускі політэхнічны інстытут, працаваў на сусветна вядомым шклозаводзе „Нёман” у пасёлку Бярозаўка Лідскага раёна Гродзенскай вобласці, а пасля — на прадпрыемствах Брэста.

Таму ў кнігах Арабейкі, асабліва ў першым зборніку „Услед за сонцам”, што выйшаў у 1972 годзе, часта сустрэнеш вершы, прысвечаныя шкладувам, рабочаму класу. Але не яны сталі дамінуючымі ў творчасці паэта. Чым бы ні займаўся Іван Сяргеевіч, ён помніў яркія фарбы маленства, водар вёскі, сніў жніво і маці, якая так рана памерла. Вечная працаўніца, яна заўжды жыве ў вершах сына:

Калі ты гаварыла мне пра стому,
Хацелася яшчэ чым памагчы.
І я тады хоць серп твой нёс дадому,
Як беркута якога на плячы.

У іншы раз успаміны прыносяць краскі былога дзяцінства, пах духмянага аржанога хлеба, што пякла адмыслова жанчына:

Любіў глядзець, як цеста бродзіць,
Калі за край дзяжы цякло.
Казала маці: „Хлеб усходзіць!"
І ў хаце сонечна было.

У адным з лепшых сваіх вершаў „Асенні ранак", які даў назву другому зборніку, паэт напісаў, як у маленстве з сяброўкай збіраў грыбы:

Я клікаў даль. Не адклікалася
Ні ты, ні птаства, ні глухмень.
І толькі дзесь працяжным голасам,
Твае шукаючы сляды,
Ад лесу рэха адкалолася
І стала песняй назаўжды.

Помніцца, Арабейка не быў задаволены назвай другой кнігі (у аўтара была свая). Ён гаварыў:

— Што, надышла восень маёй творчасці?! — і потым разважаў:
— А можа, і праўда гэта толькі асенні ранак, а яшчэ будзе дзень...

На вялікі жаль для прыхільнікаў яго таленту, Іван Арабейка аказаўся для сябе грарокам. У 1981-1983 гадах ён вучыўся ў Маскве на Вышэйшых лтаратурных курсах. Вершы, што з'явіліся ў друку, засведчылі: паэт пачаў асвойваць для сябе новыя матывы, звярнуўшыся да гумару і сатыры. Аднак пошук працягваўся нядоўга, бо неўзабаве ён зусім адышоў ад літаратурнай творчасці, замаўчаўшы на доўгія дваццаць гадоў. Як гэта здарылася, расказвае пісьменнік Аляксей Філатаў:

— А сярэдзіне 80-х Іван даслаў нізку вершаў у часопіс „Полымя". Там адобрылі творы, прасілі прыслаць яшчэ. Паслаў і стаў чакаць, каб убачыць іх надрукаванымі. Больш як праз год у часопісе з'явіўся адзін-адзіны верш. Гэта пакрыўдзіла Арабейку: „Значыць, можна абыходзіцца і без маіх вершаў?.."

Сваё 60-годдзе Арабейка адмовіўся адзначаць, і тады берасцейскія пісьменнікі, тыя, хто ведаў яго шмат гадоў, настаялі, каб такое свята паэзі ўсё ж адбылося. Іван Сяргеевіч запрасіў нас да сябе дамоў.

Застолле межавалася з размоваю пра літаратуру, паэзію. Помніцца, Іван Сяргеевіч згадваў, як пісалася паэма „Сцяна". Каб настроіць сябе на рабочы лад, Арабейка ўставаў вельмі рана (яшчэ спала Брэсцкая крэпасць) і ехаў на месцы, дзе трымалі абарону Гаўрылаў,

Зубачоў, Наганаў. Была такая ціша, што здавалася: вось-вось яе разарвуць выбухі варожых снарадаў, ляскат кулямётаў...

Яшчэ адно здзівіла ў той дзень: Іван Арабейка ведаў столькі вершаў свайго любімага паэта Аляксандра Твардоўскага і так хораша чытаў, што ўсе мы заслухаліся і ніхто не змог пасапернічаць з ім. Таму, калі мне далі слова павіншаваць юбіляра, я пажадаў Івану перарваць заслону маўчання, каб мы змаглі прачытаць новыя яго вершы. Бачыў, як адразу ажывіліся жонка і сыны:

— Мы створым усе ўмовы — толькі б ён пісаў!..

Праводзячы да цягніка, Іван Арабейка запэўніў, што ёсць у яго задумкі і скора напішуцца новыя радкі. Гэтае „скора" расцягнулася на тры гады. Але паэт ёсць паэт. Вершы, што жылі ў ім, павінны былі вырвацца на волю, загучаць па-новаму. У сакавіку 2005-га мы сустрэліся з ім у Жабінцы.

— Верш напісаны! — з радасцю паведаміў Іван Сяргеевіч. — Ён пра лёс земляка, які ў вайну трапіў у палон, а таму аж да смерці ўсе стараліся замоўчваць, што ён ваяваў. Прывязу ў наступны прыезд.

І прывёз. Верш „І зноў вясна, і зноў цвітуць сады" з'явіўся да 60-годдзя Вялікай Перамогі і хораша ўпрыгожыў літстаронку „Плынь".

Заставалася чакаць новых вершаў, ды здарылася непрадбачанае. П'яны вадзіцель падбіў Івана Сяргеевіча, калі той вяртаўся на веласіпедзе з дачы. Але ж, дзякуй Богу, і гэтае выпрабаванне здолеў пераадоліць паэт. А на пачатку 2007 года прынёс у рэдакцыю „раёнкі" звыш двух дзесяткаў вершаў, напісаных апошнім часам.

— Амаль усю зіму пражыў бязвылазна на дачы ў вёсцы Жыцінь, што ў васьмі кіламетрах ад Жабінкі, — расказваў Арабейка. — Адзін, хоць ваўком вый! А вершы пішуцца...

Тэмы ўсё тыя ж, якія мы ведалі па ранейшых зборніках, усё тое ж уменне працаваць са словам, але творы гучаць па-філасофску абвострана. Іван Арабейка пісаў пра знакамітых людзей — пра Максіма Багдановіча і Альберта Эйнштэйна, згадваў свае дзіцячыя і юначыя гады: „Даўняе", „Ліда", „Жаўрусік", „Маліны"...

Асобна стаяў верш „Быў". У цэнтры яго — трагічны лёс чалавека, які любіў „квасіць каву", прайшоў праз турму, не займеў ні сям'і, ні дзетак:

Хавалі яго. Адспявалі ды ходу.
Не плакаў ніхто, не трубіў.
Ні роду, ні плоду, як камень у воду, —
Адно толькі званне, што быў.

Няхай і надалей не абмінае Муза дачнай хаткі ў Жыціні! І калі зроблены першы крок на шляху вяртання, дык будзе і другі — выхад

паэзіі да сталічнага чытача. А ад сябе дорым жартаўлівы верш, прадказаны рэальнасцямі, што адбываліся ў роднай Арабейкавай вёсцы ў далёкім ужо XVII стагоддзі.

### ДА НАЗВЫ ВЁСКІ ХМЕЛЕВА

У карчме Марціна Цеслі
Дым густы з сінечаю,
Не знайсці пустога месца:
П'юць, гуляюць з вечара.
Хоць няма ў жывых Марціна,
Але справы гожыя:
Удава-карчмарка чынна
Між сталоў паходжвае.
— Што за стан, якія рукі!
Так да ласкі й просяцца...
Абдымі — і здымеш мукі,
Прыгажуня Зосечка!
А другі:
— Чаму ж ты, Зося,
Гэтак заірдзелася?
Зося ў такт:
— Каб лепш пілося
Ды яшчэ й хацелася!..
Трэці:
— Эх, вярнуць бы лета,
Як была ты дзеўкаю!
— Не хваліся. Я на гэта
Адкажу прыпеўкаю:
Коля коле, Паша паліць,
Я ля грубкі грэлася.
Аніколі
Не кахалі
Гэтак, як хацелася б!..
Заспявала — і кашмары
Адначас зрабіліся:
За прывабную карчмарку
Дзецюкі пабіліся.
Грэх пасля ў душы насілі,
Колькі Богам велена...
Звеку ў вёсцы хмель любілі

І назвалі Хмелева.

## КАСКО ЦІ КАЗКА?

Памятаецца, як у пакойчыку, выдзеленым для абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, Косця Жмінько аднойчы пахваліўся:

— Хлопцы, у мяне скора кніжка выходзіць. Ужо зусім на падыходзе...

— І як ты яе падпісаў?

— Кастусь Жмінько! — горда адказаў Косця.

— А чаму не Жмінька? — запытаў я, памятаючы, што ў Жабінцы жылі Жмінькі.

— А яшчэ лепей „Кастусь Жменька", — усміхнуўся Алесь Каско, які чуў нашу гаворку, і адразу дадаў: — Маё прозвішча таксама не так пісалася.

— Што, Каска? — перапытаў я.

— Не, Казка, ад слова „казаць"...

Пазней, да паўвекавога юбілею, Алесь, па просьбе работнікаў абласной бібліятэкі, напісаў „Першую спробу аўтабіяграфіі". Яна пачыналася так: „Сапраўднае прозвішча-Казка, пра што я, дурная галава, не здагадваўся аж да 28-гадовага ўзросту, да 1979-га, калі ўпершыню стаў аўтарам кніжкі, дакладней адным з аўтараў калектыўнага зборніка „Нашчадкі". Бацька пакруціў яе ў руках, знайшоў маё і з папрокам, а мо і з крыўдаю, спытаў: „Чаму ж ты не падпісаўся сваім прозвішчам?" і я, агаломшаны, паўтараў тое пытанне самому сабе".

Але ўжо было імя ў літаратуры, і адступацца Алесь не стаў. Зараз ёсць не толькі кнігі, але й дзеці ды ўнучка, якія носяць прозвішча Каско...

## ФАТАЛЬНАЯ ДАТА

На вуліцы Леніна ў Жабінцы нечакана сустрэў Івана Арабейку. Сутыкнуліся, можна так сказаць, лоб у лоб. Паздароўкаліся, стаялі на тратуары і гаварылі.

Прайшло больш за паўгода, як не стала Васіля Сахарчука. Нядаўна ў „ЛіМе" з'явіліся матэрыялы пра яго.

— Бываюць і ў „ЛіМе" недакладнасці, — заўважыў я. — Газета, напрыклад, піша, што Сахарчук памёр 27 студзеня, а яго, на самой справе, не стала 26-га.

— 26-га? — перапытаў Іван Сяргеевіч. — 26-га — гэта ж чортаў тузін двойчы. Фатальная дата!

Мне тады прыгадалася: нехта з пісьменнікаў расказваў, што Алесь Пальчэўскі хварэе і сцвярджае, што памрэ якраз 26-га. Чорны дзень! І сапраўды, Алесь Восіпавіч памёр 26 красавіка 1979 года.

І яшчэ адно. 26 студзеня 2003 года не стала не толькі Васіля Сахарчука, але й Уладзіміра Мулявіна. Як распавёў Валянцін Тарас, у яго доме гарэла памінальная свечка, калі прыйшло паведамленне з Масквы, што памёр Мулявін.

Валянцін Яфімавіч запаліў свечку ў памяць пра Алеся Адамовіча, які памёр роўна сем гадоў назад. Так што Беларусь можа 26 студзеня ўспамінаць трох сваіх таленавітых сыноў.

## ВАСІЛЁВА НІЎКА

Ніхто тваёй ніўкі, Васіль, не засее,
Ніхто тваёй ніўкі, Васіль, не пажне.
На ёй вырастае зяло-пустазелле,
Якое таксама бывае ў цане.
Патрапіў са смерцю ў суды-перасуды.
Хто ведае, колькі ты вынес пакут!
Ніякі зласлівец цяжэй не засудзіць
Таго, які вынес сабе ты прысуд.
Зямля забірае разумных, адважных,
А памяць дашчэнту змываюць дажджы...
Няхай твае вершы нашчадкам раскажуць,
Як жыў на зямлі і чаго заслужыў.

## ДЗЕ КРЫЛЛЕ ПТУШКА НАДЗЕІ?

Гадоў дваццаць, як толькі Іван Дацкевіч вярнуўся з Урала на радзіму, ён падтрымлівае цесныя сувязі з Ракітніцкай сярэдняй школай. Яны, вучні, і прапанавалі Івану Трафімавічу напісаць аўтабіяграфію. Доўга адкладваў ён стварэнне свайго жыццяпісу.

Колькі было передумана, перш чым узяцца за пяро! Дацкевіч пакутліва вырашаў для сябе, ці мае ён права называцца паэтам. Хаця прыняты ў Беларускі літаратурны саюз „Полоцкая ветвь”, а вершы сталі асновай яго жыцця.

Захацелася дайсці да сваіх каранёў, да асновы. Маці Ганна Антонаўна Іванюк была родам са Сцяброва. У 1914 годзе з бацькамі

выехала ў бежанцы. У Казані выйшла замуж за Трафіма Дацкевіча, таксама бежанца — родам з-пад Камянца.

Перажыўшы рэвалюцыю і грамадзянскую вайну, сям'я Дацкевічаў вярнулася на радзіму. Іх землі знаходзіліся ўжо пад Польшчай. Мамін дом у Сцяброве згарэў, не знайшлося месца, каб жыць, і на бацькавай радзіме. Сям'я знаходзіць прытулак у вёсцы Сады на Беласточчыне, у доме цёткі.

Жылі бедна і цяжка: дзеці адно аднаго меншае. Урэшце Трафіму Пятровічу ўдалося сабраць трохі грошай, купіць зямлю і збудаваць дом. Тут 7 сакавіка 1938 года і нарадзіўся будучы паэт. Іван быў шостым дзіцем.

Вайну памятае слаба. У 1944 годзе пасля вызвалення Беласточчына адышла да Польшчы. Беларусам было прапанавана вярнуцца ў Беларусь. Маці сабралася і паехала з дзецьмі дадому.

Доўга прыйшлося шукаць сабе жытло, аж пакуль сям'я Дацкевічаў не апынулася на хутары Палубачкі, што побач з вёскай Шчэглікі. Домік быў стары, гнілаваты, але мясціны цудоўныя.

Каб пракарміцца, Іван рана стаў пастушком. За карову плацілі два пуды жыта, за авечку — пуд. Школу наведваў толькі зімой, калі не пасвіў каровы.

Добрая памяць дазваляла хлопцу паўтарыць слова ў слова расказанае настаўнікам. Вершы завучваліся з першага чытання. Аднойчы на бацькоўскім сходзе Ганне Антонаўне сказалі:

— Вучыце Ваню! У яго фенаменальная памяць.

Але што магла зрабіць адзінокая жанчына! Жыццёвыя нягоды і нялёгкая праца падарвалі яе здароўе. У 1954 годзе яе не стала.

Старэйшы брат Віктар, на той час ужо жанаты, дабіваўся, каб прыладзіць Івана ў дзетдом, але камісія не дала на гэта згоды. Хаця Віктар знізіў на год Іванаў узрост.

Іван Трафімавіч многія гады пражыў з няправільнай датай нараджэння. Толькі ў 1997 годзе яму ўдалося атрымаць дакументы з Польшчы, а потым — цераз суд — устанавіць справядлівасць: атрымаць новы пашпарт і пасведчанне аб нараджэнні.

У 1955 годзе Дацкевіч скончыў сем класаў Жабінкаўскай сярэдняй школы. Далей сядзець на шыі брата не захацеў: паехаў на Урал, у горад Молатаў (сённяшняя Перм), у рачное рамеснае вучылішча № 23. Праз два гады атрымаў атэстат рулявога рачнога і азёрнага плавання. Пачаў працаваць рулявым на вялікім пасажырскім параходзе „Соф'я Пяроўская".

Мясціны былі прыгожыя. Асабліва зачароўвалі летнія ранкі, калі над вадой стаялі бялюткія туманы. Карабель здавалася, разразаў іх.

Потым узыходзіла сонца. Туман рассейваўся, але прахалода ад вады яшчэ доўга трымалася. Аднойчы ў такую хвіліну Іван сказаў:

— А ў нас. пад Брэстам, мясціны не горшыя!

У канцы 50-х гадоў актыўна клікалі моладзь у Казахстан асвойваць цалінныя землі. Многія ехалі. Сарваўся з абжытага месца і Іван. Ён ведаў, што на цаліне працуюць ужо яго тры браты: Пятро, Уладзімір ды Іосіф.

Бязлесныя адкрытыя стэпы на сотні кіламетраў адразу былі не па душы Івану. Праз год ён вярнуўся ў Перм. Уладкаваўся ў „Камлесасплаў” на маламерны цеплаход памочнікам капітана. Адначасова Іван Дацкевіч скончыў Новаільінскую лесатэхнічную школу, атрымаў дыплом капітана-механіка. Капітанам маламернага флоту ён працаваў на Каме да 1989 года.

Аднойчы аб'явілі, што падарожнічае вялікая група расійскіх пісьменнікаў на чале з Уладзімірам Рудкевічам. На паэтаў і празаікаў Іван Трафімавіч глядзеў, як на багоў, — недасягальныя, нерэальныя людзі. Хоць часам у лірычную хвіліну і выходзілі радкі ў рыфму. А зараз нечакана нарадзіўся жартоўны верш пра Уладзіміра Рудкевіча. У адным месцы нават рыфмаваліся два прозвішчы: „Рудкевіч” і „Дацкевіч”.

Гэта была запамінальная прагулка па Каме. Гаворка пра падзённае і літаратурнае жыццё мяжавалася з вершамі і прозай. Захацелася і Івану Дацкевічу прачытаць свой верш. Пісьменнікі слухалі яго ўважліва, затым пацвялі з Рудкевіча:

— Бачыш, Валодзя, як цябе капітан пачапіў. Бы шчупака за жабры...

— Не, хлопцы, гэта жарт. І харошы жарт! — на поўным сур'ёзе адказаў Уладзімір. — Часам нам такога жывога гумару не стае... Пішыце, Іван Трафімавіч: у вас ёсць дар, — і паціснуў руку капітана.

Пасля такой падтрымкі і парады Дацкевіч узяўся за пяро, і ягоныя вершы сталі з'яўляцца ў мясцовым друку.

У 60-ыя гады Дацкевіч паступіў на завочнае аддзяленне Горкаўскага інстытута воднага транспарту, але розныя жыццёвыя нелады змусілі кінуць вучобу. Дый не надта Іван Трафімавіч шкадаваў. Марай яго жыцця было вучыцца ў Літаратурным інстытуце, але паступіць туды ён не мог. Для гэтага патрэбна было мець альбо кнігу, альбо вялікія нізкі вершаў у друку. Ні тога, ні другога ў Дацкевіча не было.

Пазней у вершы „Возвращаются аисты” ён пра пермскі перыяд напіша:

Годы лучшие отдал я уральским краям.
Я трудился, как мог, в чём же нынче мне каяться?

Улетел я подранком к чужим берегам,
Возвратился теперь белым раненым аистом...

Іван Трафімавіч назаве сябе белым раненым буслам, які нарэшце вярнуўся на радзіму.

— Маё сямейнае жыццё, — прызнаецца Дацкевіч, — было катаргай, якую я не рашаўся перарваць, пакуль мая адзіная дачка не атрымала адукацыі і не пачала жыць самастойна.

Івану Трафімавічу пашанцавала. Адразу ж знайшлася праца на гідравузле № 9 „Навасады”, а ў маляўнічым месцы, на беразе Мухаўца, сярод разлапістых соснаў, яму дасталася кватэра, якой Дацкевіч даражыў. Уладкаваўшыся, Іван Трафімавіч стаў шукаць сустрэч з аднадумцамі — мясцовымі паэтамі.

Я помню першы Дацкевічаў прыход у рэдакцыю газеты „Сельская праўда”. Высокі, танклявы, з сівымі пасмамі, ён меў выгляд інтэлігентнага чалавека.

У той дзень Васіля Сахарчука не было на месцы, і сшытак з вершамі ў зялёнай вокладцы трапіў у мае рукі. З першых старонак я зразумеў, што вершы ўдалыя, і пахваліў іх. Сахарчук у той час быў старшынёй літаб'яднання „Плынь”, і я прапанаваў зайсці заўтра, каб атрымаць канчатковую ацэнку.

Сахарчуку вершы таксама спадабаліся. Ён хадзіў па кабінетах і чытаў кожнаму. З той пары вось ужо амаль два дзесяткі гадоў Дацкевіч сябруе з „раёнкай”, з літаб'яднаннем.

У яго ўжо тады быў не адзін сшытак вершаў, была і свая тэма — вяртанне пасля доўгай ростані на радзіму, дзе сустрэў сваю Сінюю Птушку надзеі:

Боже мой, полжизни растратил:
Всё разыскивал птицу свою,
А она так легко и крылато
Чертит воздух в родимом краю.

У Дацкевіча з'явілася надзея выдаць кніжку „Вяртанне”, аднак грошай на выпуск не сабраў. Затым паэт прыйшоў да глабальнага асэнсавання свету і жыцця. „Вершы на тэму духоўнай філасофіі Сахарчук лічыў звышфантастычнымі і друкаваць адмаўляўся”, — пазней скажа сам Дацкевіч.

Апроч лірычных твораў, ён лёгка пісаў гумарыстычныя. Іван Трафімавіч прызнаваўся, што яго два крылы — лірыка і сатыра-дапамагаюць яму рухацца да пастаўленай мэты. Лірычныя вершы ёй падпісваў Іван Дацкевіч, а гумарыстычныя — Трафім Вясёлы.

Дачакаўся ён нарэшце сваёй семідзесятай вясны...

## СЦІПЛЫ ПАЭТЫЧНЫ РУПЛІЎЦА

З той пары, як няма з намі Васіля Гадулькі, я не магу вызваліцца ад думкі, што надвячорак 14 ліпеня 1993 года быў знакавым для паэта, як і клён, што рос на яго двары.

Сонца нізка схілілася к гарызонту, калі рэдакцыйныя „Жыгулі" спяшаліся ў гараж. Траса была роўная, і аўтамабіль бег лёгка. У Федзькавічах, на Гадулькавым двары, я ўбачыў Васіля: ён стаяў ля клёна і пільна ўглядаўся ў крону дрэва, якую ледзь пазалаціла сонца. Карцела запыніцца, спытаць, што ён хоча ўбачыць у зялёнай лістоце, ды часу было ў абрэз. Не запыніліся, не спыталі, а зранку дайшла вестка: ноччу Гадулькі не стала.

Можа, тады з'явілася думка: Васіль сваім уражлівым пачуццём зразумеў — наступае апошняя хвіліна, і трэба развітацца з усім дарагім для яго на зямлі? Гэтае адчуванне толькі ўзмацнілася з гадамі. Дый на помніку, устаноўленым на магіле, знаёмае паэтава аблічча і словы:"... Шлях мой самотны" — на кляновым лісце.

Менавіта клён — блізкі для Гадулькі вобраз — праходзіць праз многія творы. У адным вершы чытаем:

Ранкам клён зялёны на маім падворку
дзіўную з лагодным ветрам вёў гаворку...

У другім:

Лісток пажоўклы ў голлі клёна
ад ветру ўздрыгвае, трымціць.

У трэцім:

І, хоць вецер гне сухое вецце,
і, хоць іней срэбрам лёг на скронь, —
нельга мне, шкада змахнуць, як смецце,
ліст, які сагрэў маю далонь.

Васіль Гадулька прыйшоў да чытача гэтак жа стрымана і нясмела, як і жыў. У артыкуле „Відушчая душа" на Гадулькаў зборнік „Голас" вядомы беларускі паэт Казімір Камейша напіша: „Сам я асабіста не ведаў паэта, але па творах яго здагадваюся, што быў гэта шчыры, сціплы, нават сарамлівы паэтычны руплівец".

Сапраўды, першае знаёмства адбылося з вершамі Гадулькі ў 1986 годзе, калі ў рэдакцыю завітала дырэктар Пятровіцкага клуба Раіса Шпакава. Яны трапілі ў рукі Васіля Сахарчука. Ён чытаў вершы ўголас і смакаваў над кожным радком. Потым зайшоў і аўтар, невысокі, хударлявы і вельмі сарамлівы.

Такім ён і быў. Як успамінаў аднакласнік Уладзімір Падлескі, Гадулька змалку быў вельмі сур'ёзным і стрыманым, рэдка ўдзельнічаў у

хлапечых свавольствах, а больш часу аддаваў вучобе, кнігам. Асабліва захапляўся ён нямецкай мовай. Калі ў старэйшых класах вучням хацелася, каб настаўнік не апытваў іх, усе прасілі Васіля, каб ён задаў пытанне. Той задаваў, і яны з выкладчыкам гадзіну гаварылі па-нямецку, а ўсе сядзелі і лыпалі вачамі: пра што яны гавораць?..

Добрыя веды па ўсіх прадметах і цудоўнае веданне нямецкай мовы вызначыла яго выбар: Васіль Гадулька паступае ў інстытут замежных моў. Закончыць яго не дазволіў адзін выпадак. Вучыўся ён паспяхова. Захапляўся не толькі нямецкай, якую ведаў дасканала, але й англійскай і французскай мовамі.

Пра той выпадак я не чуў ад самога Гадулькі, але іншыя расказвалі ў двух варыянтах. У першым — яго запрасіў у рэстаран грамадзянін ГДР за бездакорнае веданне Гадулькам яго мовы. У другім — сам Васіль з хлопцамі зайшоў у рэстаран, а там спадабалася яго гаворка грамадзяніну ФРГ. Так ці інакш, але інстытут Гадулька не закончыў. Трохі паспрабаваў выкладаць нямецкую мову ў Азяцкай і Арэпіцкай школах, ды скора расчараваўся ў сваёй педагагічнай рабоце.

У „Сельскай праўдзе” ён блізка сышоўся з Васілём Сахарчуком. Ведаючы сціплы і нават сарамлівы Гадулькаў характар, той стараўся падтрымліваць як мог. Ён абавязкова запрашаў на літаратурныя святы, што праводзілі члены літаб'яднання „Плынь”. Яшчэ пры жыцці, з лёгкай рукі Сахарчука, вершы Гадулькі друкаваліся ў газетах „Заря” і „Літаратура і мастацтва”, у часопісе „Нёман” у перакладзе на рускую мову, у альманаху „Дзень паэзіі”, а пазней і ў „Полымі”. Зусім незадоўга да смерці лепшае з напісанага сам аўтар сабраў у зборнік „Кропелька сонца”.

У 1986 годзе Васіль Гадулька паехаў у Дом творчасці „Іслач”, дзе яго паэзія была заўважана. Рыгор Барадулін назваў яго „сапраўдным вясковым інтэлігентам”, а Іван Навуменка прапаноўваў сваю дзейсную дапамогу пры паступленні на філфак Беларускага дзяржуніверсітэта. Але хвароба маці і іншыя жыццёвыя расчараванні патушылі іскрынку надзеі.

Выратоўвалі толькі вершы. Яны, як і сны юнацтва, дапамагалі паэту падняцца над сабою:

... хай сны юнацтва  
болей не прысняцца -  
я ўдзячны ім: яны дапамаглі  
хоць трошкі над самім сабой падняцца,  
не адрываючыся ад зямлі.

Расчараванне ў жыцці, расчараванне ў каханні. У вершы „Роднае дрэва” Гадулька сцвярджаў:”... хоць кропелькай сонца згублюся ў траве — мне ў памяці жыць, пакуль дрэва жыве”, а ў другім — бязвыхаднасць адзіноты:

І, хоць кажуць, што цвітуць увесну
нават карчаваных дрэў камлі, —
я ў сваіх нашчадках не ўваскрэсну...

За тры дні да сваёй смерці Васіль Гадулька завітаў у рэдакцыю, прынёс новыя вершы, сярод іх было і „Развітанне”. Паэт развітваўся з каханнем, з каханаю і намі ўсімі. Гэта мы ўсвядомілі трохі пазней, пасля страты.

„Сельская праўда” адразу адгукнулася на смерць Гадулькі: у бліжэйшым нумары з'явіўся некралог, знялі яшчэ адзін матэрыял са звярстанай паласы, каб паставіць верш „Развітанне”, а да саракавы — былі і Гадулькавы творы, і тых, хто ведаў яго.

Доўга і цяжка ішла Васілёва кніга да свайго чытача, аж пакуль першы ўзносак на яе выданне не ўнёс Алесь Разанаў. На кнігу і помнік на магіле паэта збіраліся ўсім светам. Зборнік „Голас” быў выдадзены пры фінансавай падтрымцы фірмы „БЕЛПІ”, каардынатарам якой быў знакаміты беларускі пісьменнік Леанід Дайнека.

Выхад у 2004 годзе кнігі Гадулькі стаў прыкметнай з'явай у беларускай літаратуры. На яе адгукнуліся Леанід Галубовіч, Казімір Камейша, Алесь Каско, Юрый Сапажкоў і іншыя. На прэзентацыю Толаса” (абмеркаванне ішло адначасова з кнігай Васіля Сахарчука „Мой вечны бор”) прыехалі пісьменнікі з Мінска, Брэста, Пружан. Помніцца, што Алесь Наварыч пачаў выступленне невялічкім дыялогам: „Што падымае птушку над зямлёй?” — „Крылы?” — „Не, паветра”. — „Што адрознівае паэта ад іншых людзей?” — „Вершы?” — „Не, адносіны чытачоў да іх...”

Творы Васіля Гадулькі маюць свайго чытача, які вельмі любіць паэзію. Сур'ёзную паэзію. На Беларусі шмат паэтаў добрых і розных, але ці многія могуць пахваліцца, што яны „сплялі” вянок санетаў? А ў Гадулькі ёсць. „Зорка радасці” назваў яго паэт.

У такія маёвыя дні, калі сады буялі квеценню, звыш 60 гадоў назад прыйшоў на зямлю Васіль Гадулька. Прыйшоў, каб жыць самотна між людзей і сказаць сваё шчырае слова пра гэту зямлю. І сказаў. Паклонімся за гэта яму, Чалавеку і Паэту.

**ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ ГАДУЛЬКІ**

Прыйшоў паэт з халоднай ночы

Ускалыхнуць бязвер'е, тлум,
Данесці праўду, напрарочыць,
А расказаў пра боль і сум.
Душу сваю паклаў на плаху
І жыў самотна між людзей.
Смяяўся верш яго і плакаў —
Спагады ж не знайшоў нідзе.
Ні грошай, ні цяпла, ні славы
Так і не здолеў заслужыць.
Пайшоў паэт, а верш па праву
Жыве між нас і будзе жыць!

## ЧАЛАВЕК БЕЗ УЗРОСТУ

Ён да апошняга дня мне здаваўся чалавекам без узросту. Невысокі, шчуплы ў плячах, у вялікіх акулярах і з прыветнай усмешкай, Васіль Давідчык быў аднолькава свой у любой кампаніі: у дзіцячым гурце, сярод юнакоў і дзяўчат, у дарослым калектыве. Столькі сяброў, як у Давідчыка, было не ў кожнага.

Васіль Гаўрылавіч, здавалася, усё ўмеў. Трыццаць пяць гадоў працаваў настаўнікам (найбольш часу ў Залуззеўскай пачатковай школцы). Заўзяты паляўнічы і рыбалоў, ён акультурыў сажалкі, што пачыналіся ледзь не за вокнамі хаты. Меў лодку і запрашаў парыбаліць сваіх сяброў. Разам варылі юшку і вялі доўгія размовы.

Давідчык зляпіў бюст вядомага ў раёне работніка міліцыі і партызана Аляксея Дзмітрука, які, на жаль, аказаўся не запатрабаваны. Пісаў вершы і сцэнкі на рускай і беларускай мовах, а таксама на мясцовай гаворцы, паспеў самавыдатам выпусціць дзве кніжкі „Уйми боль сердца моего” і „Пашкадуй нас, наша доля”.

Многія гады Васіль Давідчык быў душой літаб'яднання „Плынь”. Са свайго Залуззя, ці як называў гэту частачку вёскі, з Багуславічаў, прыязджаў на „тарахтуне”-матацыкле, узрост якога таксама нялёгка было вызначыць. Ставіў яго ля рэдакцыі, і ўсе гуртам адпраўляліся выступаць у бібліятэку ці школу. Яго гумарыстычныя байкі і вершы заўсёды добра прымаліся слухачамі.

Давідчык стаяў ля вытокаў фальклорнага калектыву Залуззеўскага сельскага Дома народнай творчасці „Багуслаўка”. Сябры гурта лічаць, што імя калектыву даў зноў-такі Васіль Гаўрылавіч. Ён пісаў для самадзейных артыстаў п'ескі, інтэрмедыі, песні.

Памёр Васіль Гаўрылавіч неяк па-свойму, па-давідчыкаўску. Яшчэ 9 мая 1995 года ён выступаў на мітынгу ў Якаўчыцах, заклікаў

маладых памятаць пра дзень Перамогі і пра салдат-вызваліцеляў, што ўратавалі свет ад карычневай чумы, а дзесятага яго не стала. Давідчыку ішоў 71-ы год.

## ПАД ПЕСНІ ВЕСНАВЕЯ

27 лютага 2004 года намячалася вялікае шоў з нагоды майго 60-годдзя. Сярод запрошаных на ўрачыстасць быў і мой даўні мінскі сябар Мікола Чарняўскі, але да апошняга я не ведаў, ці прыедзе.

Зранку на хвілінку зайшоў у рэдакцыю, а тут званок ад Міколы. Ён павіншаваў мяне з юбілеем, прасіў прабачэння за сваю адсутнасць: здароўе не дазволіла яму падацца ў такую далёкую дарогу, і прачытаў свой верш-прысвячэнне:

Пад песні веснавея
Налі на беражок...
А нас няхай сагрэе
Твой „Зайцаў кажушок”!

Мікола напомніў пра кніжку казак, якая толькі-толькі выйшла ў выдавецтве „Мастацкая літаратура”. Гэта было, дарэчы, другое віншаванне. Першае з'явілася ў снежні 1975 года, як убачыла свет „Вавёрчына дзякуй”.

Я тады якраз знаходзіўся ў Каралішчавічах. Дзяўчаты і хлопцы — маладыя літаратары — вырашылі выпусціць сваю насценную газету. Знайшлося тут месца і для такой нагоды, як выхад першай кніжкі. Намалявалі рассмяянае дзіця-малечу з адным-адзіным зубам і пасмай валасоў на лобе, а ўнізе падпісалі:

Толькі выйшаў зборнік з друку.
Слава Слаўку Бензяруку!

... Зараз, калі званіў Мікола Чарняўскі, за вокнамі была зіма, сыпаў снег, а мне было цёпла ад яго ўвагі, памяці і ласкі. Такі настрой застаўся на ўвесь дзень...

## З УДЗЯЧНАСЦЮ ПРЫ РАЗВІТАННІ

Вядомы рымскі дзяржаўны дзеяч Мецэнат, які жыў яшчэ да нашай эры, дапамагаў паэтам Віргілію ды Гарацыю. З той пары яго прозвішча стала хадзячай назвай і абазначае апякунства над дзеячамі навукі і мастацтва. Роля мецэнатаў-спонсараў не зменшылася і ў нашы дні.

Помніцца пачатак 1996 года. На рэдакцыйнай лятучцы прысутнічала намеснік старшыні Жабінкаўскага райвыканкама Майсейчык.

Выступаючы, Святлана Іванаўна адзначыла: выявілася, што нават настаўнікі гісторыі і літаратуры амаль не ведаюць мінулага свайго краю, і прапанавала работнікам рэдакцыі стварыць кнігу, па якой можна было вучыць змалку любові да роднай зямлі.

У той час у „Сельскай праўдзе” друкаваліся „Пытанні па гісторыі Жабінкаўшчыны”. Матэрыялы рыхтаваў настаўнік Якаўчыцкай школы Анатоль Бензярук. Мне здавалася, што стварыць такі падручнік яму будзе па сіле, і я спытаў:

— Калі знойдзецца аўтар, дык раптам не выйдзе так, што рукапіс ён зробіць, а на выданне кнігі грошай не будзе?

— Не хвалюйцеся: на такую кнігу грошы заўжды знойдзем!..

І праўда, за 1996 год была напісана і выдадзена кніга. Звыш дзесяці гадоў педагогі вучаць любіць родны край, абапіраючыся на падручнік „Наш край — Жабінкаўшчына”. Затым былі выдадзены і іншыя кнігі.

Аўтарам прыходзілася шукаць спонсараў, і яны знаходзіліся. На развітанне хочацца сказаць словы ўдзячнасці старшыні Жабінкаўскага райвыканкама Мікалаю Васільевічу Токару, былому старшыні калгаса „Усход” Валерыю Уладзіміравічу Мінічу, старшыні СВК „Рагазнянскі” Аляксандру Васільевічу Семенюку, дырэктару ААТ „Жабінкаўскі камбікормавы завод” Васілю Канстанцінавічу Волку і ўсім, хто рупіўся, каб творы мясцовых аўтараў дайшлі да чытача.

Асобна хочацца выказаць падзяку старшыням Жабінкаўскага раённага і Брэсцкага абласнога аддзяленняў Беларускага фонду міру Любові Іванаўне Ярмашук і Уладзіміру Лявонцьевічу Бядулю. Колькі могуць, яны дапамагаюць тым, хто звяртаецца да іх з просьбай.

**Змест**

УСТУП, АЛЬБО АЎТОГРАФЫ НА ПАМЯЦЬ
ПОСТАЦІ
КРОШЫНСКІ КАВАЛЬ І ПАЭТ
ПАЎЛЮКУ БАГРЫМУ
ТАК НАПІСАЛАСЯ
БЕЛАРУСКІ ДУДАР
ЗАКЛІК „МУЖЫЦКАЙ ПРАЎДЫ”
КАЛІНОЎСКІ
АД КУПАЛЬСКАГА АГНЮ
АКОПЫ, ГОД 1913-ы
КВЕТКІ І ПАЎЛІНКА
ВАВЁРАЧКІ
НА СТАНЦЫІ КОЛАСАВА
БОГАМ ДАДЗЕНЫ БЕЛАРУСІ
ЗВАНОЧКІ БЕЛЫХ ЛАНДЫШАЎ
У ЯЛТУ, ДА БАГДАНОВІЧА
ТОМІК ПУШКІНА
НА ЧОРНАЙ РЭЧЦЫ
ЛІСТЫ АД БРЫЛЯ
ЗАКАНАМЕРНАЕ СУПАДЗЕННЕ
ДАПАЎНЕННІ НАЎЗДАГОН
ПА ДАРОЗЕ Ў ЕЎЛІЧЫ
РАДАВЫ ПРАЎДЫ
ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА
АБЛАВА НА БЛІЖНЯГА
БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ: МІКОЛА ЗАСІМ
ІВАН АНОШКІН І БЕРАСЦЕЙШЧЫНА
КРЭПАСЦЬ ЖЫВЕ Ў СЭРЦЫ
ЛЕЙТЭНАНТ
СУСТРЭЧЫ, СУСТРЭЧЫ
ПРА НАСТАЎНІКА ФІЛФАКА
ТРЫ ІВАНЫ
„ПАХОД” У НАВУКУ
ТРОХІ ПРА КАХАННЕ
17 ВЕРАСНЯ 1964 ГОДА
З МАЛЬБЕРТАМ… ПА ГРЫБЫ
З ГРОДЗЕНСКАГА КУТА
У ЖАБІНЦЫ
УСЁ Ж РАССТАННЕ НАДЫШЛО

ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ БЕЗ КАЛЕСНІКА
ЛЯ БЕРАСЦЕЙСКАГА ВОГНІШЧА
„НА ШЧАСЦЕ, ДРУЖА”
КАРАТКЕВІЧ У БРЭСЦЕ
ЯК СТВАРАЮЦЦА РАМАНЫ
ЗАБЫТЫ АЎТОГРАФ
ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТЫ
„АД ДУШЫ. І НА ЎСЁ ДОБРАЕ...”
ПАЭТАЎ ВОСТРАЎ
ЧАГА АД КУПРЭЕВА
ТРЫПУТНІК, ЯКІ ЦВІЦЕ І ЎЗІМКУ
СОН
СВЯТЛІСТАСЦЬ ДОЛІ І РАДКА
СУРОВАЯ РАЛЛЯ
РУКА ДАПАМОГІ
ЛЯЦЯЦЬ БУСЛЫ
ДОБРЫ ДЗЕНЬ І БЫВАЙ
ЭКСПРОМТ
У ПАДАРУНАК ДЗЕЦЯМ
ДАБРЫНЯ
ІМЯ ВЫБРАЛА ЯНІШЧЫЦ
З РОДУ ЛІПСКІХ
СЯМЕЙНАЕ ІМЯ
КАЛІ ЦВІЛІ САДЫ
КАБ ПАЭЗІЯ БУРЛІЛА, ЯК РАКА
... І СТАЛА ПЕСНЯЙ НАЗАЎЖДЫ
ДА НАЗВЫ ВЁСКІ ХМЕЛЕВА
КАСКО ЦІ КАЗКА?
ФАТАЛЬНАЯ ДАТА
ВАСІЛЁВА НІЎКА
ДЗЕ КРЫЛЯЕ ПТУШКА НАДЗЕІ?
СЦІПЛЫ ПАЭТЫЧНЫ РУПЛІЎЦА
ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ ГАДУЛЬКІ
ЧАЛАВЕК БЕЗ УЗРОСТУ
ПАД ПЕСНІ ВЕСНАВЕЯ
З УДЗЯЧНАСЦЮ ПРЫ РАЗВІТАННІ

Літаратурна-мастацкае выданне

Бензярук Расціслаў Мацвеевіч

АЎТОГРАФЫ Эсэ, абразкі, вершы

Рэдактар А. Р. Бензярук Тэхнічны рэдактар Н. Я. Фіцнер Карэктар Н. Р. Баброва

Падпісана да друку 03.10.2008. Фармат $60x84^{1}/_{1в}$. Папера афсетная.

Гарнітура «Арыял». Рызаграфія. Ум. друк. арк. 5,81. Ул.-выд. арк. 3,18. Тыраж 150 экз. Заказ 3202.

Выдавец і паліграфічнае выкананне: прыватнае вытворча-гандлёвае унітарнае прадпрыемства «Издательство „Альтернатива"» ЛИ № 02330/0131883 ад 04.12.2006. ЛП № 02330/0131687 ад 26.10.2006. Пр. Машэрава, 75/1, к. 312, 224013 г. Брэст.